

Э. Казіміроўскі. «За чытаннем. Ксёндз Міхал Сапоцька».
1934. Палатно, алей. 106х80. НММ РБ.
Атрыбуцыя А. Міцкевіч, К. Дасько.



Юлус Шнорр фон Каральсфельд
«Чацвёрты дзень стварэння»

Кс. Марыюш Бэрнысь

## Даволі

Даволі табе Маёй ласкі
на страх і слабасць без меры
на боль цяжкое часіны
даволі табе веры

даволі табе Маёй ласкі
калі шлях замятуць завеі
каб прайсці па цёмнай даліне
даволі табе надзеі

даволі табе Маёй ласкі
на сумоўе з самім сабою
на шлях да Маёй крыніцы
даволі табе любові

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*



**У нумары 1/2019**
**НАША ВЕРА**

## СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ПАВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ДРУГАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ДУХУ

### Разуменне

**У якой ідзе гаворка пра веру як найпрацейшы сродак, з дапамогаю якога можна ўзысці да злучэння з Богам. Маецца на ўвазе другая частка *Цёмнай ночы* — ночы духу, што апявае другая страфа песні.**

### Раздзел 12

**У якім ідзе гаворка пра натуральныя ўспрыманні ўяўлення, тлумачыцца, чым яны ёсць, і даводзіцца, чаму яны не могуць быць адпаведным сродкам, каб дасягнуць паяднання з Богам. Таксама гаворыцца пра шкоду, якую яны могуць нанесці, калі ад іх не пазбавіцца.**

1. Перш чым пачаць гаворку пра візіі ўяўленчыя, якія звычайна ўласцівыя ўнутраным пачуццям — уяўленню і фантазіі, неабходна спачатку, каб захаваць парадак, сказаць нешта пра натуральныя ўспрыманні ўнутранымі цялеснымі пачуццямі. Такім чынам, мы пяройдзем ад меншага да большага, ад вонкавага да больш унутранага, пакуль не дасягнем таго інтымнага засяроджання, у якім душа злучаецца з Богам. Мы трымаліся гэтага парадку, калі спачатку гаварылі, як агаліць вонкавыя пачуцці ад натуральных уяўленняў прадметаў, а гэта значыць — натуральныя здольнасці жадання. Гэтаму была прысвечана першая кніга, у якой йшла гаворка пра *Ноч пачуццяў*. Затым мы пачалі гаварыць пра тое, як агаліць тыя ж самыя пачуцці ад вонкавых звышпрыродных уяўленняў, якія даюцца знешнім пачуццям (пра гэта гаворка ішла ў пяпярэднім раздзеле) для таго, каб душа ўвайшла ў *Ноч духу*.

2. Гэтую другую кнігу мы прысвецім таму, што адбываецца ў цялесным унутраным пачуцці, гэта значыць ва *ўяўленні і фантазіі*, якія мы таксама павінны вызваліць ад усіх гэтых формаў і ўяўных успрыманняў і якія натуральна ў іх узнікаюць. Таксама мы павінны давесці, што душы немагчыма дасягнуць злучэння з Богам, пакуль гэтыя ўнутраныя пачуцці не перастануць дзейнічаць, паколькі яны не могуць быць адпаведным і найпрацейшым сродкам для паяднання з Богам.

3. Неабходна адзначыць, што гэтыя два пачуцці, на якіх мы спынімся больш дэталёва, з'яўляюцца цялеснымі ўнутранымі пачуццямі і іх называюць уяўленнем і фантазіяй. Першае звычайна служыць другому: адно ўяўляе, а другое фармуе вобразы, выкарыстоўваючы ўяўленні. З пункту гледжання мэты нашага разважання, гаварыць пра ўяўленне азначае гаварыць пра фантазію, і таму мы не будзем разбіраць іх паасобку: усё, што мы скажам, будзе адносіцца да абодвух, бо ўсё, што гэтыя пачуцці можа ўспрыняць і выпрацаваць, называецца ўяўленнем ці фантазіяй. Тут я маю на ўвазе формы цялесных з'яваў ці вобразаў. Гэтыя формы могуць быць двух

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

відаў: звышнатуральныя і натуральныя. Калі гэтым пачуццям явяцца звышнатуральныя формы, яны ўспрымаюць іх пасіўным чынам. Такія з'явы, пра якія я буду гаварыць далей, я называю з'явамі, выкліканымі звышнатуральным чынам. Другія ж з'явы натуральныя ўнутраныя пачуцці ствараюць самі, бо маюць здольнасць ствараць іх пад выяваю формаў, фігураў і вобразаў. Такім чынам, уяўленне і фантазію можна ўжываць падчас медытацыі, якая з'яўляецца дыскурсіўным дзеяннем пасродкам вобразаў, форм і фігур, выпрацаваных і ўяўленых гэтымі здольнасцямі. Напрыклад, калі нехта ўяўляе сабе ўкрыжаванага Хрыста каля калоны ці які іншы эпізод з Ягонага жыцця, ці ўяўляе сабе пасад Бога, веліч і хвалу Божую як найпрыгажэйшае святло і гэтак далей. Да гэтага падобна нашае дзеянне, калі мы ўяўляем пэўныя рэчы, Божыя ці людскія, праз пачуцці ўяўлення. Каб дасягнуць злучэння з Богам, душа павінна вызваліцца ад усіх гэтых вобразаў, каб застацца ў цемры ў адносінах да гэтага пачуцця. Сапраўды, яны не маюць ніякіх непасрэдных адносінаў да Бога, гэтаксама, як іх не маюць выявы матэрыяльных рэчаў, што ўспрымаюцца пяццю цялеснымі пачуццямі.

4. Прычына гэтага ў тым, што ўяўленне не можа прыдумаць і ўбачыць іншыя вобразы, як толькі тыя, якія яно спазнала знешнімі пачуццямі, гэта значыць, што яно можа ўявіць толькі тое, што некалі пабачыла ці пачула, і гэтак далей. Самае большае, што можа стварыць ўяўленне, — гэта вобразы, падобныя да рэчаў убачаных ці пачутых, якія не маюць ні найвышэйшага быцця, ні нават роўнага таму, што пазналі знешнія пачуцці. Бо калі нехта ўяўляе перлавыя палацы ці залатыя горы, бо сапраўды бачыў перліны ці золата, на справе ўсе ягоныя ўяўленні маюць менш вартасці, чым самая маленькая колькасць золата ці адна толькі перліна, нават калі ўяўленне прапануе іх у вялікай колькасці і шчодрасці. І паколькі ўсе створаныя рэчы, як ужо было сказана, бясконца далёкія ад быцця Бога, усё, што можна ўявіць сабе падобнага да іх, не можа быць сродкам для паяднання з Ім і, больш за тое, яны значна аддаляць ад Яго, як ужо было сказана.

5. Тыя, хто ўяўляюць сабе Бога ў вобразе, напрыклад, вялікага полымя ці неверагоднага ззяння, ці ў якім-небудзь іншым вобразе, упэўненыя, што ўсё гэта падобна да Яго, насамрэч страшэнна аддаляюцца ад Яго. І нават калі для пачаткоўцаў гэтыя вобразы і разважанні як спосабы медытацыі неабходныя, каб іх душа паступова распалялася любоўю і каб даць душы пасілак пасродкам гэтых пачуццяў, аднак, як далей мы растлумачым, яны служаць толькі як аддалены сродак паяднання з Богам у тым сэнсе, што душы могуць выкарыстоўваць вобразы як сродак ажно да дасягнення духоўнага адпачынку. Яны павінны толькі прайсці праз яго, а не застацца ў ім, бо інача яны ніколі не дасягнуць мэты, якая зусім не падобная да гэтых аддаленых сродкаў і ўвогуле не мае нічога агульнага з імі, гэтаксама, як прыступкі лесвіцы не маюць нічога агульнага з пакоем, што знаходзіцца наверсе, бо яны з'яўляюцца толькі сродкам ягонага дасягнення. Таму, калі той, хто ўздымаецца па лесвіцы, не пакіне за сабою адну за другою ўсе прыступкі аж да апошняй, але захоча спыніцца на адной з іх, ніколі не дасягне прыемнага і ціхага пакою напрыканцы. Па гэтай прычыне душа, якая прагне ў гэтым жыцці дасягнуць паяднання, спачыну і найвышэйшага дабра, павінна прайсці праз усе прыступкі разважанняў, вобразаў і ведаў, прайсці праз іх і пакінуць іх за сабою, таму што ніводная з іх не адпавядае мэце, якой яна прагне дасягнуць, якою ёсць Бог. І таму гаворыць апостал Павел у Дзеях Апосталаў: «*Genus ergo cum simus Dei, non debemus aestimare auro, aut argento, aut lapidi, sculpturae artis, et cogitationis hominis, divinum esse simile*». — «*Дык калі мы належым да Божага роду, то не павінны думаць, што боства падобнае да золата ці срэбра, ці каменя, да выявы мастацтва і чалавечай фантазіі*» (Дз 17, 29).

6. І таму вельмі памыляюцца духоўныя асобы, якія напрактыкаваліся ў набліжэнні да Бога праз вобразы, уяўленні і медытацыю, што слушна для пачаткоўцаў, але ў момант, калі Ён запрашае іх да дабра больш духоўнага — унутранага і нябачнага, пазбаўляючы іх смаку і ўпадабання ў разважальнай медытацыі, яны губляюцца, баяцца адысці ад тых датыкальных спосабаў, да якіх прызвычаіліся. Яны нават намагаюцца затрымаць іх, працягваючы ісці, як раней, праз разважанні і медытацыі ўяўленняў, упэўненыя, што трэба, каб заўсёды так і было. У гэтым намаганні яны вельмі стамляюцца і не атрымліваюць ад гэтага ніякай карысці. Больш за тое, чым больш яны намагаюцца, каб ізноў адчуць ранейшы смак, тым больш павялічваецца і ўзрастае ў іх абыякавасць, стомленасць і душэўны неспакой, бо душы ўжо не падабаецца гэты пачуццёвы пасілак, як мы ўжо казалі, яна прагне іншага, больш далікатнага, больш унутранага і менш пачуццёвага, які ўжо не палягае на працы ўяўлення, але на

адпачынку душы, што заспакойваецца ў нерухомасці і цішы, што і ёсць больш духоўным. Бо чым далей душа ўваходзіць на шлях духу, тым больш сціхаюць асобныя дзеянні душэўных здольнасцяў, і яны больш засяроджваюцца на агульным і чыстым дзеянні. Бо калі б вандроўнік крочыў увесь час, ён бы ніколі не дасягнуў мэты. Калі б усё было толькі сродкам, навошта было б патрэбна дасягненне мэты і заканчэнне?

7. І таму так шкада бачыць многія душы, якія, у той час, калі іх душа хоча супакоіцца і спачыць ва ўнутранай нерухомасці, напоўненай спакоем і Божым адпачынкам, турбуюць яе, змушаюць выйсці вонкі і змушаюць яе ізноў бязмэтна вагацца, пакінуўшы дасягнутую канцовую мэту, дзе яна ўжо адпачывала, і вяртаюцца ізноў да разважання, гэта значыць да сродку, які вядзе да гэтага адпачынку. Усяму гэтаму спадарожнічае адчуванне гідкасці, непрыемнага прысмаку, бо душа хацела б, каб яе пакінулі ў спакоі, і не разумее, што з ёю адбываецца, бо не знаходзіць сабе месца, адчувае боль, падобна да таго, як, вярнуўшыся з працы ў месца адпачынку, чалавек ізноў мусіць вярнуцца на працу. І паколькі гэтыя асобы не разумеюць таямніцы свайго новага стану, яны думаюць, што іх апанавала лянота, бо яны нічога не робяць. Таму замест таго, каб адпачыць, яны не супакойваюцца, а намагаюцца ізноў і ізноў медытаваць і разважаць. Як вынік, іх напаўняе абыякавасць і стомленасць, бо яны прагнуць выціснуць сок з той садавіны, якая яго ўжо не мае. І больш за тое, мы можам сказаць, што чым больш яны непакояцца пра гэта, тым меншую карысць атрымліваюць. Чым больш яны ўпарцяцца ў такіх дзеяннях, тым горай яны сябе адчуваюць, бо вырываюць душу з духоўнага спакою, пазбаўляючы яе большага дзеля малога, і вяртаюць яе на шлях, які яна ўжо прайшла, і змушаюць яе рабіць тое, што яна ўжо зрабіла.

8. Неабходна папярэдзіць такія душы, каб яны вучыліся знаходзіцца ў гэтай нерухомасці, уважлівыя да любоўнай прысутнасці ў Богу, і не хваляваліся больш пра сваё ўяўленне і яго дзеянні, бо, як ужо было сказана, у гэтым стане ўсе здольнасці адпачываюць і не дзейнічаюць актыўна, але пасіўна паддаюцца дзеянню Бога. І калі яны часам дзейнічаюць, дык не праз сілу ці праз доўгае разважанне, але праз пяшчоту любові, якой іх вядзе Бог, а не праз дзейнасць душы, што мы растлумачым далей. Пакуль жа хопіць таго, што ўжо сказана, каб тыя, хто прагне ісці наперад, зразумелі, што абавязкова неабходна ў адпаведны момант навучыцца вызваляцца ад усіх гэтых спосабаў дзеяння ўяўлення ў залежнасці ад таго, колькі карысці яны ім прыносяць у адпаведнасці са станам, у якім яны знаходзяцца.

9. І для таго, каб было зразумела, у які час і ў які момант гэта павінна здарыцца, у наступным раздзеле я раскажу аб прыкметах, якія духоўныя асобы павінны заўважыць у сабе, каб зразумець, што настаў момант і час, каб свабодна спачыць у мэце, якой яны дасягнулі, і пакінуць у баку разважанні і дзейсныя ўяўленні.

## Раздзел 13
### У якім гаворка ідзе аб прыкметах, якія душа павінна заўважыць у сабе, каб даведацца, у які момант яна павінна пакінуць медытацыю і разважанне і перайсці ў стан кантэмпляцыі.

1. Каб прапанаванае вучэнне не здавалася такім цьмяным, неабходна ў гэтым раздзеле растлумачыць духоўнаму чалавеку, калі настае час і момант, у які ён можа перастаць разважаць з дапамогаю ўяўленняў, вобразаў і формаў, а таксама адзначыць, чаму іх нельга пакінуць ні перад тым, як гэтага запатрабуе дух, ні пасля гэтага. Бо сапраўды, як на шляху да Бога неабходна ў адпаведны час пакінуць усе гэтыя ўяўленні, вобразы і формы, каб яны не сталіся перашкодаю, гэтаксама неабходна не пакінуць адзначанае разважанне ўяўленнямі раней часу, каб пасля не вяртацца назад. Бо, калі для душаў, абазнаных у духоўным жыцці, уяўленні, народжаныя гэтымі здольнасцямі, не служаць непасрэдным сродкам для паяднання з Богам, то для пачаткоўцаў яны служаць як аддалены сродак, каб падрыхтаваць і прызвычаіць дух для духоўных рэчаў праз пачуцці. Яны таксама могуць паслужыць для таго, каб вызваліць душу ад усіх іншых вобразаў і ўяўленняў — часовых, нізкіх і натуралістычных. Таму тут я апішу некаторыя прыкметы і ўзоры, якія духоўны чалавек павінен заўважыць у сабе, каб даведацца, ці настаў адпаведны час і ці трэба іх пакінуць, ці не.

2. Першую прыкмету заўважае душа ў той момант, калі яна ўжо не можа больш ні медытаваць, ні разважаць, ні атрымліваць ад гэтага практыкавання такога задавальнення, як раней. Наадварот, цяпер яна адчувае абыякавасць да ўсяго таго, ад чаго раней яна, засяроджваючыся, атрымлівала задавальненне. Але душа яшчэ не павінна пакідаць медытацыю, пакуль атрымлівае ад яе плён і пакуль можа разважаць, ажно да моманту, калі яна

супакоіцца ў нерухомасці, і пра гэта нам гаворыць трэцяя прыкмета.

3. Другая прыкмета даецца, калі душа заўважае, што яна не жадае выкарыстоўваць ні ўяўленні, ні пачуцці да ніякай асобнай, вонкавай ці ўнутранай рэчы. Пры гэтым я не хачу сказаць, што ўяўленне цалкам знікае, яно яшчэ часта прысутнічае ў медытацыі, але я хачу сказаць, што душы больш не падабаецца засяроджанне на такіх рэчах.

4. Трэцяя прыкмета, самая пэўная, заключаецца ў тым, што душы пачынае падабацца заставацца на самоце з любоўнаю ўвагаю Бога, без асаблівых разважанняў, ва ўнутраным спакоі, нерухомасці і адпачынку, калі памяць, розум і воля нічога не робяць ці, прынамсі, калі яны ўжо не разважаюць, пераходзячы з адной рэчы да другой. Душа задавальняецца толькі любоўным засяроджаннем і агульным веданнем, пра якое мы ўжо гаварылі, не намагаючыся асабліва зразумець з дакладнасцю, што і як.

5. Духоўны чалавек павінен заўважыць у сабе прынамсі гэтыя тры прыкметы разам, перш чым наважыцца з пэўнасцю пакінуць стан разважання і пачуцця і ўвайсці ў стан кантэмпляцыі і духу.

6. Недастаткова наяўнасці толькі першай прыкметы без другой, бо можа стацца, што ўжо немагчыма, як раней, уяўляць сабе Божыя рэчы і разважаць над імі з-за нядбайнасці і недахопу стараннасці. І таму неабходная другая прыкмета, калі душа не хоча і не мае ні жадання, ні задавальнення думаць пра пабочныя рэчы. Бо калі немагчымасць засяродзіць уяўленне і пачуццё на Божых рэчах паходзіць з няўважлівасці і абыякавасці, у душы ўзнікае жаданне і ахвота звярнуцца да нечага іншага і аддаліцца. Але таксама недастаткова заўважыць у сабе першую і другую прыкметы, нязлучаныя з трэцяй, бо нават калі душа заўважае ў сабе няздольнасць думаць і разважаць пра Божыя рэчы ці пра аддаленыя ад Бога рэчы, гэта можа паходзіць ад меланхоліі ці ад кепскага настрою розуму і сэрца, якія могуць спарадзіць у пачуццях свайго роду здранцвенне і пэўную замаруджанасць, калі душа не думае ні аб чым і не мае ніякага жадання думаць, а прагне толькі заставацца ў гэтым прыемным бяздзеянні. Каб пазбегнуць гэтага, душа павінна мець у сабе трэцюю прыкмету, гэта значыць — любоўнае пазнанне і супакоеную ўважлівасць да Бога, як было ўжо сказана.

7. І хаця насамрэч, на пачатку, калі ўваходзіш у гэты стан, любоўнае пазнанне амаль немагчыма адрозніць, гэта адбываецца па дзвюх прычынах: па-першае, таму што напачатку гэтае любоўнае пазнанне вельмі субтыльнае і далікатнае і амаль неўспрымальнае; па-другое, душа, прызвычаеная да практыкавання медытацыі цалкам пачуццёвай, няздольная заўважыць і амаль не адчувае гэтую надпачуццёвую, чыста духоўную навіну. Гэта адбываецца асабліва тады, калі душа, не разумеючы свайго новага стану, не паддаецца яму, а намагаецца звярнуцца да практыкавання яшчэ больш пачуццёвага. Таму, нават калі ўнутраны поўны любові спакой разліваўся больш шырока, душа не здольная яго адчуць і парадавацца яму. Але калі душа прызвычаіцца ўсё больш паддавацца гэтаму спакою, ён пачне ўсё больш узрастаць у ёй, і яна пачне ўсё больш адчуваць у сабе любоўнае агульнае пазнанне Бога, якое будзе ёй падабацца больш за ўсе рэчы, бо яно без усялякага намагання дае спакой, адпачынак, смак і задавальненне.

8. І каб стала больш зразумелым тое, што было ўжо сказана, у наступным раздзеле мы пагаворым аб прычынах і матывах, паводле якіх неабходна мець гэтыя тры прыкметы, каб увайсці на духоўны шлях.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

# Дзеля большай хвалы Божай




*Інтэрв'ю — гэта звычайна размова тварам у твар, але ў гэты раз хацелася прайсціся побач з чалавекам і пагаварыць, гледзячы з ім у адным напрамку. З кім мы будзем праходжвацца і аб чым гаварыць? Наш суразмоўца — айцец Віктар Жук з Таварыства Езуса, або ордэну езуітаў. Ён нарадзіўся і вырас у Пінску, вучыўся ў звычайнай сярэдняй школе, у 2003 г., пасля заканчэння эканамічнага факультэта Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта, уступіў у навіцыят Расійскага рэгіёну Таварыства Езуса ў Новасібірску, дыяканскае пасвячэнне атрымаў 2 красавіка 2013 г. у рымскім касцёле Іль Джэзу (Найсвяцейшага Імя Езуса), 14 жніўня 2014 г. прыняў прэзбітэрскае пасвячэнне ў мінскім архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.*

*— Айцец Віктар, хацелася б больш даведацца пра Вашае пакліканне. Па заканчэнні школы Вы зрабілі, на першы погляд, вельмі практычны выбар: накіраваліся ў Люблін вывучаць эканоміку. Гэта было ўласнае рашэнне ці нечая падказка?*

— Шчыра кажучы, я выбраў эканоміку, таму што тады, напрыканцы 90-х, гэта быў адзін з модных накірункаў. Польскія карані з боку мамы дазволілі паехаць вучыцца ў Польшчу, і ў той час стыпендыя польскага ўраду была карыснаю для небагатай сям'і. Перад гэтым атрымалася паехаць у ЗША, каб год павучыцца ў амерыканскай школе дзякуючы яшчэ адной стыпендыі — з фонду Сораса. Гэта быў вельмі цікавы вопыт.

*— Пытанне, што рабіць са сваім жыццём, узнікла пасля атрымання дыплома ці яно было ўжо падчас вучобы ў Любліне?*

— Бліжэй да заканчэння вучобы ва ўніверсітэце я адчуў, што эканоміка, кар'ера ў бізнесе — гэта не маё. Раней былі і іншыя мары, хацелася неяк уладкаваць жыццё, пажадана дзесьці за мяжой. Можна сказаць, што на апошнім курсе я перажыў сваё другое навяртанне — першае адбылося яшчэ ў падлеткавым узросце, калі ў пэўны момант сапраўды паверыў у Бога. Адчуў, што не хапае чагосьці вельмі важнага, і прыйшоў да Бога як марнатраўны сын. У той час вярнуліся думкі пра святарства, якое вабіла яшчэ калі быў міністрантам. Тады, у 2002 годзе, я спачатку пасмяяўся з гэтых дзіцячых募 мараў, але пакліканне станавілася ўсё мацнейшым, і я зразумеў, што яно ад Бога, хоць я не адчуваў сябе вартым.

*— Пакліканне ў ордэн, з назвай якога ў большасці людзей звязаныя супярэчлівыя, адарваныя ад рэальнасці ўяўленні, — гэта крок адвагі ці даверу?*

— Чаму езуіты — не магу растлумачыць. Я не ведаў ніводнага езуіта перад уступленнем у ордэн. Напэўна, крыху вабіла слава ордэну, бо чуў пра яго ад знаёмых сясцёр манахіняў, якія жывуць духоўнасцю святога Ігнацыя з Лаёлы — заснавальніка ордэну, да іх належыць і мая родная сястра Вікторыя, якая стала для мяне светлым прыкладам манаскага жыцця. Перад тым як паехаць у прэнавіцыят ордэну ў Маскве, чытаў гісторыю святога Ігнацыя. Яго досвед і перажыванні адгукаліся ў маім сэрцы і здаваліся вельмі блізкімі. Калі перад уступленнем у навіцыят я знаёміўся з духоўнасцю заснавальніка ордэну далей, то яшчэ больш пераканаўся: гэта — маё.

Пра езуітаў са школьных падручнікаў можна даведацца шмат чаго негатыўнага. Таварыства Езуса ў XVII–XVIII стагоддзях мела вялікі ўплыў у Еўропе, перадусім у галіне адукацыі, што аўтаматычна стварала яму непрыяцеляў і нават прывяло да скасавання ордэну на 40 гадоў. Часта негатыўнае стаўленне да езуітаў у той ці іншай культуры залежыць ад агульнага стаўлення да каталіцызму (згадаем прыклад Расіі) ці наогул да хрысціянства (напрыклад, у Францыі пасля рэвалюцыі канца XVIII стагоддзя). Таму трэба вучыцца крытычна ўспрымаць розную інфармацыю.

*— Сёлета споўніцца 16 гадоў з часу Вашага ўступлення ў ордэн і 5 гадоў святарства. Добрая нагода азірнуцца на пройдзены шлях. Якой была Вашая фармацыя? Што яна дала? Ці можна сказаць, што яна скончылася?*

— Сапраўды, добра азірацца на пройдзены шлях — гэта вельмі адпавядае езуіцкай духоўнасці, дзе шмат увагі надаецца таму, як Бог дзейнічае ў жыцці чалавека ў канкрэтных абставінах, падзеях. Вяртаючыся думкамі ў перыяд фармацыі, я адчуваю вялікую

ўдзячнасць за ўсе тыя магчымасці, што атрымаў дзякуючы Таварыству Езуса. Спачатку быў навіцыят у Новасібірску — першы этап выхавання ў далучэнні да духоўнасці ордэну; потым — год вывучэння літаратуры і моваў у Маскве; два гады філасофіі ў Падуі; два гады пастырскай практыкі ў адной з сярэдніх школаў езуітаў у Мілане; вывучэнне тэалогіі ў Рыме (3 гады) і яшчэ 2 гады ў ЗША для тэалагічнай спецыялізацыі па Святым Пісанні. Езуіцкая фармацыя дае перш за ўсё глыбіню — ведаў і вопыту. Выхаванне ўключае ў сябе не толькі вучобу, але і шматлікія выпрабаванні, бо атрыманыя веды правяраюцца на практыцы. Салідная фармацыя неабходная, бо рыхтуе нас да самых розных заданняў і сапраўды трывае ўсё жыццё, але больш інтэнсіўна менавіта падчас вучобы.

*— Біблістыка — гэта прыцягненне, якое выявілася адразу ці было вынікам распазнавання?*

— Можна сказаць, што і тое, і другое. Імкненне паглыбляць разуменне Святога Пісання я адчуў вельмі рана, яшчэ ў прэнавіцыяце, і яно захавалася на працягу ўсёй фармацыі. Таму, калі гаворка зайшла пра спецыялізацыю для ліцэнцыята па тэалогіі, у мяне не было ваганняў, але канчатковае рашэнне прымаюць настаяцелі, якія ўзважваюць, ці адпавядаюць асабістыя прэферэнцыі езуіта патрэбам ордэну.

*— Што змянілася ў Вашым бачанні Таварыства Езуса? Наколькі члены супольнасці ведаюць, чым яно займаецца ў розных кутках свету? З чым можна параўнаць Таварыства Езуса — з сусветам, дзе планеты і сістэмы аддаленыя на вялікія дыстанцыі, або з «габеленам», агульную карціну якога бачыць толькі Бог, але, як сказаў славуты езуіт П'ер Тэйяр дэ Шардэн, «трымценне адной нітачкі адчуваецца ва ўсім палатне»?*

— Гэта няпростае пытанне. Сапраўды, у ордэне, які налічвае больш чым 15 тысяч членаў і дзейнічае больш чым у ста краінах, няпроста ведаць, чым займаюцца іншыя. Але, калі я сустракаю сабратоў з розных куткоў свету і іншых культураў, я адчуваю нашу з'яднанасць на вельмі глыбокім узроўні. Цяжка ў некалькіх словах акрэсліць, чым займаюцца езуіты ў розных правінцыях і абставінах, бо для члена Таварыства важны кожны сродак, які вядзе да большай хвалы Божай. Кожны год генеральная курыя выдае штогоднік, у якім змяшчае на ста старонках звесткі, аповеды, ілюстрацыі пра рэаліі нашых місій і апостальскіх ініцыятываў. Мабыць, яго можна лічыць невялічкаю часткаю такога «габелену». Толькі Бог бачыць поўную карціну, але гэта і наша адказнасць, каб адчуваць еднасць і падтрымліваць адзін аднаго ў супольнай місіі — перш за ўсё праз малітву, духоўную лучнасць.

*— Хацелася б больш ведаць пра месца Вашай цяперашняй працы. Чым з'яўляецца Інстытут святога Тамаша ў Маскве? І як увогуле праяўляецца прысутнасць езуітаў у Расіі?*

— Інстытут святога Тамаша — наш галоўны апасталат у сталіцы Расіі. Апроч акадэмічных заняткаў для 35-ці студэнтаў па напрамках «Вера і дыялог», «Псіхалогія і духоўнасць», мы праводзім мноства мерапрыемстваў — канферэнцыі, лекцыі, духоўныя практыкаванні, кінаклуб, экскурсіі ў музеі і рэлігійныя супольнасці, сустрэчы па бібліядраме і ў літаратурным клубе «*BombaCarta*», займаемся выданнем кніг і часопіса «Сімвал». Маштаб нашай дзейнасці невялікі, але мы імкнемся быць годнымі прадстаўнікамі каталіцкай тэалогіі ў цэнтры праваслаўя і адначасова весці дыялог з багатай усходняй хрысціянскай традыцыяй.

У Маскве езуіты маюць і іншыя пастырскія служэнні — нядзельная святая Імша для англамоўных вернікаў, споведзі, духоўныя практыкаванні як у самой сталіцы, так і ў іншых месцах, куды нас запрашаюць. Члены Таварыства Езуса служаць таксама ў Новасібірску, Томску, Кіргізіі, якая даручана нам Рымскім Папам. Да гэтай адзінай адміністратыўнай структуры належыць і тэрыторыя Беларусі: на дадзены момант у нашай краіне служаць 2–3 езуіты — у Віцебску і Гродне. Украіна, якая да нядаўняга часу таксама была часткаю гэтай структуры, цяпер адміністратыўна належыць да правінцыі Паўднёвай Польшчы.

*— У чым асаблівасці дыялогу, аб якім Вы ўзгадалі?*

— Дыялог з іншымі хрысціянскімі канфесіямі, а таксама рэлі-





гіямі (у першую чаргу з ісламам), з'яўляецца для нас прыярытэтам, асабліва ў тых рэгіёнах, дзе каталікі складаюць меншасць. Дыялог — гэта вельмі складаны працэс, але мы стараемся змяняць сітуацыю, імкнемся перамагаць негатыў, які часцей за ўсё грунтуецца на стэрэатыпах. Наш маскоўскі Інстытут — добры прыклад такога месца, дзе сустракаюцца прадстаўнікі розных веравызнанняў: каталікі, праваслаўныя, лютэране, нават няверуючыя. Адукацыя — магутны сродак супраць негатыву.

Новы імпульс нашым памкненням дала сустрэча папы Францішка і патрыярха Кірыла ў Гаване ў лютым 2016 года. Хоць рэакцыя многіх кансерватыўных праваслаўных была вельмі негатыўнаю, аднак ёсць адкрыта настроеныя вернікі як сярод свецкіх, так і сярод духавенства. Калі сустракаеш такіх людзей, робіш нешта разам з імі, гэта прыносіць вялікую радасць і суцяшэнне, дае надзею і матывацыю, каб працаваць на карысць большай еднасці паміж намі, вызнаўцамі Хрыста. Вядома, тут патрэбна вялікая цярплівасць і адкрытасць, гатоўнасць несці наступствы цяжкай гісторыі падзелаў.

*— Папа Францішак заклікае езуітаў быць «людзьмі распазнавання», як, зрэшты, і ўсіх хрысціянаў. Але што гэта значыць? Ці можна спадзявацца, не ведаючы асаблівасцяў ігнацыянскай духоўнасці, што падобныя заклікі будуць адпаведна зразуметыя?*

— Гэта вельмі добрае пытанне і тэма для паглыблення. Сапраўды, найлепшым чынам зразумець, што́ папа Францішак мае на ўвазе, кажучы пра распазнаванне, можна толькі ў кантэксце ігнацыянскай духоўнасці, гэта значыць той фармацыі, якую атрымаў Папа-езуіт. Таму, я лічу, што мы, сабраты Папы, маем цяпер асаблівую місію: дапамагаць Францішку ўводзіць «культуру распазнавання» сярод вернікаў у Касцёле, раскрываць яе сэнс. У духоўным працэсе распазнавання чалавек ставіць перад сабою мэту шукаць, знайсці і выканаць волю Божую ў сваім жыцці. Бог прамаўляе да нас рознымі спосабамі: праз словы Святога Пісання, праз голас Касцёла, праз знешнія абставіны, іншых людзей, а таксама як голас, які гучыць у глыбіні сэрца. Вучыцца чуць Божую мову і адказваць Яму штодзённа, прычым не як бязвольныя істоты, а як пакліка765ныя свабодна супрацоўнічаць у справе будаўніцтва Божага Валадарства — вось тая цудоўная карціна, пра якую ідзе гаворка. Канешне, святы Ігнацый і яго паслядоўнікі не маюць манаполіі на тое, каб тлумачыць гэтую духоўную рэчаіснасць, і ўсё ж менавіта правілы распазнавання, змешчаныя ў кнізе «Духоўныя практыкаванні» святога Ігнацыя, далі Касцёлу цудоўны сродак, каб разумець заканамернасці духоўнага жыцця і ўмець адпаведна рэагаваць у розных сітуацыях. Гэта вельмі цікавы, захапляльны працэс.

*— Часам яго называюць нават «мастацтвам распазнавання». Праз столькі гадоў паглыблення ў ігнацыянскую духоўнасць ці магчыма ахарактарызаваць яе сцісла? Чым яна прыцягвае людзей?*

— Я думаю, што ігнацыянская духоўнасць, асновай якой з'яўляецца спадчына самога святога Ігнацыя, развітая шматлікімі яго сынамі на працягу стагоддзяў, адкрывае менавіта тое вымярэнне, у якім чалавек адчувае сваю годнасць як свабодны супрацоўнік Божай ласкі, Божага прагнення для чалавецтва. Гэтая свабода — не заўсёды простая і лёгкая, бо разам з ёю ёсць і адказнасць за тую справу, якую Бог даручае табе, асабіста табе ў канкрэтных абставінах твайго жыцця. Шмат хто ў Касцёле схільны лічыць, што такая пазіцыя даволі небяспечная, бо так нібыта губляецца парадак, яснасць крытэрыяў, павага да традыцыі і іерархіі. Менавіта ў гэтым найчасцей абвінавачваюць папу Францішка. Для некаторых і ён, і самі езуіты — занадта прагрэсіўныя, для іншых жа наадварот — недастаткова прагрэсіўныя, але падобныя «этыкеткі» перашкаджаюць убачыць галоўнае: чалавека ў яго канкрэтнай сітуацыі перад Богам. Не чалавека ідэальнага, а такога, якім ён ёсць на самай справе, з усёй яго веліччу і слабасцю. Калі мы ўважліва чытаем Евангелле, то разумеем, што Езус кліча да сябе менавіта такіх людзей — не дасканалых, а ўсялякіх, тых, якія можа яшчэ не знайшлі Бога, але шчырым сэрцам Яго шукаюць; якія, можа, памыляюцца, і не раз, і не два, як апостал Сымон Пётр, напрыклад, але якія вераць, што Езус — Божы Пасланнік. І гэта ўжо іншае вымярэнне ігнацыянскай духоўнасці: у цэнтры — Езус Хрыстус, які нясе Добрую Навіну чалавецтву, або, лепш сказаць, які сам з'яўляецца гэтаю Добраю

Навіною ў жыцці кожнага чалавека. Хрысціянская вера ў гэтым разуменні — гэта асабістыя адносіны з Хрыстом у вельмі дакладным сэнсе гэтых словаў: гэта сапраўдныя, рэальныя адносіны, а не тое, што наша рэлігійнасць у розных формах можа прапанаваць нам як сурагат такіх адносінаў з Хрыстом жывым, бо Уваскрослым.

*— Дазвольце некалькі пытанняў пра Беларусь. Наколькі багатай была наша гісторыя на прысутнасць Таварыства Езуса, настолькі экзатычнай з'яваю, калі можна так сказаць, з'яўляецеся Вы як адзіны ў свеце езуіт з Беларусі. Калі паставіць разам тое, што было і што засталося, рэальнасць выглядае даволі сумна. Ці ўсё ж... лепей казаць аб надзеі? Як, на Вашую думку, езуіты хацелі б вярнуцца ў Беларусь: адразу нейкім сур'ёзным праектам або малымі крокамі?*

— Канешне, хацелася б, каб я перастаў быць такой «экзатычнаю з'яваю» і было больш езуітаў з Беларусі. Дзякуючы прысутнасці ў мінулым на землях нашай краіны Таварыства Езуса сапраўды засталіся вельмі значныя яго сляды — доказам з'яўляюцца былыя езуіцкія будынкі ў многіх гарадах. Дасягнуць нечага падобнага ў наш час немагчыма, але ёсць надзея на тое, што ўсё ж такі будуць пакліканні з Беларусі, будзе каму працаваць — тым, хто нарадзіўся тут, хто добра ведае мясцовую рэчаіснасць. З іншага боку, «нацыянальны прынцып» — зусім не адзіны ў Таварыстве Езуса, калі справа тычыцца размеркавання чалавечых рэсурсаў, асабліва ў сітуацыях недахопу людзей у пэўных месцах. Але на дадзены момант, як вядома, духоўным асобам з-за мяжы не вельмі проста атрымаць дазвол на служэнне ў Беларусі, і наш ордэн таксама сутыкнуўся з гэтаю праблемаю ўжо не раз. Цяжка сказаць больш канкрэтна, як можа развівацца прысутнасць Таварыства Езуса ў Беларусі — я бачу прыярытэт у тым, каб езуіты праводзілі ігнацыянскія рэкалекцыі, духоўныя практыкаванні, бо гэта найбольш каштоўны дар, які мы можам даць рэальна.

*— Што магло б даць пашырэнне прысутнасці езуітаў у нашай краіне ва ўмовах беларускай рэчаіснасці, у якой мы жывем сёння як Касцёл?*

— На маю думку, менавіта рэкалекцыі ў ігнацыянскім духу ў розных іх формах могуць дапамагчы вернікам дасягнуць больш асабістых адносінаў з Богам. Мне здаецца, што занадта часта вера ў нашым асяроддзі ўспрымаецца як знешнія паводзіны, выкананне нейкіх абавязкаў... Або думка пра Бога і Касцёл выклікае пачуццё віны ў большай ці меншай ступені, пастаяннае ўсведамленне ўласных недахопаў, неадпаведнасці. Канешне, кожнаму з нас патрэбна сталае ачышчэнне, імкненне да свабоды ад граху і ўсяго, што аддаляе ад Бога, але гэта можна няправільна ўспрымаць як наш асабісты высілак, пры дапамозе якога мы нібыта «здабываем» права быць перад Богам, «набываем» нашу годнасць. Святы Ігнацый у духоўных практыкаваннях ставіць чалавека непасрэдна перад Богам і перад Яго любоўю, адзін на адзін з Яго Словам, у якім заключана вялікае абяцанне і пакліканне. Зноў жа, не заўсёды такі працэс будзе лёгкім, але яго варта распачынаць і ісці па гэтым шляху з Богам.

*— Вы самі, пэўна, таксама крочыце побач з людзьмі ў якасці духоўнага кіраўніка? Калі не памыляюся, менавіта такі сэнс мае духоўнае кіраўніцтва: не правадырства, а спадарожнічанне на шляху веры? У чым адметнасць ігнацыянскага падыходу да духоўнага кіраўніцтва?*

— Згодна з тым, што я сказаў вышэй, духоўнае кіраўніцтва па-ігнацыянску — гэта сапраўды больш спадарожнічанне, суправаджэнне, дзе роля кіраўніка (дарэчы, святы Ігнацый пазбягае гэтага слова) — дапамагчы чалавеку быць у прамых адносінах з Богам, не замяшчаючы самога Бога. На хрысціянскім шляху ёсць месца для катэхізацыі, фармацыі сумлення, але мэта духоўнага кіраўніцтва іншая. Той, хто суправаджае, павінен дапамагаць у распазнанні тых унутраных духоўных «рухаў» (як іх называе Ігнацый), якія з'яўляюцца адной з формаў мовы Бога ў жыцці чалавека. Дыялог з іншым чалавекам пры гэтым вельмі важны, што пацвярджаецца стагоддзямі хрысціянскай традыцыі, бо калі чалавек застаецца сам-насам у духоўнай рэчаіснасці, гэта можа прывесці да вельмі небяспечных сітуацый. Тым не менш, прыярытэт застаецца за адносінамі «Бог — чалавек», а не «кіраўнік — духоўны падначалены».

*— Што яшчэ я абмінула, намагаючыся глядзець у адным з Вамі кірунку? Што найбольш прыцягвае Вашую ўвагу? Якія з'явы, патрэбы людзей і свету?*

— Закончыць размову можна так, як робіць папа Францішак: просьбаю аб малітве. Малітва, якая мае сваю крыніцу ва ўдзячным усведамленні Божага дару, — сапраўды вялікая справа, якая даспадобы Богу. Малітва за іншых — сведчанне нашай духоўнай лучнасці, імкнення адчуваць сябе часткаю адзінай рэчаіснасці. Няхай кожная сустрэча, якая глыбока кранае нас — жывая ці віртуальная, будзе нагодаю для просьбы аб Божым благаслаўленні для нашага бліжняга.

*— Цудоўнае заканчэнне вельмі цікавай размовы. Дзякуй вялікі, айцец Віктар.*

*Размаўляла Тэрэса Клімовіч.*

---

**Тэрэса КЛІМОВІЧ** — валанцёр праекта «Прастора малітвы». Нарадзілася ў вёсцы Кавалі Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт (2001). Вучыцца на ІІ курсе Мінскага тэалагічнага каледжа, вядзе ўласны блог «Ціхая старонка». Жыве ў Мінску.

Андрэй Шпунт

# Ксёндз канонік Юзаф Міцкевіч SJ — айцец прамысловай тэхналогіі ў Літве

Гісторыя Віленскага ўніверсітэта — створанай езуітамі нашай найстарэйшай навучальнай установы, аздоблена сузор'ямі імёнаў фундатараў, прафесуры і выпускнікоў. Дастаткова толькі прыгадаць — кардынал Юрый Радзівіл, Мікалай Радзівіл Сіротка, Пётр Скарга, Леў Сапега, Марцін Пачобут-Адляніцкі, Станіслаў Баніфацый Юндзіл, Адам Міцкевіч, Ігнацій Дамейка і г.д., і г.д. Імя кс. Юзафа Міцкевіча SJ, мабыць, згубілася б на гэтым палатне, калі б не апынулася ў водбліску аднайменніка, бо цалкам верагодна, што не стаў бы тым, кім яго ведае ўвесь свет, што пацвярджаецца шматлікімі даследаваннямі жыцця і творчасці Адама Міцкевіча, які ўсё жыццё трымаў перад вачыма партрэт «непамерна тоўстага ксяндза з хусткаю пад пахаю і табакеркаю ў руцэ».

З іншага боку, для кс. Міцкевіча гэта быў толькі эпізод на схіле жыцця, падчас якога ён здабыў славу айца фізікі (дакладней, прамысловай тэхналогіі) у Літве. Меў рэпутацыю чалавека неканфліктнага, добрасумленнага, абавязковага і вельмі пабожнага.

### У авангардзе станіславаўскіх рэформаў

Дзейнасць кс. Міцкевіча цалкам адпавядала тым пільным патрэбам, якія стаялі перад Рэччу Паспалітай у рэчышчы рэформаў Станіслава Аўгуста па стварэнні эфектыўнай гаспадаркі і моцнай мілітарнай сілы, каб супрацьстаяць прагным суседзям — Расіі, Аўстрыі і Прусіі. Сучасныя летувіскія даследчыкі Лібертас Клімка і Раса Ківілшэне (насуперак скептыкам, сучаснікам кс. Міцкевіча — прафесарам Віленскага ўніверсітэта Франку і Юндзілу, якія ці не былі аб'ектыўнымі, ці не маглі зблізку асэнсаваць маштабу дзейнасці свайго калегі) сцвярджаюць, што кс. Міцкевіч быў адным з найлепшых рэалізатараў рэформы навучання, якая праводзілася Камісіяй нацыянальнай адукацыі, рэформы, якая таксама была скіраваная на ўзмацненне эканамічнага патэнцыялу краіны.

### Эксперыментальная лабараторыя айчыннай прамысловасці

У 1775 г., з ініцыятывы біскупа Ігнацыя Якуба Масальскага, старшыні Камісіі нацыянальнай адукацыі, які імкнуўся да павышэння ўзроўню фізіка-матэматычных навук у Віленскім універсітэце, кс. Міцкевічу было даручана кіраўніцтва фізічным кабінетам, што стаў яго сапраўдным дзецішчам. Для фізічнага кабінета ён выклапатаў новае памяшканне, а да дзвюх тысяч польскіх злотых, выдзеленых на яго ўтрыманне Камісіяй нацыянальнай адукацыі, дадаў з уласнай кішэні яшчэ 16 тыс. (гэта наконт заўвагі Адама Міцкевіча аб тым, што апякун быў «вельмі скупы»; мабыць, гэта і праўда, але не ў пытаннях дабрачыннасці). Па словах Ежы Страйноўскага ў Польскім слоўніку біяграфічным, «кабінет быў абсталяваны прыладамі, прывезенымі з Лондана, а таксама выкананымі самім кс. Міцкевічам пры дапамозе віленскіх рамеснікаў». Кабінет быў даволі багаты і ўвесь час дапаўняўся новым абсталяваннем. Гэта былі фізічныя прылады і механічныя мадэлі разнастайных машын, неабходных у гаспадарцы Рэчы Паспалітай, у прыватнасці, мадэлі печаў, удасканаленыя кс. Міцкевічам, вынайдзеныя ім жа пірометры, ліфт, вынайдзены віленскім майстрам Гуцэвічам і выкарыстаны пры рамонце віленскай катэдры, конная малатарня для збожжа, ручная сячкарня, вадзяны млын на шэсць жорнаў, ветраны млын, ручны млын, вадзяная лесапільня, капёр, розныя прыстасаванні для пад'ёму цяжараў, драўляны мех, кацёл для перагонкі гарэлкі, громаадвод і г.д. У спісе, зробленым падчас ліквідацыі Віленскага ўніверсітэта ў 1832 г., названы 83 прылады, набытыя кс. Міцкевічам, хаця на самай справе ў розныя гады іх было болей, але шмат было знішчана.

У 1841 г. збор быў вывезены ў Кіеў, дзе загінуў падчас Другой сусветнай вайны.

---

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996–1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998–2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных публікацый.

### Айцец прамысловай тэхналогіі

Фізічны кабінет быў свайго роду вучэбнай пляцоўкай, эксперыментальнай лабараторыяй, палігонам. Сапраўдным полем дзейнасці для кс. Міцкевіча была ўся Літва, гаспадарка якой з пачатку XVIII ст. пачала пераходзіць на мануфактурную вытворчасць. Укараняліся разнастайныя прамысловыя прылады, што вызвалялі ці палягчалі працу людзей, рабілі яе больш прадуктыўнаю, і кс. Міцкевіч быў галоўным кансультантам і памочнікам у пытаннях увядзення новага абсталявання ці паляпшэння старога. Таму кс. Міцкевіча і звалі «айцом фізікі», хаця, дакладней, гэта была прамысловая тэхналогія, распаўсюднікам якой ён быў таксама. Польскі даследчык гісторыі Віленскага ўніверсітэта Юзаф Бялінскі пісаў, што кс. Міцкевіч значных працаў па фізіцы не пакінуў, а тое, што выдаў без указання свайго імя, нічым асаблівым не вылучалася, і ўсё ж такі ён меў значныя заслугі ў практычным прымяненні фізічных ведаў у рамёствах і прамысловасці. Лекцыі кс. Міцкевіча мелі шырокі поспех не толькі ў студэнтаў, але ўвогуле ў віленскім грамадстве, настолькі яны былі цікавыя нават для тых, хто не меў дачынення да фізікі і матэматыкі. Асаблівую ўвагу ксёндз надаваў ужытковаму характару даследаванняў і вынаходніцтваў, «кідаючы» іх вынікі ў шырокія народныя масы, арганізуючы, напрыклад, папулярныя лекцыі па арыфметыцы, геаметрыі і механіцы для рамеснікаў. У лекцыі па фізіцы кс. Міцкевіч уводзіў папулярную тэхналогію. Яго больш цікавіла, напрыклад, як зрабіць печы, каб яны не дымілі, як вырабіць вяроўкі, каб яны былі больш моцнымі, замест таго, каб падвесці пэўныя фізічныя з'явы пад пэўныя матэматычныя формулы, што выклікала незадаволенасць некаторых паважаных віленскіх прафесараў.



Кс. Юзаф Міцкевіч.
Паводле накіду, змешчанага ў выданні: Władysław Bełza. «Album pamiątkowe Adama Mickiewicza». Lwów, 1889.
Аўтар не ўказаны.

Хаця кс. Міцкевіч і не вельмі шмат друкаваўся, але часам ён лічыў за лепшае ўвогуле не ставіць свайго імя. Аднак нам вядомы яго працы, такія як «Аб печах паўэліптычнай фігуры» (Вільня, 1801) і «Увагі аб метэаралогіі і аб спосабе ажыццяўлення метэаралагічных назіранняў» (Вільня, 1813). Прапанаваная ім канструкцыя печаў давала магчымасць эфектыўнай і эканамічнай перагонкі дзёгцю, смалы, вырабу драўнянага вугля і абпальвання цэглы. На абпальванне 1 тыс. цэглы было дастаткова аднаго воза дроў, а на 10 тыс. — сямі вазоў.



Герб «Порай».

### Дабрадзей Адама Міцкевіча і ўсіх бедных студэнтаў

Акрамя таго, што кс. Міцкевіч выдаткоўваў уласныя сродкі на развіццё айчыннай навукі (яго каштоўная бібліятэка з выданнямі па фізіцы і метэаралогіі была адкрыта для ўсіх, а сваю калекцыю медалёў ён перадаў універсітэту), на працягу чатырох гадоў ён без аплаты выконваў абавязкі дэкана, а ў адсутнасць рэктара сем месяцаў замяшчаў і гэтую пасаду і шчодра падтрымліваў бедных студэнтаў. Як піша даследчык жыцця і творчасці Адама Міцкевіча Юзаф Траццяк: «Калі б не ксёндз канонік, ягоны аднайменнік, верагодна, не атрымаў бы ўніверсітэцкай адукацыі і геній яго, мабыць, прапаў бы, а ў любым выпадку не пайшоў бы такім высокім і прыгожым шляхам. Без гэтага пратэктара маці нашага паэта, незаможная і абцяжараная шматлікай дзятвой, гарантавана не мела б сродкаў на ўтрыманне сына ў Вільні на працягу некалькіх гадоў, і Адам практыкаваўся б у навагрудскай адвакатуры, як старэйшы брат Францішак». Кс. Міцкевіч даў будучаму паэту прытулак у сваёй кватэры ў рэктарскім доме, дзе Адам пражыў больш



Адам Міцкевіч.
Паводле парыжскага дагератыпу. 1842 г.
Аўтар невядомы.




Караль Качкоўскі на паштовай марцы
IV Міжнароднага кангрэса вайсковай медыцыны і фармацыі.
Варшава, 30 мая – 4 чэрвеня 1927 г.

за паўтара года, і параіў, каб той прэтэндаваў на занясенне ў спіс кандыдатаў (абітурыентаў) будучых настаўнікаў у дзяржаўных гімназіях. З яго пратэкцыі ў далейшым юны Адам Міцкевіч атрымаў і месца для пражывання, і адпаведную стыпендыю. Зразумела, спачатку ён трапіў на фізіка-матэматычны факультэт, але ўжо ў другім акадэмічным паўгоддзі перайшоў на факультэт літаратуры і вольных мастацтваў. Кс. Міцкевіч не пакідаў без увагі і культурнае развіццё свайго падапечнага: падбіраў для яго кнігі са сваёй бібліятэкі, спрыяў наведванню тэатра, а пасля прасіў пераказаць змест спектакля і рабіў заўвагі.

З кватэры кс. Юзафа Міцкевіча Адам Міцкевіч ад'ехаў за два месяцы да яго смерці…

**Штрых да партрэта**

Кс. Юзаф Міцкевіч, цвёрды і патрабавальны ў пытаннях хрысціянскай маралі, што ў «галантным», а правільней распусным XVIII ст. выглядала ў прывілеяваных саслоўях анахранізмам, тым не менш карыстаўся вялікаю павагаю і любоўю студэнтаў Віленскага ўніверсітэта. У якасці штрыха да партрэта ксяндза каноніка прывядзём урывак з успамінаў сябра па *alma mater* Адама Міцкевіча, прафесара Варшаўскага ўніверсітэта і генерала штаб-лекара польскай арміі падчас паўстання 1830/31 гг. Караля Качкоўскага, які сведчыць, што пры паступленні на медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта трэба было на працягу года прайсці падрыхтоўчы курс на фізіка-матэматычным факультэце. Паводле правілаў, кожны абітурыент павінен быў прад'явіць дэкану дыплом і пасведчанні раней скончаных навучальных установаў, на падставе чаго рабілася выснова аб тым, ці можа іх уладальнік быць залічаны ў студэнты. На сажнёвым крамянецкім патэнце К. Качкоўскага не менш вялікімі літарамі было выведзена: *ГАНАРАВАНЫ МЕДАЛЁМ*, і гэта, не лічачы штогадовых узнагародаў, таму ён не сумняваўся, што ўсё пойдзе як па масле. Праўда, яго папярэджвалі, што ксёндз дэкан вельмі патрабавальны і на патэнт і пасведчанні нават не паглядзіць, а вось хто яго (тут Качкоўскі выкарыстоўвае прастамоўе. — А. Ш.) у лапу не пацалуе, хоць быў бы царом Саламонам — можа ісці за дзверы. Толькі на гэта ўпэўнены ў сваіх сілах уладальнік прыгожага патэнта не звярнуў увагі, палічыўшы за студэнцкія містыфікацыі, каб потым высмеяць навічка.

У прызначаны дзень К. Качкоўскі смела рушыў наперад, трымаючы перад сабой разгорнуты патэнт. Ксёндз дэкан утульна размясціўся ў крэсле з падлакотнікамі і паклаў на стол пухнатыя, як пончыкі, рукі. Прадстаўленне патэнта суправаджалася поўным ушанавання паклонам. Вымавіўшы выразна сваё імя і прозвішча, Качкоўскі адступіў на пару крокаў у чаканні… Пасля хвіліны маўчання

ксёндз дэкан з агідай, нават не зірнуўшы на патэнт, адкінуў яго і гнеўна, голасна зашапялявіў:

— Пайшоў прэч, васпан! Яшчэ ніколі не прымаў такога грубіяна, невука і дзяціну. Не паказвайся, васпан, пакуль розуму не набудзеш.

Качкоўскі адразу ж аглух, аслеп і анямеў. У блізкім да страты прытомнасці стане ён пакінуў канцылярыю. Калегі пасмяяліся, супакоілі і параілі назаўтра зноў ісці да ксяндза дэкана. Пайшоў, зноў прадставіў патэнт, пацалаваў руку і задэкламаваў, як навучылі:

— Маю гонар скласці Яго Вялебнасці дэкану мой патэнт.

Ксёндз дэкан прыняў яго так, нібы ніколі раней не бачыў. Зірнуў на патэнт і лагодна, з усёй дабрынёй сказаў:

— Добра, каханку! Яшчэ такога прыгожага патэнта я не бачыў! Пачцівы кавалер, вучыся добра і штомесяц спавядайся.

**Кароткая біяграфічная даведка**

Юзаф Міцкевіч нарадзіўся 12 чэрвеня 1744 г. у Вялікім Княстве Літоўскім (магчыма, у Гарадзенскім павеце). Паходзіў са шляхты герба «Порай зменены» (у клейнодзе замест ружы — княжацкая мітра). На думку Урускага, быў сынам Якуба і дзядзькам Адама Міцкевіча.

Пачатковую адукацыю атрымаў у Гародні.

13 жніўня 1761 г. уступіў у Таварыства Езуса.

Навучаўся ў Віленскай акадэміі (1761–1773). Вывучаў фізіку пад кіраўніцтвам Марціна Пачобута-Адляніцкага (у далейшым — адзін з найбліжэйшых яго супрацоўнікаў) і Андрэя Стжэцкага.

Атрымаў ступень доктара філасофіі і вольных навук.

Святарскае пасвячэнне прыняў у 1773 г.

Кіраўнік кабінета фізікі Віленскага ўніверсітэта (1775–1817).

Прафесар эксперыментальнай фізікі ў Галоўнай літоўскай школе (былая Віленская акадэмія; 1781–1804).

Па загадзе Станіслава Аўгуста вызначаў геаграфічную шырату паветаў ВКЛ.

Па даручэнні графа Яўхіма Храптовіча ў 1787 г. праводзіў экспертызу салёных мінеральных водаў у Стаклішках (Троцкі пав.).

Шукаў жалезную руду для патрэбаў першай у Літве доменнай печы ва ўладаннях графа Я. Храптовіча ў Вішневе.

Падчас паўстання 1794 г. уваходзіў у склад Цэнтральнай літоўскай дэпутацыі і займаўся справамі асветы.

Сумесна са Станіславам Баніфацыем Юндзілам даследаваў радовішчы торфу ў ваколіцах Нясвіжа, Міра, Ляхавічаў (восень, 1799).

У 1803 г. з ініцыятывы кс. Ю. Міцкевіча пачалося стварэнне сеткі метэаралагічных станцый. Улічваючы тое, што навуковая віленская акруга ахоплівала вялікі абшар з землямі Беларусі і Украіны, створаная сетка (72 станцыі) не мела на той час сабе роўных. Для рэалізацыі гэтай амбіцыйнай праграмы ўдалося атрымаць немалыя грошы — 2 088 руб. срэбрам.

Дэкан фізіка-матэматычнага факультэта Віленскай акадэміі (1799, 1804, 1811).

Член камітэта па справах універсітэтаў у Расійскай імперыі (1803).

Цэнзар кніг (1805–1814). Прыкладаў намаганні для развіцця універсітэцкай друкарні.

Ганаровы старшыня Віленскага навуковага таварыства (1806–1807).

Рэктар Віленскага імператарскага ўніверсітэта (1806–1807).

Кіраўнік камітэта па складанні правілаў унутранай арганізацыі Віленскага імператарскага ўніверсітэта (1806–1808).

Член будаўнічага камітэта Віленскага імператарскага ўніверсітэта.

Канонік Смаленскі (1794), канонік Жмудскі (1804), канонік Віленскі (1808).

Пробашч універсітэцкага касцёла св. Яна (1815).

Пробашч вішнеўскі (паводле Урускага).

З 5 ліпеня 1817 г. жыў у Вільні. Больш за год кс. Юзаф Міцкевіч мужна змагаўся з хваробаю. Ведаючы, што памірае, не пакідаў сваіх абавязкаў. Святар, які прысутнічаў пры апошніх хвілінах святой памяці нябожчыка, не мог без слёз сведчыць аб годнай і прыгожай хрысціянскай смерці…

**ЛІТАРАТУРА**


1. Bieliński J. Stan nauk matematycznych za czasów Wszechnicy Wileńskiej. — Warszawa, 1890. — S. 53, 113–114.
2. Bieliński J. Uniwersytet Wileński. T. II. — Kraków, 1899–1900. — S. 70–75.
3. Dernałowicz M., Kostenicz K., Makowiecka Z. Kronika życia i twórczości Mickiewicza. Lata 1798–1824. — Warszawa, 1957. — S. 78–79.
4. Frank J. Pamiętniki. T. I. — Wilno, 1913. — S. 62–66.
5. Głos profesora Golańskiego na posiedzeniu publicznem Uniwersytetu Imperatorskiego Wileńskiego dnia 15 września 1817 roku ku pamiątce zeszłego profesora X. Józefa Mickiewicza//Dziennik Wileński T. VI. — Wilno, 1817. — S. 409–423.
6. Kaczkowski K. Wspomnienia z papierów pozostałych po ś. p... generał sztab-lekarzu wojsk polskich ułożył Tadeusz Oksza-Orzechowski. T. I. — Lwów, 1876. — S. 61–65.
7. Kallenbach J. Adam Mickiewicz. T. I. — Lwów–Warszawa–Kraków, 1926. — S. 24–25.
8. Klimka L., Kivilšiene R. Gabinet Fizyczny pod rządami profesora Józefa Mickiewicza: Materiały do historii nauczania fizyki w Uniwersytecie Wileńskim//Analecta 12/1–2 (23–24), 25–67. — Warszawa, 2003.
9. Mickiewicz Wł. Żywot Adama Mickiewicza. T. I. — Poznań, 1890. — S. 30–31.
10. Strojnowski J. Mickiewicz Józef//PSB. T. XX/4 zeszyt 87. — Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1975. — S. 707–708.
11. Tretiak J. Młodość Mickiewicza (1798–1824). T. I. — Petersburg, 1898. — S. 39–43.
12. Tretiak J. Mickiewicz w Wilnie i Kownie. Życie i poezya. T. I. — Lwów, 1884. — S. 5–12.
13. Tretiak J. Adam Mickiewicz w świetle nowych źródeł. — Kraków, 1917. — S. 2.
14. Uruski S. Mickiewicz h. Poraj odm.//Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. X. — Warszawa, 1913. — S. 380–382.
15. Uziębło L. Ksiądz Józef Mickiewicz w świetle przyczynków nowych kilku//Kwartalnik Litewski. T. I. — Petersburg, 1910. — S. 81–88.

Надзея Усава

# Парадокс Эўгеніюша Казіміроўскага

У лютым 2019 года на рэстаўрацыйнай выставе «Адкрыццё сапраўднага» да 80-годдзя Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь з'явілася карціна «За чытаннем» польскага мастака Эўгеніюша Казіміроўскага. Яна дэманстравалася як прыклад атрыбуцыі, ажыццёўленай у працэсе рэстаўрацыі (быў зняты пажоўклы лак). Да рэстаўрацыі ні аўтар, ні мадэль, ні дата стварэння твора былі не вядомыя. Карціна паступіла ў 1944–1947 гадах у Дзяржаўную карцінную галерэю, пра што сведчыла наклейка на падрамніку. Магчыма, яна знаходзілася ў даваенным зборы галерэі. У 1954 годзе спецыяльная камісія пастанавіла ўвесці карціну ў інвентар галерэі, што было зроблена чамусьці толькі ў 1963 годзе пад назваю «Мужчына ў крэсле-качалцы за чытаннем кнігі» (1940). Крыніцы паступлення карціны былі адзначаны няпэўна — «ад розных асобаў і ўстановаў». Так звычайна пісалі, калі зусім не было версій аб паходжанні твора, што было не рэдкасцю ў першыя пасляваенныя гады, калі ўлік яшчэ не быў наладжаны альбо здатчык не хацеў называць сваё прозвішча. Многія мінчане пасля вайны прыносілі карціны ў галерэю з нумарамі даваенных збораў.



Э. Казіміроўскі. «За чытаннем. Ксёндз Міхал Сапоцька» (фрагмент карціны). 1934. Палатно, алей. 106х80. НММ РБ. Атрыбуцыя А.Міцкевіч, К.Дасько. Рэстаўратар К. Ісаева.

У кнізе паступленняў было пазначана, што «подпіс мастака нечытэльны». Сапраўды, подпіс мастака ў правым ніжнім куце твора моцна размыты, росчыркам змазана дата і пасаджана пляма, падобная да кляксы. Візуальныя спробы яе прачытання беспаспяхова прадпрымаліся яшчэ ў 1990-я гады, але толькі ў 2018 годзе пры зверцы фондаў захавальніку Кацярыне Дасько і кандыдату біялагічных навук, загадчыцы сектара фізіка-хімічных даследаванняў Анжаліцы Міцкевіч з выкарыстаннем моцнага мікраскопа пад рознымі ракурсамі асвятлення ўдалося

**Надзея УСАВА** — мастацтвазнаўца, вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Нарадзілася ў Гомелі ў 1958 годзе. Скончыла Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Ленінградзе па спецыяльнасці «мастацтвазнаўства» (1986 г.). У 1993 г. скончыла аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Акадэміі навук Беларусі. Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў намінацыі «Музейная справа» за экспазіцыі ў новым корпусе НММ РБ (2007). Аўтар творчых канцэпцый і тэматыка-экспазіцыйных планаў экспазіцыі «Прастора Хаіма Суціна» ў г.п. Смілавічы, некалькіх экспазіцый у замкавым комплексе «Мір» (2010), член навукова-творчай групы па стварэнні экспазіцый у Нясвіжскім замку (2011–2012). Аўтар звыш 250-ці артыкулаў па мастацтве Беларусі.

разабраць подпіс шляхам падбору літараў па сэнсе для вызначэння прозвішча: Eug. Kazimirow (s) ki (?) V (W) iln (o), 1933 (31 (4). У Вільні ў 1930-я гады сапраўды працаваў мастак Марцін Эўгеніюш Казіміроўскі (1873–1939). Подпісы на іншых яго творах падобныя з наяўнаю на карціне. Звестак пра гэтага мастака было дастаткова ў інтэрнэце, бо ў 2014 годзе ў Вільні і Беластоку прайшла яго рэтраспектыўная выстава «Эўгеніюш Казіміроўскі: Вільня–Беласток», на якой дэманстравалася 40 твораў. Хто ж такі Казіміроўскі?

Ён нарадзіўся ў невялікім гарадку Выгнанка на Падоле, вучыўся ў Мюнхене ў школе Ашбэ, у Кракаве — у знакамітага Вычалкоўскага, працаваў у Львове, Вільні і скончыў сваё насычанае жыццё ў Беластоку. Нядзіўна, што гэты мастак вядомы ў Польшчы і Літве, дзе захоўваецца большасць яго твораў, і зусім не вядомы ў Беларусі, хаця галоўны твор ягонага жыцця, сусветна вядомы «Езус Міласэрны» (1934), мае да Беларусі непасрэднае дачыненне: з 1956-га да 1986 года абраз знаходзіўся ў касцёле св. Юрыя ў вёсцы Новая Руда Гродзенскага раёна.

Карціна «За чытаннем» (1934) — адзінае палатно Казіміроўскага ў калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Яно вельмі каштоўнае, бо на ім, як высветлілася нядаўна, намаляваны заказчык і фундатар карціны «Езус Міласэрны» — ксёндз з Валожыншчыны Міхал Сапоцька (1888–1975).

Пытанне ўстанаўлення імя мадэлі пры наяўнасці аўтара было вырашана па ўскосных дадзеных: пры ўважлівым разглядзе карціны высветлілася, што на ёй намаляваны не проста мужчына, а ксёндз, пра што сведчаць чорная сутана і каларатка — жорсткі белы каўнерык з падшытай да яго манішкаю, якія ксяндзы звычайна адзяваюць пад сутану, а таксама кніга з чырвонаю закладкаю — Брэвіярый. Здагадка, што гэта ксёндз Міхал Сапоцька, пацвердзілася пры параўнанні фотаздымкаў і іншых выяваў святара (напрыклад, партрэта пэндзля Пятра Сергіевіча 1947 года) і дазволіла захавальніку фондаў Кацярыне Дасько вызначыць імя мадэлі і нават месца напісання карціны — Вільня, вуліца Расу, 6 (цяпер 4-а). Мастак і ксёндз, па звестках літоўскіх даследчыкаў, жылі па гэтым адрасе ў адным доме ў розных яго паловах. Каб канчаткова пераканацца ў атрыбуцыі, па просьбе Кацярыны Дасько супрацоўніца музея Янкі Купалы Марыя Барткова наведала гэты дом і пераканалася ў тоеснасці інтэр'ера.

Ксёндз Міхал Сапоцька прыцягнуў вопытнага прафесійнага мастака Эўгеніюша Казіміроўскага да стварэння важнага рэлігійнага палатна. Задача была няпростая: трэба было ўвасобіць вобраз Езуса Міласэрнага («Езу, давяраю Табе») па візіях сястры Фаўстыны Кавальскай, спаведнікам якой быў Міхал Сапоцька. Гэтае палатно стваралася ў яе прысутнасці ў майстэрні Эўгеніюша Казіміроўскага ў 1934 годзе. Тады ж, верагодна, і быў напісаны партрэт фундатара і заказчыка — ксяндза Сапоцькі, які назіраў за працаю мастака. Выкананая тады карціна з цягам часу зрабіла Казіміроўскага па сутнасці «мастаком адной карціны», пакінуўшы ў ценю іншыя яго творы.



Абраз Езуса Міласэрнага пэндзля Э. Казіміроўскага. 1934 г.

Віленскі перыяд — самы працяглы ў творчасці Казіміроўскага. Да гэтага ў Львове Казіміроўскі зрабіў некалькі дэкаратыўных пано для вакзала, у Кракаве напісаў на замову шмат вытанчаных партрэтаў у стылістыцы «Млодэй Польскі». У Вільню ён пераехаў на пачатку Першай сусветнай вайны і працаваў выкладчыкам у настаўніцкай семінарыі ў Троках, а таксама дэкаратарам у мясцовых тэатрах — Польскім і Летнім. Казіміроўскі пражыў у Вільні амаль 22 гады, быў знаёмы з многімі мастакамі горада, у тым ліку з Фердынандам Рушчыцам, якога вельмі паважаў. «Калі я і магу пратрымацца ў Вільні, то толькі дзякуючы Вам... Бо менавіта Вы прышчапілі Вільні патрэбу звяртацца да мастакоў», — запісаў Рушчыц у сваім дзённіку ў 1917 годзе адказ Казіміроўскага на сваё пытанне, як яму жывецца ў Вільні. Ён быў сябрам дзвюх супольнасцяў мясцовых мастакоў — Асацыяцыі мастакоў і Віленскай асацыяцыі незалежных мастакоў, з якой ён прымаў удзел у выставах як партрэтыст і пейзажыст. У гэты ж перыяд ён піша некалькі партрэтаў вядомых дзеячаў, у тым ліку віленскага ваяводы Стэфана Кіртыкліса (1931), рэктара Віленскага ўніверсітэта Марціна

Здзіхоўскага (1932), пазней — партрэт маршалка Юзафа Пілсудскага (1937). Вядомыя і больш раннія яго партрэты — партрэт рэктара кракаўскай Акадэміі, прафесара-механіка Сарыюша Бельскага, партрэты рабінаў і звычайных гарадскіх жыхароў.

Партрэт ксяндза Міхала Сапоцькі адрозніваецца ад многіх іншых асаблівай цеплынёю і немудрагелістасцю, хоць і мае налёт правінцыйнай традыцыйнасці. У ім дамінуе жывапіс, а не малюнак, як гэта было раней. Рэнтгенаўскія здымкі паказваюць працэс працы над карцінаю: мастак перапісаў галаву, спыніўшыся на профільным ракурсе. Ён наогул любіў няпростыя профільныя партрэты, як, напрыклад, партрэт генерала Стэфана Папелаўскага. Казіміроўскі напісаў не проста партрэт, а партрэт-карціну, у якой асоба, не выходзячы на першы план, пагружаная ва ўтульную атмасферу ўласнага дома. Інтэр'ер служыць тут сімвалічнай характарыстыкаю мадэлі: нездарма так старанна намаляваны пакой з высокаю столлю — былым касцёльным памяшканнем. Мастак адлюстроўвае заглыбленага ў чытанне ксяндза контражурам у профіль у крэсле-качалцы на фоне акна з запаленаю лямпаю і белаю фіранкаю, раслінамі ў жбанках, якія пераплятаюцца паміж сабою. Падрабязна паказана сціплая абстаноўка дома — плеценая з лазы этажэрка з кнігамі, утульнае крэсла, просты драўляны стол са сціплым букецікам палявых кветак. Усе гэтыя дэталі падкрэсліваюць просты, амаль аскетычны побыт ксяндза, запаволены час, цішыню вечара і засяроджанне на чытанні. Вядома, што патаемным жаданнем кс. Сапоцькі было цалкам прысвяціць сябе філасофіі рэлігіі, багаслоўскім заняткам, якім ён мог аддавацца толькі ўвечары.

Адчуваецца, што знаёмства мастака і мадэлі было не толькі суседскім: іх звязвалі і агульныя інтарэсы, і захапленні, і шчырае сяброўства. Нездарма мастака называлі «сябрам святога ксяндза». Яны пазнаёміліся, верагодна, у 1924 годзе, калі ксёндз Міхал прыехаў у Вільню, дзе кіраваў Галоўнай семінарыяй і выкладаў на тэалагічным факультэце ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. У 1934 годзе ксёндз Міхал атрымаў званне дацэнта ў пастырскай тэалогіі і быў прызначаны пробашчам касцёла св. Міхала, у кляштарным крыле якога размяшчалася Віленскае краязнаўчае таварыства, куды ўваходзіў і Казіміроўскі.

Магчыма, мастак падарыў гэтую карціну сваёй мадэлі або перадаў яе Віленскаму ўніверсітэту імя Стэфана Баторыя, пра што сведчыць прымацаваная да карціны металічная бірка са скаротамі назвы Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя і шыфрам яго фондаў.

Увосень 1935 года пасля закрыцця семінарыі ў Троках Казіміроўскі перасяліўся ў Беласток, дзе жылі яго сябры і прыяцелі на чале з ваяводам горада. У 1937 годзе ён прыняў удзел у выставе ў Дзяржаўным прафесійна-тэхнічным вучылішчы, дзе паказаў больш за 85 працаў у тэхніцы пастэлі — партрэты, пейзажы, кампазіцыі на рэлігійныя сюжэты. Мясцовая крытыка лічыла яго мастаком адыходзячага пакалення, «кансерватарам і традыцыяналістам яшчэ даімпрэсіяністычнай эпохі з вельмі старанным малюнкам і вельмі асцярожнаю каларыстыкаю». Даўнім яго захапленнем было краязнаўства, і ён з задавальненнем яму аддаваўся: шмат фатаграфаваў, пісаў даклады, напісаў даведнік па Беластоку і ваколіцах, чытаў мноства лекцый па гісторыі горада. У 1939 годзе стаў старшынёю праўлення Беластоцкага аддзялення Польскай турыстычнай асацыяцыі, сам быў гідам. Казіміроўскі раптоўна памёр ад запалення лёгкіх у верасні 1939 года, праз тыдзень пасля ўваходу ў горад войскаў Чырвонай Арміі...

Ксёндз Сапоцька заставаўся ў Вільні ў гады Другой сусветнай вайны. Ён мужна выступаў у абарону ад фашыстаў габрэяў, але і сам быў вымушаны два гады хавацца ад гестапаўцаў. У 1947 годзе ён перабраўся ў Беласток, дзе і памёр у 1975 годзе.

У 2000 годзе сястра Фаўстына Кавальская была кананізаваная, а ў 2008 годзе быў беатыфікаваны ксёндз Міхал Сапоцька. Аднак імя сціплага мастака, які ажыццявіў іх задуму, намаляваўшы абраз Езуса Міласэрнага, у Беларусі, на жаль, мала каму вядомае, хоць ён працаваў у суседняй Літве, ва Украіне і ў Польшчы. Яго спадчына знікла ў гады вайны. «Парадокс Казіміроўскага — амаль забыты мастак, па сутнасці, вядомы ўсім...» — сказаў дырэктар Падляшскага музея Анджэй Ляхоўскі на адкрыцці выставы, прысвечанай 80-й гадавіне стварэння абраза Езуса Міласэрнага. Некаторыя даследчыкі лічаць гэты абраз пэндзля Казіміроўскага, які разышоўся ў тысячах копій і варыяцый іншых мастакоў па ўсім свеце, самай значнай карцінай Польшчы XX стагоддзя. Па сённяшні дзень гэта самы распаўсюджаны вобраз Езуса Хрыста ў выяўленчым мастацтве. Атрыбутаваная карціна ў мінскіх зборах стане яшчэ адной данінай памяці двум выбітным дзеячам каталіцкай сакральнай культуры — мастаку Эўгеніюшу Казіміроўскаму і ксяндзу Міхалу Сапоцьку.

*Выказваю падзяку аўтарам атрыбуцыі карціны Э. Казіміроўскага «За чытаннем» Анжаліцы Міцкевіч і Кацярыне Дасько за кансультацыі і рэстаўрацыйныя матэрыялы.*



Валянцін Калечыц

# Пра радавод благаслаўлёнага ксяндза Міхала Сапоцькі

*Гэты артыкул прысвечаны радаводу благаслаўлёнага ксяндза Міхала Сапоцькі, вядомага святара, спаведніка і выкладчыка. Доктар тэалогіі, прафесар Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, а пасля Другой сусветнай вайны — выкладчык духоўнай семінарыі ў Беластоку, спаведнік св. Фаўстыны Кавальскай, заснавальнік Кангрэгацыі Сясцёр Міласэрнасці Езуса Хрыста — наш адукаваны і шляхетны суайчыннік, які дапамог падчас вайны ўратаваць каля сотні габрэяў і завочна быў прыгавораны гітлераўцамі да смяротнага пакарання. Кс. Сапоцька быў беатыфікаваны 28 верасня 2008 г. у Беластоку.*

Са справы аб дваранскім паходжанні роду Сапоцькаў з Мінскай губерні мы ведаем 8 пакаленняў продкаў святара. Міхал Сапоцька нарадзіўся ў фальварку Юшэўшчына Ашмянскага павета 1 лістапада 1888 г. і быў ахрышчаны ў забрэжскім парафіяльным касцёле. Яго бацькі — дваране Вінцэнт Сапоцька і Эмілія з роду Паўловічаў. Для бацькі Міхала гэта быў другі шлюб. Яго першую жонку таксама звалі Эміліяй і паходзіла яна з роду Крэйчманаў з мястэчка Валожын. Хроснымі Міхала былі дваране Юзаф Навіцкі са сваячкаю Ядвігаю.

Вінцэнт Сапоцька, бацька Міхала, нарадзіўся ў 1831 г. у сям'і шляхетных Тадэвуша і Караліны з відаўскіх Сапоцькаў. 16 лістапада 1835 г. яны прадалі крэўным Юзафу і Барбары Сапоцькам фальварак Леснікі без прыгонных сялянаў, што адзначана ў дакументах Менскай грамадзянскай палаты. Бацька Тадэвуша Андрэй быў уведзены ў валоданне гэтым фальваркам у 1793 г., што зафіксавана ў кнігах Маршалкаўскага суда Менскага ваяводства. Пасля 1835 г. сям'я Сапоцькаў уласнай зямлі не мела і жыла на арандаванай зямлі ў засценку Навасады. Сваякі жылі ў фальварках Менскага і Вілейскага паветаў таксама на арандаванай і застаўной зямлі.

Бацька Андрэя — Станіслаў Сапоцька, карыстаўся застаўным фальваркам Кажамякі ў Менскім ваяводстве. У 1765 годзе ён атрымаў квіт ад менскага харунжага пана Фларыяна з Яксаў Быкоўскага ў тым, што з Кажамякаў станавіўся на попіс у войска ВКЛ. З 1778 г. Станіслаў разам са сваякамі прадаў маёнтак Брыгідава з сялянамі і вёскамі Ласікоўшчына і Шышкі пану Герждовічу. 6 лютага 1795 г. дакумент аб продажы быў унесены ў акты Менскага гродскага суда. 20 лютага 1787 г. Станіслаў Сапоцька склаў свой тэстамэнт.

Станіслаў атрымаў частку маёнтка Брыгідава ад свайго бацькі Андрэя, аб чым сведчыць тэстамэнт ад 5 лютага 1739 г.

Бацькамі Андрэя былі Іахім Сапоцька і Барбара з Воўкаў. У XVII ст. яны трымалі застаўны маёнтак Пажарышча ў Менскім ваяводстве. 3 верасня 1691 г. Іахім разам са сваякамі атрымаў пасведчанне ад шляхетных Сапоцькаў з Гародзенскага павета аб найбліжэйшым сваяцтве. У 1708 г. Іахім і Пётр Сапоцькі склалі раздзельны акт, згодна з якім падзялілі паміж сабою і адпісалі сынам свой маёнтак Брыгідава з вёскамі Ласікоўшчына і Шышкі.

Першым вядомым са справы аб дваранскім паходжанні роду Сапоцькаў продкам бл. Міхала з'яўляецца дзед Іахіма Ян Сапоцька, які быў жанаты з Ганнаю з Длугаборскіх. Як адзначана ў дакументах, за заслугі падчас вайны ён меў шэсць валокаў зямлі на Гродзеншчыне ў вёсцы Шчэцінава. Сведчыў аб тым прывілей Найяснейшага караля Уладзіслава Чацвёртага ад 15 лютага 1648 г., выдадзены 10 чэрвеня 1670 г. у каралеўскай эканоміі Гродзенскай і засведчаны паўторна ў 1691 г. у кнігах Галоўнага трыбуналу Менскага ваяводства.

Такім чынам, з архіўных матэрыялаў нам вядомы радавод благаслаўлёнага ксяндза Міхала Сапоцькі. Мы ведаем, што род Сапоцькаў са старажытных часоў быў шляхецкім і заслужаным. Сапоцькі карысталіся гербам «Сыракомля». Асобныя галіны роду ў часы Вялікага Княства Літоўскага жылі ў Троцкім, Менскім, Навагрудскім і іншых ваяводствах, займалі ўрады і пасады. Адна з прадстаўніцаў роду, Настасся Сапоцька, у XVI ст. была ў шлюбе з Васілём Тышкевічам, графам на Лагойску і Бярдычаве, ваяводам Смаленскім, старостам менскім і пінскім. У часы Расейскай імперыі род Міхала Сапоцькі быў зацверджаны ў расейскім дваранстве ўказам Сенату ад 15 верасня 1850 г. за № 324 і ўнесены ў 6-ю частку радаводных кніг Менскай губерні, куды запісваліся старажытныя шляхецкія роды. Сам Міхал Сапоцька быў далучаны да роду разам з братамі Пятром і Ігнаціем указам Сенату 18 красавіка 1903 г.

---

**Валянцін Калечыц** — інжынер-будаўнік з Мінска, даследчык радаводаў беларускай шляхты, а таксама гісторыі Каталіцкага Касцёла і Уніяцкай Царквы на Беларусі.



# Пасхальная містэрыя Пана нашага Езуса Хрыста

Амаль два гады я, па задуме і даверу пробашча парафіі, ксяндза каноніка Сяргея Бараўнёва, выконваў волю Божую, каб аздобіць інтэр'ер новапаўсталага касцёла Божага Цела ў пасёлку Беразінскае творам, у якім бы, па задуме ксяндза пробашча, спалучыліся сюжэты падзеяў астатніх дзён прабывання Пана нашага Езуса Хрыста з намі, людзьмі… Ад малення ў садзе Аліўным да светлага Хрыстовага ўваскрасення — найважнейшыя і найтрагічнейшыя падзеі для нас, хрысціянаў. Задума спалучыць гэта на адным палатне — і Крыжовы шлях з XIV стацыямі, што абавязковыя для кожнага касцёла, і вялікія містычныя сюжэты малення ў садзе Аліўным, і ўваскрасення — належыць ксяндзу пробашчу, а далейшыя задумы і планы яго сягаюць у цыкл абразоў, якія, дай Божа, паўстануць у будучыні ў інтэр'еры нашага касцёла і будуць сімвалізаваць нашу задуму: праз мастацкія выявы абразоў з Божым Святым Целам і яго Святымі Дзеямі падчас прабывання ў зямным жыцці, каб мы, сучаснікі, напаўняліся Яго Духам.

Зімою 2015 года пачаліся працы над эскізамі, потым ішлі працы над картонамі, і вось цяпер на ваш суд вынесена гатовая праца, дзе я пад уплывам розных крыніцаў, найперш Евангелля, благаслаўлёнай сястры Кацярыны Эмэрых і яе твора «Пасія», фільма Мэла Гібсана, маіх улюбёных іспанскіх і беларускіх мастакоў, стварыў уласную кампазіцыю

гэтага твора, які будзе мець працяг і на сценах прэзбітэрыя касцёла, урэшце дасць ключ да мастацка-вобразнага сакральнага вырашэння інтэр’ера сучаснай новазбудаванай святыні на Маладзечаншчыне ў нашыя дні, на нашых вачах, дасць нам сведчанне, што Касцёл на Беларусі жывы, ён развіваецца, і мы не толькі будзем ганарыцца і ўшаноўваць нашы даўнія сівыя каталіцкія бажніцы і абразы, а і новазбудаваныя касцёлы з сучаснымі творамі сакральнага жывапісу будзем рабіць адметнымі, са сваёй гісторыяй і арыгінальнасцю.





Бо заўтрашні дзень хрысціянства на Беларусі залежыць не толькі ад волі Божай, але і ад нашай з вамі любові, гарачыні і моцы веры ў Збавіцеля, нашых шчырых справаў дзеля Яго хвалы, сведчання, што і ў нашыя дні мы з вамі можам рабіць адметнымі і прыгожымі нашыя новапаўсталыя пасля амаль стагоддзя занядбання і прыніжэння веры касцёлы…

*Алесь Пушкін,*
*мастак.*





Сяргей Харэўскі

# Наша сакральная культура



14 лютага ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адкрылася выстава «Сакральная культура Касцёла Беларусі». У яе экспазіцыі прадстаўленыя асноўныя традыцыі Каталіцкага Касцёла ў Беларусі — найбольш значныя святы літургічнага года і тыя духоўныя знакі, што адлюстроўваюць адметнасць Каталіцкага Касцёла, а таксама культавыя рэчы ды ўнікальныя артэфакты, звязаныя з гісторыяй Касцёла ў Беларусі.

Каталіцкая канфесія трывала займае другое месца сярод іншых хрысціянскіх канфесій па колькасці вернікаў у Беларусі. Касцёл цягам многіх стагоддзяў застаецца найважнейшаю часткаю цывілізацыі ў Беларусі. З каталіцкаю традыцыяй непарыўна знітаваная гісторыя адукацыі, архітэктуры, мастацтва і музыкі ў нашай краіне. Але сёння сведчанні глыбокай духоўнай традыцыі, увасобленыя ў тысячах артэфактаў, што дагэтуль захоўваюцца ў каталіцкіх святынях, слаба вядомыя шырокай публіцы. Пазнаёміць з часткаю тых скарбаў і было адной з задачаў арганізатараў выставы.

У розных касцёлах, у далёкіх і блізкіх ад сталіцы парафіях, у паасобных прыватных калекцыях, ды і проста ў розных сем'ях захоўваюцца культавыя рэчы, часам сапраўдныя творы мастацтва, гістарычныя рарытэты, рукапісы, знакі веры, што маюць дачыненне да каталіцкае традыцыі, якая была і застаецца неад'емнаю часткаю жывое гісторыі, традыцыі і цяперашняе паўсядзённасці ў Беларусі і ў яе жыхароў.

Ідэя стварыць выставу, якая б засведчыла моц гэтае традыцыі, належала мастачцы Надзеі Буко, кіраўніцы каталіцкай мастацкай студыі «Крылы натхнення», што дзеіць у Мінску на Залатой Горцы пры парафіі Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха). Дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Павел Сапоцька ідэю экспазіцыі ўхваліў, падтрымаў энтузіястаў і прапанаваў Надзеі Буко стаць куратарам гэтага праекту, што ўдалося рэалізаваць у надзвычай сціслы тэрмін.

Супрацоўніцы музея Аліна Красоціна і Вераніка Акудовіч пабывалі ў Будславе, Рубяжэвічах, Навагрудку, у Замосці на Случчыне. Ксяндзы Віталь Драздоўскі і Зміцер Дубовік, пробашч будслаўскай парафіі, ахвотна дапамагалі ў гэтай справе, а ксёндз Юры Санько стаў не толькі каардынатарам і кансультантам праекту, але таксама перадаў на музейную выставу прадметы з мінскага касцёла

**Сяргей ХАРЭЎСКІ** — гісторык мастацтва, культуролаг, выкладчык ЕГУ (Вільня). Скончыў у Мінску школу №26 з мастацкім ухілам, мінскую мастацкую вучэльню імя А. Глебава (1982–1987); Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР (1988–1992), аспірантуру Беларускай акадэміі мастацтваў (1994–1997). Аўтар кніг: «ПраЧутае». Зборнік эсэ па гісторыі культуры і праблемам ідэнтычнасці Беларусі (2011); «Сто твораў XX стагоддзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу» (2011); «Прамоўленае: эсэ і лекцыі» (2008); «Культавае дойлідства Заходняй Беларусі 1915–1940 гг. (2008); «Гісторыя мастацтва і дойлідства Беларусі» (2007); «История Китая» (2007); «Китайская каллиграфия» (2007); «Арабская каллиграфия» (2007) і інш.

св. Роха. Прадметы для выставы былі прывезеныя парафіямі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Гродзенскай дыяцэзіі: будслаўскім касцёлам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёлам святога Юзафа, што ў Рубяжэвічах на Стаўбцоўшчыне, Кангрэгацыяй сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта і касцёлам Перамянення Пана ў Навагрудку, касцёлам святой Барбары ў Замосці і касцёлам Нараджэння святога Яна Хрысціцеля ў вёсцы Вынішчы Слуцкага раёна.

Пасля навуковых экспедыцыяў пачалася праца над выставаю, якую канчаткова фармавалі яе куратар Аляксандр Храмы, намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі разам з рэстаўратарам і калекцыянерам Ігарам Сурмачэўскім. Менавіта з ягонае багатае калекцыі ў экспазіцыю патрапілі абразы, драўляныя скульптуры, сакральныя прадметы і гравюры. Экспанаты для гэтае выставы таксама прадставілі Нацыянальны мастацкі музей і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Выстава «Сакральная культура Касцёла Беларусі», як ужо адзначалася, заклікана паказаць асноўныя каталіцкія традыцыі Беларусі. Дзень задушны, напрыклад, паказаны праз арыгінальныя дакументальныя фотаздымкі пахавання сясцёр назарэтанак. Тут можна ўбачыць той самы кленчнік для малітваў, што выкарыстоўвалі благаслаўлёныя назарэтанкі, расстраляныя нацыстамі ў Навагрудку ў 1943 г. і беатыфікаваныя ў 2000 годзе. Разам з гэтай рэліквіяй на выставе экспануюцца і іншыя рэчы з навагрудскага Музея Кангрэгацыі сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, кляштар якіх і сёння дзейнічае, — палька і вэлюм на келіх для прычасця, ампулы для вады і віна, форма для выразання гостыяў, малітоўнікі.

У асобнай вітрыне прадэманстраваны сакрамэнт хросту ў колішняй старасвецкай шляхецкай традыцыі. На выставе паказаны арыгінальны дзіцячы чапец XVIII ст., свечкі і крыжы, літургічны посуд для хросту. Паколькі хлопчык шляхецкага паходжання належаў таксама і Айчыне, як будучы яе абаронца, немаўля часам клалі на скрыжаваныя шаблі, што належалі ягоным продкам. Спачатку на шаблі клаўся тканы шоўкам, срэбрам і золатам слуцкі пояс — адзін з найбольш адметных сімвалаў нашай шляхецкай культуры. Разам з літургічнымі рэчамі сярод найстарэйшых экспанатаў выставы — выява Маці Божай з Дзіцяткам Езусам са слановай косці (XVI ст.).


Пробашч будслаўскай парафіі кс. Зміцер Дубовік каля вітрыны, у якой экспануюцца літургічныя рэчы з касцёла ў Будславе.

На выставе экспануюцца пасобныя надзвычайныя артэфакты, перанесеныя з сакральнай прасторы храмаў у свецкую прастору музея. Сярод іх — арнат са слуцкіх паясоў і багата аздобленая манстранцыя ў стылі ракако, зробленая адмыслова да асвячэння ў 1783 г. славутага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Будславе з аўтэнтычным футаралам з дрэва і ціснёнай скуры. Гэта асабліва сімвалічна і з тае прычыны, што летась традыцыя шанавання абраза Маці Божай Будслаўскай была ўключана ў спіс header нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА. На выставе знайшлі сваё месца літургічныя рэчы, што і сёння выкарыстоўваюцца ў касцёлах. Напрыклад, скульптура Хрыста ўваскрослага (XVIII ст.) і манстранцыя XIX ст. з касцёла Нараджэння Яна Хрысціцеля з Вынішчаў, манстранцыя, выробленая больш за сто гадоў таму, у 1917 годзе, на фабрыцы Норбліна ў Варшаве і рэліквіярый XVIII ст. з касцёла ў Замосці, што на Случчыне, манстранцыя 1890-х гадоў вырабу віленскага майстра Міхала Невядомскага і цыборый XIX ст. з мінскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы ды багата чаго іншага.

Значнае месца на выставе занялі прадметы з прыватнай калекцыі Ігара Сурмачэўскага, звязаныя і з рэлігійнай тэматыкай. Перадусім, гэта ўнікальны экспанат з найстарэйшых на выставе — грамата Жыгімонта

Вазы з аўтэнтычнымі пячаткамі на будаўніцтва ў Верхнім горадзе Мінска царквы Святога Духа пры базыліянскім кляштары ў 1613 г.; выробленая майстрам з Аўсбурга Матэўсам Зойтэрам у 1753 г. мапа францішканскіх кляштараў Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на на тэрыторыі Беларусі; сапраўдны слуцкі пояс XVIII ст.; абразы розных эпохаў, драўляныя касцёльныя скульптуры. З калекцыі Ігара Сурмачэўскага прадстаўленыя і іншыя старадаўнія рэліквіі — пазалочаная патэна для эўхарыстычнага Хлеба з вёскі Вялікае Падлессе, што на Берасцейшчыне, келіх з накрыўкай (XVIII ст.) і Хрыстовы цярновы вянок, выраблены са срэбра ў Львове, лампада XVII ст. і іншыя неацэнныя рарытэты.



Кленчнік для малітваў, што выкарыстоўвалі благаслаўлёныя сёстры назарэтанкі з Наваградка.

Вельмі цікавыя на гэтай выставе старажытныя абразы на палатне сярэдзіны XVIII ст. — «Маці Божая Міласэрнасці» («*Madonna della Misericordia*») і Маці Божая Бялыніцкая з калекцыі прыватнай галерэі «Прадмесце». Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь таксама прадставіў два старажытныя абразы, пісаныя тэмперай па дрэве ў народным духу — «Уцёкі ў Егіпет» і «Святы Антоні Падуанскі» 1744 г. невядомага тутэйшага майстра. З калекцыі Ігара Сурмачэўскага прадстаўленыя абразы XVIII ст. у духу позняга барока — «Святая Марыя Магдалена» з Гродна, «Святы Геранім» з Віцебска, «Святы Францішак Ксавэрый» з вёскі Жацерава, што на Стаўбцоўшчыне, а таксама некалькі абразоў XIX і пачатку XX стагоддзяў.



Цярновы вянок са срэбра, выраблены ў Львове.

У XVI–XVII стагоддзях у каталіцкіх кляштарах па ўсёй Беларусі былі бібліятэкі, што налічвалі дзясяткі тысячаў кніг. У вітрынах выставы можна ўбачыць Імшалы, нотныя зборнікі, а таксама перапісаныя ад рукі творы Станіслава Манюшкі, 200-гадовы юбілей якога будзе святкавацца сёлета. Каталіцкая сакральная музыка і кніжная спадчына ў экспазіцыі прадстаўленыя рэдкімі кнігамі і ўнікальнымі рукапісамі з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а таксама рарытэтамі — рукапісамі нотаў з прыватнай калекцыі Святланы Шэйпы. Сярод іншага экспанаваныя: «Октоих», «Апограф», «Доксастикон», «Служба Святому…» — зборнік выданняў з літургічнымі і малітоўнымі тэкстамі на царкоўнабеларускай мове пачатку XVIII ст., выдадзены ў базыліянскім Дабравешчанскім манастыры ў Супраслі, «Леитоургиарион си есть Служебник» пад рэдакцыяй мітрапаліта Феліцыяна Валадковіча, зборнік казанняў на лацінскай мове 1721–1725 гг. і лістоў да папы Бэнэдыкта XIII Джыралама Крыспі, арцыбіскупа Равены, выдадзены ў 1733 г. у Рыме, ды багата іншых каталіцкіх выданняў ад старадрукаў да нашага часу.

Выстава атрымалася невялікаю і, у пэўным сэнсе, сціплаю, бо немагчыма паказаць усё хараство і найбагацейшыя традыцыі, разнастайнасць каталіцкай сакрамэнтальнай культуры Беларусі на адной выставе, дзе ўсяго





Вітрыны з літургічнымі рэчамі.

толькі на 70-ці метрах плошчы размясцілася каля 200 рарытэтаў і артэфактаў. Але кожны з гэтых эксапанатаў — адметны, з непаўторнаю ўласнаю гісторыяй. Гэта і каваныя крыжы, скульптуры і абразы, кнігі і ноты, святарскія строі, элементы касцёльнага ўбрання, літургічныя рэчы, фатаграфіі, мапы... Унікальнасць экспазіцыі і ў тым, што ладная частка гэтых рэчаў і сёння застаецца ва ўжытку ў розных парафіях нашай краіны.

Адначасна з выставаю «Сакральная культура Касцёла Беларусі» ў музеі адкрылася і стала гарманічным яе дадаткам фотавыстава Сяргея Плыткевіча «Планета Беларусь. Касцёлы». Яе экспазіцыя складаецца з ужо архіўных фотаздымкаў касцёла святых Сымона і Алены, зробленых падчас першай святой Імшы ў касцёле, а таксама сучасных фотаздымкаў беларускіх каталіцкіх святыняў з паднебнай вышыні, зробленых пры дапамозе найноўшых тэхналогіяў.

Некалькі месяцаў таму Нацыянальны гістарычны музей і Мітрапалітальная курыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі падпісалі мемарандум аб супрацоўніцтве, і першым іх супольным праектам стала гэтая выстава. Задачаю стваральнікаў экспазіцыі было не проста сабраць у адным месцы розныя артэфакты, не здзівіць гледачоў, але запачаткаваць традыцыю супрацоўніцтва Нацыянальнага гістарычнага музея з Касцёлам, прыадчыніць дзверы ў вялікі, поўны прыгажосці і таямніцаў свет каталіцкай традыцыі.

Выкажам спадзеў, што гэта стане добрай традыцыяй і мы яшчэ ўбачым не адну такую выставу, бо насамрэч Касцёлу ёсць што паказаць. Цягам доўгіх стагоддзяў каталіцкія святыні Беларусі з'яўляюцца не толькі выключнымі ў сваёй дасканаласці помнікамі архітэктуры, але і скарбніцамі, у якіх зберагаюцца розныя помнікі мастацтва, кніжніцтва і музычнай культуры, што маюць і сёння неацэнную каштоўнасць. Перадусім, гэта рэчы намоленыя, сапраўдныя рэліквіі, што стагоддзямі шануюцца ў нашым народзе.

*Фота Мікалая Новікава.*

Юры Лаўрык

# Рэляцыя нунцыя мансіньёра Джуліо Руджэры

**папу Пію V пра стан Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага: рэдкі рукапіс з фондаў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь**

*Некалькі гадоў таму загадчык аддзела старадрукаванай і рэдкай кнігі Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валеры Герасімаў звярнуўся да кіраўніцтва Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь з просьбай прызначыць мяне афіцыйным кансультантам аддзела. Бібліятэка праводзіла актыўную дзейнасць па папаўненні фондаў старадрукаванымі выданнямі ды рукапісамі, і акурат у гэты час ёй быў прапанаваны для закупкі манускрыпт лацінскага пісьма. Дзякуючы гэтай акалічнасці на мой рабочы стол лёг рэдкі дакумент — справаздача папскага нунцыя Джуліо Руджэры, у якой ён дае апісанне стану Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага ў 1568 г. — напярэдадні заключэння Люблінскай уніі. У гэтай публікацыі я прапаную ўвазе чытачоў свае нататкі па выніках археаграфічнага вывучэння гэтага помніка. За каштоўныя падказкі выказваю сваю шчырую ўдзячнасць лаціністу і гісторыку Каталіцкага Касцёла Алесю Жлутку, а за дазвол сфатаграфаваць манускрыпт для ілюстравання артыкула — загадчыцы аддзела старадрукаванай і рэдкай кнігі Прэзідэнцкай бібліятэкі Святлане Паўлавіцкай.*

Манускрыпт уяўляе з сябе сшытак, які складаецца з 16-ці сфальцаваных (перагнутых пасярэдзіне) аркушаў, што ў выніку дае 32 лісты фарматам *in folio* з напісанымі на іх двума тэкстамі рознага паходжання. Помнік некалі ўваходзіў у склад больш абшырнага дакументальнага комплексу (кшталту «Кнігі публічных спраў»), знакам чаго з'яўляецца фаліяцыя ў верхнім правым куце лістоў: 1531–1563, а таксама напісаная іншым, чым асноўны тэкст, почыркам рубрыкацыя-калантытул «*Tav[ola] regno di le Re di Polonia*» («Табліца* Каралеўства караля Польшчы») на 2-м лісце сшытка над загалоўкам асноўнага дакумента.

Дакумент напісаны на высакаякаснай паперы ручнога адліву — некалі белага колеру, але цяпер пажоўклай. Сетка вержэраў і панцюзо шчыльная, з дроту рознай таўшчыні — падобная сетка сустракаецца ў некаторых гатунках заходнееўрапейскай паперы XIV–XVI стст. На паперы выяўлены 3 тыпы філіграняў: «арбалет», «тры гары» без наверша і «анёл у крузе» з навершам у выглядзе ромбападобнага трохліста; першы тып філіграняў на паперы гэтага дакумента з'яўляецца асноўным, прыклады ўжывання астатніх — адзінкавыя. Паводле паперазнаўчых даследаванняў і каталогаў, першыя два тыпы філіграняў у розных варыянтах сустракаюцца на паперы, выробленай на працягу XV – пач. XVII ст., а трэці — на паперы XVI – пач. XVII ст.

Дакладныя адпаведнікі гэтых вадзяных знакаў у альбомах філіграняў выявіць не ўдалося. Найбольш блізкія, але адрозныя ў паасобных дэталях выявы знакаў «арбалет» і «анёл у крузе» ёсць у манускрыптах, што датуюцца 90-мі гг. XVI ст.[1] Гэта дазваляе меркаваць, што папера дакумента была выраблена ў не надта адлеглы ад названага час. Аналагічныя вынікі дае і вывучэнне паасобных элементаў у выявах: так, у прыватнасці, аднаконтурны лук філіграні «арбалет» і наверша ў выглядзе ромбападобнага трохліста філіграні «анёл у крузе» ў апірышчы на тэндэнцыі развіцця аналагічных элементаў, якія прасочваюцца па матэрыялах альбомаў, схіляюць датаваць гэтыя вадзяныя знакі канцом XVI ці пачаткам XVII ст. Такім чынам, атрыманы на падставе вывучэння філіграняў вынік не супярэчыць даце ў загалоўку асноўнага тэксту (1568 г.), але ўсё ж схіляе меркаваць, што рукапіс быў створаны пазней.

Асноўным тэкстам помніка з'яўляецца італамоўная «*Relat[ion]e del R[everendissi]mo Mon[signio]r[e] Giulio Ruggieri Protonotario Ap[os]t[ol]ico ritornato Nuntio del Ser[ennissim]o Re di Polonia l'anno 1568 nella quale si da conto delle cose notate nella*

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.

*tavola sottoscritta, al Sanctiss[im]o S[ignio]r[e] n[ost]ro Papa Pio Quinto*» («Рэляцыя Найвялебнейшага мансіньёра Джуліо Руджэры, апостальскага протанатарыуса, які вярнуўся ў 1568 г. [з пасады] нунцыя [пры двары] Найяснейшага Караля Польшчы, у якой важныя рэчы адзначаныя ў ніжэйзмешчанай табліцы, Найсвяцейшаму нашаму пану папу Пію Пятаму»).

Адразу зазначым, што тэкст «Рэляцыі…» захаваўся ў некалькіх даўніх копіях** і выдаваўся як на італьянскай мове, так і ў польскім перакладзе, але пераважна ў фрагментах. Цалкам «Рэляцыю…» публікавалі па-польску ў сярэдзіне XIX ст. толькі Уладзіслаў Кульчыцкі[1] і Эразм Рыкачэўскі[2]; першы з гэтых перакладаў, на жаль, у Беларусі недаступны, а другі даволі далёка адыходзіць ад арыгінала. Найбольш поўнай і дакладнай з'яўляецца ажыццёўленая па некалькіх рукапісах публікацыя арыгінальнага тэксту ў 6-м томе збору дакументаў «*Acta nuntiaturae Poloniae*»[3].



Фрагмент рукапіса «Рэляцыі…» з лістом біскупа на 1-й старонцы.

У нашым рукапісе тэкст напісаны курсівам з ужываннем бруматнага атраманту; почырк, далёкі ад каліграфічнага, відавочна, належаў асобе, якой даводзіцца шмат пісаць, але наўрад ці прафесійнаму пісцу. Накрэсленне шэрагу літараў («B», «M», «P», «t», «r», «p» і інш.) схіляе меркаваць, што навыкі пісання гэтая асоба набывала па-за межамі нашага рэгіёну.

Хоць «Рэляцыя…» рыхтавалася перад заключэннем Люблінскай уніі, у ёй даецца апісанне геаграфічнага, палітычнага і рэлігійнага стану не толькі Каралеўства Польскага, але і Вялікага Княства Літоўскага. Гэты факт тлумачыцца тым, што ў азначаны перыяд абедзве дзяржавы аб'ядноўвала персанальная (асабовая) унія: Жыгімонт Аўгуст адначасова з'яўляўся каралём польскім і вялікім князем літоўскім. З гэтай прычыны Руджэры выкарыстоўвае апісальную назву: «*il paese … soggetto al Re di Polonia*» («краіна, падуладная каралю Польшчы»).

Апісанне дзяржавы даецца паводле фармуляра з 17-ці пунктаў, якія ўключаюць звесткі пра краіну і назвы яе гістарычных правінцый, народы і іх мовы, палітычнае і рэлігійнае становішча і г.д. Безумоўна, апісанне не пазбаўлена хібаў, якія мы заўважаем ужо на першых старонках: напрыклад, аўтар не ведае пра існаванне такой важнай для нас гістарычнай правінцыі як Падляшша, у выніку чаго «памяшчае» Белавежскую пушчу ў Мазовію («*una selva di Massovia*») або блытае — відаць па сугуччы — Карпацкую Русь («*Russia*») з Прусіяй («*Provincie tutte poste in piano, ecceto la Prussia et Polonia Minore, repiene di molti colli e valli, et non senza monti ancora da quella parte, ove la Polonia confina con la Ungheria*»). Ёсць і пэўныя хібы, уласцівыя непасрэдна нашаму асобніку манускрыпта (напрыклад, у змесце прапушчаны чацвёрты пункт «*Della forma del governo*»). Тым не менш, і сама «Рэляцыя…» мансіньёра Джуліо Руджэры ў цэлым, і дадзены яе рукапіс у прыватнасці — гэта важная крыніца, якая сведчыць пра стан Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага напярэдадні Люблінскай уніі. Паколькі ў Беларусі тэкст «Рэляцыі…» вядомы толькі рэдкім спецыялістам, я палічыў за неабходнае змясціць у артыкуле некалькі вытрымак у перакладзе на беларускую мову, якія і прапаную ніжэй.

**Пра краіну**

Такім чынам, дзеля таго, каб прыгледзецца ў цэлым да краіны, аб’яднанай пад уладай Жыгімонта Аўгуста, неабходна паказаць яе велічыню, абрысы, межы, складовыя часткі і асаблівасці. Межы гэтае краіны хоць роўныя, але адлегласць паміж імі немагчыма дакладна акрэсліць з прычыны вялікай тэрыторыі; мяркую, аднак, што можна вызначыць яе даўжыню з усходу на захад у 900 італьянскіх міляў, а з поўдня на поўнач — у 700 такіх жа міляў. Абрыс яна мае няправільнай формы, які, з пэўнай нацяжкай, можна назваць квадратам. Агульна беручы, мяжою краіны на поўначы з’яўляецца Балтыйскае мора, або, я сказаў бы, Гданьская затока, на поўдні — рака Днестр, на ўсходзе — рака Днепр, а ў якасці заходняй мяжы я вылучыў бы раку Віслу; аднак, безумоўна, гэтыя прыродныя межы, як будзе паведамлена ніжэй, не з’яўляюцца дакладнымі межамі краіны, якая злучана ў адно і мае такую тэрыторыю не дзякуючы ўласнай прыродзе і цэласнаму ахопу названымі межамі, але дзякуючы повязі з асобай манарха і волі лёсу.

Калі казаць пра складовыя часткі, названая краіна ўключае Вялікапольшчу і Малапольшчу, Мазовію, Прусію і Памеранію, Русь з Падоллем і Валынню, Літву, Жмудзь і Лівонію. Гэтыя правінцыі ўяўляюць з сябе суцэльную раўніну, толькі Малапольшчу і Прусію перасякаюць пагоркі і даліны; ёсць горы і ў частцы Польшчы, што мяжуе з Венгрыяй.

Ураджайнасць тутэйшых земляў увогуле пасрэдная, больш пладаносным можна назваць хіба Падолле. У розных частках краіны цякуць суднаходныя рэкі, сярод якіх найбольш вялікай і прыдатнай для суднаходства з’яўляецца Вісла, якая бяжыць на працягу болей як 400 італьянскіх міляў ажно да Гданьска і ўпадае [ў Балтыйскае мора] ў Гданьскай затоцы. У іншай частцы краіны цячэ Днепр, вялікая і славутая рака, працяглае цячэнне якой дабягае да Чорнага мора непадалёк ад Кафы, што ў даўнія часы дазваляла зручна праводзіць вялізныя караблі <…>. Аднак сёння яна настолькі абмялела, асабліва каля месца ўпадзення ў мора, што амаль не прыдатная для суднаходства, і хіба што толькі малыя чаўны могуць з цяжкасцю па ёй праходзіць. Гэтакім жа чынам, пачынаючыся ў зусім іншай частцы краіны, упадае ў мора і вялікая рака Днестр, называная старажытнымі [аўтарамі], трэба думаць, Тырасам. Яна, дзякуючы свайму працягламу цячэнню, магла б прынесці неверагодную карысць усім гэтым землям, як будзе сказана ніжэй, але заваленая ў розных месцах мноствам вялікіх каменняў і болей не прыдатная для вольнага праходжэння вялікіх суднаў. Акрамя таго, ёсць Вілія і некаторыя іншыя меншыя рэкі, якія таксама выкарыстоўваюцца для навігацыі і з вялікай карысцю служаць для гандлю на гэтых землях, прыстасаваныя для суднаходства не толькі ва ўласным рэчышчы, але яшчэ ў большай ступені для выхаду ў згаданыя моры, а менавіта ў Чорнае і Балтыйскае, хоць згаданае Каралеўства не мае на Чорным моры ніякага порта, у той час як на Балтыйскім мае некалькі, галоўным сярод якіх з’яўляецца Гданьск — бяспечны, зручны і здольны прыняць многія сотні караблёў. Іншыя порты ёсць у Лівоніі, але яны не настолькі часта наведваюцца і не такія зручныя, як названы. <…>

Сёння з прычыны вялікай колькасці азёраў і вышэйназваных рэк гэтае Каралеўства мае неверагоднае багацце рыбы, якая жыве ў прэснай вадзе, але ў моры <…> рыбы няма, а калі ёсць, дык вельмі кепская. Вада, між тым, у гэтай краіне — і рачная, і крынічная — вельмі часта не прыдатная для піцця, больш за тое, яна мутная і застаялая, з непрыемным пахам і смакам, а ў некаторых месцах вельмі цяжка знайсці ваду, ад якой не зробілася б блага.

Паветра таксама густое і вільготнае, а з прычыны адлегласці сонца нязмерна халоднае, з-за чаго з’яўляюцца аграмадныя сумёты снегу, а ў час маразоў пакрываюцца лёдам не толькі балоты, азёры ды найшырэйшыя рэкі, але нават мора да такой ступені, што наладаваныя вазы могуць праязджаць па лёдзе непадалёк ад берага. <…>

Вятры тут пануюць не такія, як у Францыі ці Італіі, а маюць падобную прыроду, таму ад іх перамены мясцовыя жыхары не адчуваюць уплыву на здароўе. З прычыны суровых маразоў у краіне не родзяцца алiўкі, вінаград і ўсе тыя плады, для даспявання якіх патрэбна хаця б умеркаванае цяпло — толькі землі, што ляжаць на ўсход і поўдзень ад Кіева, больш спрыяльныя для гэтага.

Затое краіна багатая на збожжа рознага гатунку, жыта, пшаніцу, а па-за тым — на лён, каноплі, мёд, воск, а таксама на плады, якія могуць выносіць холад — яблыкі, грушы і да т. п. На абшырных лугах і пашах гадуецца мноства коней, гавяды і ўсялякіх хатніх жывёлаў. Пушчы поўняцца разнастайнымі звярамі, сярод якіх сустракаюцца даволі рэдкія і малавядомыя ў іншых краінах. <…> Вялікая жывёліна пад назваю лось славіцца сваімі капытамі, што ўжываюцца ў якасці лекаў на розныя хваробы; яна мае воўну, падобную да аслінай, дзеля чаго памылкова мяркуюць, нібыта гэта дзікі асёл, што, аднак, не можа быць праўдаю, бо яна мае раздвоеныя капыты. Яна мае рогі на падабенства аленьих, толькі значна большыя, а ловяць яе пераважна ў прускіх лясах. Апрача таго, вядуцца тут дзікія коні, якіх, злавіўшы жарабятамі, гадуюць і прыручаюць. Аднак яны нагэтулькі маламоцныя, што пры найменшай стоме ад язды ці працы з іх ліецца пот.

Апрача гэтага, ёсць яшчэ туры, на якіх спыняцца няма патрэбы, бо яны сустракаюцца таксама ў



Разгортка «Рэляцыі...».

Чэхіі, Германіі і іншых краінах. Але нельга змаўчаць пра зубраў, якіх можна назваць уласна ляснымі быкамі, бо ў цэлым яны падобныя да быкоў, толькі што дзікія, лясныя і вылучаюцца чорным колерам і велічынёю. Жывуць зубры толькі ў адным лесе ў Мазовіі, дзе іх некалькі сотняў, і, паводле каралеўскага загаду, іх пільна сцерагуць жыхары навакольных вёсак. Мяркуецца, што больш нідзе яны жыць не могуць, бо калі іх з таго лесу вывесці, неўзабаве паміраюць. <…>

**Пра мовы**

Народы гэтае краіны, хоць і жывуць пад уладаю аднаго манарха, складаюць адну супольнасць і амаль не розняцца між сабою, размаўляюць, аднак, не на супольнай мове, а на трох розных. Адна з іх, у сваю чаргу, дзеліцца на дзве праз адрознае пісьмо, аднак што датычыць вымаўлення, яны гэтак падобныя, што могуць лічыцца двума дыялектамі, якія захавалі супольную аснову. Гэта мовы польская і руская; першая карыстаецца літарамі лацінскімі, другая — грэчаскімі, колькасць якіх русіны павялічылі ажно да 48-мі. Гэтая мова з’яўляецца супольнай не толькі для палякаў і русінаў, але ахоплівае і іншыя краіны Еўропы — такія як Чэхія, Харватыя, Сербія, Славенія, хоць у кожнай з іх гаворка часта моцна адрозніваецца, аднак паўсюль поруч з адрозненнямі захоўваецца супольная аснова.

Апрача гэтага, існуюць у гэтай краіне дзве іншыя мовы, цалкам адрозныя: літоўская і нямецкая. Па-нямецку паўсюдна гавораць у Прусіі і ў некаторых гарадах Вялікапольшчы ды Малапольшчы і Русі, а таксама з даўняга часу ў Кракаве і Познані. У Лівоніі яшчэ і шляхта гаворыць па-нямецку, бо вядзе свой род ад рыцараў-тэўтонаў.

Літоўская мова не менш розніцца ад нямецкай мовы, чым ад польскай, і дагэтуль не мае ўласнага пісьма, а ў Каралеўскай канцылярыі ў Літве выкарыстоўваецца для пісання мова руская. Гэтак жа робяць і прыватныя асобы, сярод якіх, аднак, некаторыя аматары выкарыстоўваюць для пісьма польскую мову. На Жмудзі гавораць той самай моваю, але дастаткова адрознай ад літоўскай. Такая ж мова, але з пэўнымі адрозненнямі, ужываецца ў некаторых паселішчах, дзе ацалелі рэшткі даўніх прусаў, якія былі паняволеныя і амаль цалкам вынішчаныя адвагаю і зброяй тэўтонскіх рыцараў, а сёння яшчэ жывуць у маленькіх вёсках, з цяжкасцю захоўваючы даўнюю гаворку. Падобны ж лёс напаткаў і даўніх ліваў, зямля якіх была зваяваная нацiскам крыжакоў, а таму іх даўняя мова, падобная да літоўскай, але адрозная ад яе як дыялект, сустракаецца толькі на вёсцы. Так усе гэтыя чатыры мовы, пра якія расказана напрыканцы, маюць адну аснову, але з увагі на розныя моманты значна між сабою розняцца.

«Рэляцыя…» змяшчае яшчэ шмат цікавых звестак як у цэлым пра краіну, так і пра палітычны і рэлігійны стан Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага напярэдадні Люблінскай уніі, але аб'ём часопіснай публікацыі не дазваляе даць іх больш шырока.

У атрыбуцыі і датаванні больш пытанняў выклікае другі тэкст, змешчаны на пустым ахоўным лісце (свайго роду вокладцы) сшытка з запісам «Рэляцыі…»; відавочна, ён быў запісаны іншаю асобаю і, хутчэй за ўсё, у пазнейшы час. Гэты тэкст напісаны на лаціне і мае загаловак «*Copia Lit[t]erarum Ill[ustrissi]mi Episcopi Cracoviensi ad Serennissimum Regem*» («Копія Ліста Яснаасвечанага Біскупа Кракаўскага да Найяснейшага Караля»); займае ён усяго паўтары старонкі, подпіс пад ім адсутнічае. Аўтар ліста паведамляе пра наём войска пасламі Францыі і Швецыі на тэрыторыі Польшчы (у прыватнасці, гаворка ідзе пра найманне за вялікія грошы пяці ротмістраў, а таксама шляхты ў Серадзскім ваяводстве) і перасцярагае караля ад небяспекі ўцягнення краіны ў новую вайну.

Тэкст напісаны курсівам пры дапамозе чорнага атраманту; накрэсленне шэрагу літараў («C», «I», «t», «r», «d» і інш.) нагадвае ўзоры, якія сустракаюцца ў лаціна- і польскамоўных пісьмовых помніках XVI–XVII стст. з тэрыторыі Польшчы, Беларусі і Літвы. Каліграфічнасць почырку пісальніка і даволі добрая якасць атраманту ўказваюць на верагоднае паходжанне гэтай копіі дакумента з біскупскай або каралеўскай канцылярыі. Тым не менш, датаванне паводле палеаграфічных прыкметаў мае занадта шырокі роскід храналагічных межаў, каб быць у дадзеным выпадку прыдатным; не паспрыяе тут і вывучэнне філіграняў паперы, бо, як адзначана вышэй, гэты тэкст быў запісаны на пустым лісце ўжо створанага даўней дакумента.

У такім выпадку дапамагчы нам у справе атрыбуцыі можа толькі ўнутраная крытыка тэксту, балазе аўтар ліста згадвае шэраг гістарычных падзеяў і называе імёны некаторых гістарычных асобаў. Перш за ўсё, перад намі стаіць задача вызначыць прыкладны час складання арыгінала дакумента, бо гэта можа нам даць падказку як адносна асобы яго аўтара, так і адрасата.

Гаворачы пра падзеі мінулага, аўтар ліста звяртае ўвагу свайго адрасата на тое, што «пасля ўмацавання міру ў Польшчы на вынік сыходу Дзімітрыя самазванага, Цара маскавітаў, калі той войска ў Каралеўстве ўзбройваў, а таксама пасля дамоваў і саюзаў, заключаных Стэфанам, Каралём нашым, з законным Царом маскавітаў», Рэч Паспалітая не раз цярпела нягоды вайны з прычыны палітычных амбіцый сваіх уладароў. Ніякай карысці дзяржаве, паводле яго, не прынесла нават «адваяванне на наш бок Смаленска ў час, калі Масковія праз унутраныя бунты палымнела», бо яго «*масковец пасля ад нас адарваў і прынесеную сабе шкоду шчодра кампенсаваў*».

Першыя цытаты адсылаюць нас да падзеяў даволі даўніх у параўнанні з часам стварэння ліста, а менавіта да Ям-Запольскай мірнай дамовы, заключанай Стэфанам Баторыем з Іванам Жахлівым па выніках Лівонскай вайны ў 1582 г., а таксама да арганізацыі паходу Ілжэдзімітрыя I на Маскву ў 1604 г., таму для вырашэння нашай задачы яны даюць няшмат.

Больш карыснай бачыцца згадка пра Смаленск, які некалі належаў Вялікаму Княству Літоўскаму, але ў 1514 г. быў захоплены войскамі маскоўскага цара Васіля III. Нягледзячы на неаднаразовыя спробы адваявання гэтага старадаўняга беларускага горада, рэальная магчымасць вярнуць яго надарылася толькі ў часе т. зв. «смуты»: Жыгімонт III скарыстаўся з сітуацыі грамадзянскай вайны, выкліканай выступленнем Ілжэдзімітрыя II, і ў 1609 г. асадзіў Смаленск, які, праўда, удалося ўзяць толькі ў 1611 годзе. Вяртанне горада ў межы Рэчы Паспалітай было замацавана найперш Дэвулінскім замірэннем 1618 г., а затым — Палянаўскай мірнай дамовай 1634 г., якая была падпісаная пасля заканчэння чарговай, т. зв. «Смаленскай», вайны.

Такая сітуацыя, аднак, не праіснавала доўга — у 1654 г. войскі цара Аляксея Міхайлавіча, распачынаючы шматгадовую цяжкую вайну, уварваліся ў межы Рэчы Паспалітай і акупавалі Смаленшчыну. Пазней здабыткі Расіі ў гэтай вайне былі зацверджаныя Андрусаўскім замірэннем у 1667 годзе. Для нас важна, што згаданыя падзеі адбываліся на памяці аўтара ліста, бо ён сам піша, што пра тое: «*з уласнага досведу ведаем, [паколькі] і найзнатнейшыя нашы, і мы на сабе спазналі*». Гэта азначае, што арыгінальны ліст ствараўся ўжо пасля тых падзеяў, але калі яны яшчэ былі жывыя ў памяці сведкаў.

Больш дакладна на час складання арыгінала ліста ўказвае згадка аўтарам імя аднаго з колішніх французскіх паслоў: «*Яго Эмінэнцыя цяперашні кардынал Бонсіус, некалі ў часы Найсвятлейшага Казіміра, гэтак сама паслом на працягу некалькіх гадоў заставаўся*». Гаворка ідзе пра П'еро Бонзі (1631–1703), які, маючы на той час сан біскупа Безьё, выконваў абавязкі пасла Францыі ў Рэчы Паспалітай пры караляванні Яна Казіміра. Ян Казімір зрокся каралеўскага пасаду ў 1668 г., а сам Бонзі (у лацінскай транскрыпцыі *Бонсіус*)



Заканчэнне «Рэляцыі…».

атрымаў кардынальскі капялюш толькі ў 1672 годзе. Дзякуючы гэтай інфармацыі перыяд верагоднага складання дакумента абмяжоўваецца, з аднаго боку, часам высвячэння Бонзі на кардынала, а з другога — датаю яго смерці, а значыць мы можам звузіць храналагічныя рамкі да 1672–1703 гг.

Аднак і на гэтым не спынім нашыя разважанні, паколькі ў лісце ёсць фрагмент, яшчэ ў большай ступені прыдатны для вырашэння нашай задачы — згадка пра часовае адваяванне Шчэціна ў Швецыі: «*гэтая пагалоска датычыць суседзяў і памежных з намі ўладароў, бо не так даўно ў шведаў Шчэцін быў забраны*». Гэты горад увайшоў у склад шведскіх уладанняў у 1648 г. па выгасанні роду герцагаў памеранскіх і належаў Швецыі да 1720 года. За гэты час шведы выпусцілі яго з рук толькі аднойчы — у 1675 г., калі пасля перамогі пры Фербеліне Брандэнбургія на пэўны час акупавала Заходнюю Памеранію. Менавіта пра гэтыя падзеі і згадвае Кракаўскі біскуп у працытаваным фрагменце. Той факт, што гэтыя землі разам са Шчэцінам на моцы Німвегенскага міру былі вернуты Швецыі ў 1679 г., дае падставу датаваць стварэнне дакумента часам паміж 1675 і 1679 гг., а таксама дазваляе вызначыць аўтара ліста: напісаў яго Анджэй Тшэбіцкі (1607–1679), які быў Кракаўскім біскупам у 1658–1679 гг. Адрасаваны ж ліст слаўнаму пераможцу турак пад Венаю Яну III Сабескаму (1629–1696), абранаму на караляванне ў 1674 г.

Атрыманыя высновы дапамагаюць зразумець некаторыя моманты, якія ўскосна пацвярджаюць слушнасць нашых разважанняў: напрыклад, веданне аўтарам сітуацыі менавіта ў Серадзскім ваяводстве тлумачыцца тым, што сам Анджэй Тшэбіцкі паходзіў з маёнтка пад Серадзам і захаваў асабістыя сувязі з тамтэйшай шляхтаю, а той факт, што традыцыйныя праціўнікі Рэчы Паспалітай — Швецыя і Францыя — вербавалі ваяроў на яе тэрыторыі, знаходзіць адказ у радыкальнай змене замежнай палітыкі дзяржавы пры Яну Сабескім, які, адвярнуўшыся ад былых саюзнікаў немцаў, заключыў у 1675 г. патаемны саюз з французамі, а ў 1677 г. — і са шведамі. Да слова, апошняя акалічнасць дае нам падставу звузіць храналагічныя межы складання дакумента да 1677–1678 гг. (умоўна прымем, што ён быў створаны каля 1677 г.).

Дагэтуль мы гаварылі пра час напісання арыгінала ліста, але адносна часу стварэння копіі, пазначаным на сшытку «Рэляцыі…» варта разважаць асобна: на жаль, пра яго мы такіх пераканаўчых аргументаў не маем. Тым не менш, той факт, што змест ліста цесна звязаны з бягучымі падзеямі і пры змене сітуацыі страціў бы сваю актуальнасць, змушае меркаваць, што і копія была зроблена неўзабаве па напісанні арыгінала — напрыканцы 1670-х гг.

---

1 Kulczycki, Wł. Sprawozdanie ze stanu Królewstwa Polskiego złożone świętemu Piusowi V przez księdza Juliusza Ruggieri nuncjusza apostolskiego na dworze Zygmunta Augusta za swoim powrotem z Polski r. p. 1568 // Czas: dodatek miesięczny. — R. 3, t.13, fasc. 36. — Kraków : Czcionkami i nakładem drukarni «Czasu», 1858. — S. 563–625.

2 [Ruggieri, J.] Relacya o stanie Polski złożona papieżowi Piusowi V przez nuncjusza jego Juliusza Ruggieri u dworu króla Zygmunta Augusta roku 1568 // Relacye nuncjuszów apostolskich i innych osób od roku 1548 do 1690 / [ze zbiorów Jana Chrzciciela Albertrandego [et al.] wydał Erazm Rykaczewski]; wydanie Biblioteki Polskiej w Paryżu. — T. 1. — Berlin ; Poznań: Księgarnia B. Behra (E. Bock), 1864. — S. 165–216.

3 Iulii Ruggieri relatione generalis // Acta nuntiaturae Poloniae. — T. 6 : Julius Rugieri (1656–1568) / Collectavit et paravit Thaddaeus Glemma ; supplevit et edidit Stanislaus Bogaczewicz. — Roma : Institutum Historicum Polonicum, 1991. — P. 144–200.

* Мы маем справу не з табліцаю, а хутчэй з фармулярам.

** Іншыя копіі дакумента захоўваюцца ў Ватыканскім архіве і ў Ватыканскай бібліятэцы, у Дзяржаўным архіве Італіі ў Рыме і ў Мадэне, а таксама ў іншых замежных фондасховішчах. Наша копія дагэтуль археографам не была вядомая.



# Памяці Сябра

На самым пачатку гэтага года з Польшчы прыйшла жалобная вестка: 2 студзеня ў Варшаве на 90-м годзе жыцця адышоў у вечнасць выдатны беларускі Гісторык, доктар гуманітарных навук Юры Туронак.

З рэдкалегіі часопіса «Наша вера» выбыў першы з яе сяброў, які ад заснавання квартальніка быў з намі: падтрымліваў, раіў, дапамагаў. Памятаю, як на пачатку 90-х, пасля благаслаўлення, атрыманага ад кардынала Казіміра Свёнтка на стварэнне каталіцкага квартальніка, я паехала ў Варшаву да пана Юрыя, каб параіцца з ім наконт гістарычнай тэматыкі часопіса. Ён вельмі ўзрадаваўся самой ідэі такога выдання, але тут жа перасцярог: «Першы нумар выпускайце толькі тады, калі ў вашай рэдактарскай тэчцы будзе запас мінімум на тры нумары», тут жа паабяцаўшы сваю дапамогу ў папаўненні гэтай тэчкі. І сапраўды дапамагаў: і архіўнымі матэрыяламі, і падказкамі наконт магчымых тэмаў і аўтараў, і публікацыямі ўласных артыкулаў, кожны з якіх застаўся ў залатым фондзе нашага квартальніка.

Ужо ў першы нумар часопіса, які выйшаў вясною 1995 года, і які, бадай, найцяжэй было сабраць і ўкласці, пан Юры даў свой грунтоўны артыкул «Фарміраванне сеткі рыма-каталіцкіх парафій на Беларусі ў 1387–1781 гадах». Аснову артыкула склалі статыстычныя звесткі з архіўных даследаванняў. Як вучоны — эканаміст і Гісторык — статыстыку Туронак вельмі цаніў…



Развітанне з Ю. Туронкам. 10 студзеня 2019 г.

А пасля, у розныя гады, у «Нашай веры» друкаваліся яго артыкулы: «Язэп Германовіч — святар і пісьменнік»; «Трагізм і загадкавасць лёсаў» (пра акалічнасці разгрому каталіцкага душпастырства ў акупаваным немцамі Мінску); «Канфесійныя трансфармацыі на Беларусі і нацыянальная свядомасць»; «З пачыну прэлата Стэфана Дэнісевіча» (пра першыя крокі ў выданні беларускай каталіцкай літаратуры на пачатку XX ст.); «Падрэзаныя крылы» (пра абставіны заснавання ў 1913 г. беларускага гуртка студэнтаў Рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу)…

Апошні артыкул Гісторыка, надрукаваны ў нашым часопісе, быў прысвечаны творчасці кс. Люцыяна Хвецькі, вядомага беларускага святара, аднаго з пачынальнікаў адраджэнскага каталіцкага руху ў Беларусі.

Усе гэтыя артыкулы і многія архіўныя матэрыялы, якія дасылаў і перадаваў рэдакцыі Юры Туронак, былі для нас сапраўдным скарбам, бо адкрывалі новыя, невядомыя старонкі драматычнай, пакутнай гісторыі каталіцтва ў нашым Краі, вярталі з небыцця трагічныя постаці духоўных і свецкіх асобаў — незаслужана забытых, а часцей за ўсё свядома «пахаваных» пад грыфам «сакрэтна» ў спецфондах… Даследчыцкая дапытлівасць, сумленнасць, навуковая бескампраміснасць Юрыя Туронка вярталі беларусам гістарычную праўду. А сам ён, з уласціваю яму сціпласцю, пісаў у сваёй аўтабіяграфіі: «Грамадскія патрэбы абудзілі ўва мне гісторыка».

Пра яго жыццёвы шлях, пра сям'ю, пра бацьку — доктара і рэдактара «Крыніцы» Бpackage Браніслава Туронка, пра маці Марыю з роду Рэшэцяў, пра роднага дзядзьку, кс. Язэпа Рэшэця, мы доўга гаварылі з панам Юрыем у 2009 годзе, калі запісвалі з ім вялікае інтэрв'ю, якое было надрукавана ў «Нашай веры» да 80-годдзя Гісторыка пад назваю «Дзеля праўды гісторыі»…

З таго часу мінула ўжо 10 гадоў, а здаецца, што было яно зусім нядаўна, бо так яскрава памятаецца тая наша вечаровая няспешная гутарка ва ўтульнай кватэры Туронкаў на вуліцы Тамка ў цэнтры Варшавы, смак і водар хатняга печыва, якім частавала нас жонка Гісторыка, гасцінная і мілая пані Зіна, а найбольш памятаецца зычлівая сардэчнасць самога гаспадара, якая і ў той вечар, і заўсёды, пры кожнай нашай сустрэчы, саграваіа, дадавала ўпэўненасці і надзеі на лепшае.

Але ж, на жаль... «tempus breve est — час кароткі» і мінае ён няўмольна хутка, прыносячы балючыя расстанні з дарагімі і блізкімі людзьмі…

Думалася пра гэта падчас развітання з панам Юрыем, якое адбылося 10 студзеня ў грэка-каталіцкай царкве айцоў базыліянаў на вуліцы Мядовай у Варшаве. У той студзеньскі дзень расквецілася яна, упрыгожылася беларускімі нацыянальнымі сцягамі, напоўнілася малітваю і светлым смуткам родных і сяброў пана Юрыя, якія прыехалі з Беласточчыны і Гданьска, з Латвіі і Беларусі… Жалобную літургію ўзначаліў архімандрыт Сяргей Гаек.

Свой вечны спачын Юры Туронак знайшоў на варшаўскіх праваслаўных могілках пры вуліцы Вольскай. У іх заснежана ўрачыстай цішыні шчымліва адчувалася дыханне вечнасці, якая назаўсёды прыняла, прытуліла нашага выдатнага Гісторыка, цудоўнага, светлага, шляхетнага Чалавека і незабыўнага Сябра.

Нізкі паклон яму ад усіх нас, сяброў рэдкалегіі і чытачоў «Нашай веры», і заўсёдная бязмежная ўдзячнасць і малітоўная памяць.

26 красавіка яму споўнілася б 90. Гэты юбілей прыпадае якраз на Велікодны перыяд, калі ўсе хрысціяне святкуюць перамогу Жыцця над смерцю.

Сапраўды, непадуладнае смерці жыццё, тым больш, калі яно дарэшты аддадзена пошукам праўды дзеля будучыні свайго народа і Бацькаўшчыны…

Да юбілею Юрыя Туронка мы друкуем артыкул яго маладзейшага сябра, вядомага беларускага архівіста, літаратуразнаўцы і даследчыка Язэпа Янушкевіча.

*Крыстына Лялько*

Язэп Янушкевіч

# Праўдзівы Гісторык

*Недажытае 90-годдзе Юрыя Туронка*

**«Смерць» Туронка…**
**33 (трыццаць тры!) гады таму**

Смерць і радзіны — не выбіраюць гадзіны.

Так, гэта першы юбілей, які мы сустрэнем без яго — сонечнага, усмешлівага Юрыя Туронка. Яму не хапіла лічаных месяцаў, каб гэтаксама сонечна, годна, з дасціпнымі жартамі адсвяткаваць важкі свой 90-гадовы юбілей. У коле крэўных, сяброў і паплечнікаў — у мілых ягонаму сэрцу падбеластоцкіх Трыпуцях, куды літасцівы лёс прыводзіў і аўтара гэтых радкоў не раз.

Зрэшты, даводзіцца ясна ўсведамляць, што лёс навукоўца быў адмысловы, пераважна спрыяльны. Бо Юры Туронак годна распарадзіўся адзінададзеным Богам жыццём практычна напоўніцу. І мог бы з гонарам, з вечнай усмешкай на вуснах, дасціпна паўтарыць словы вялікага ўкраінскага дзеяча-думанніка XVIII стагоддзя Рыгора Скаварады: «*Жыццё лавіла мяне, але не спаймала*».

Так. Лёс, жыццё супраціўляліся, не паддаваліся Туронку, ладзілі пасткі і спрабавалі падсунуць зманлівыя шляхі. Наогул усё ў яго іначай скласціся магло. Не толькі ў раннім сіроцтве без бацькі… Не толькі ў віхуры ваеннага ліхалецця, калі малец з Дукштаў (старадаўняга мястэчка на гістарычнай блакітнавокай Браслаўшчыне) неадольна цягнуўся да ведаў, але і ў паваенным невыразным жыцці падсавецкай Польшчы (з аўтабіяграфічных нататак: «*Пачатковая адукацыя прайшла ў Дукштах, а сярэдняя — у Вільні, Беластоку і Ольштыне, дзе атрымаў атэстат сталасці ў 1947 г. За гэты час давялося вучыцца на польскай і літоўскай мовах, а таксама „пераджыць“ шматлікія палітычныя рэжымы*»). І як вынік — нецікавая канстатацыя пра «нацыянальную» адукацыю: «*Такім чынам, у беларускай школе не давялося вучыцца ні адной гадзіны*».

Калі б не гэтая «юбілейная» нагода гаворкі пра выдатнага чалавека і не клопат напісаць пра Туронка са жменяй новых фактаў, а не збітых перакальканых агульнавядомых сентэнцый, перапісаных адзін у аднаго гісторыкамі-журналістамі-публіцыстамі-папулістамі (а па тыя факты трэба пайсці ў архівы), — не адкрыў бы, што я ўжо меў у жыцці выпадак «хаваць» Юрыя Туронка яшчэ ў… 1986 годзе! Болей за 30 гадоў таму…

«*31.01.1986 г.*
*01:25 ночы. Мінск.*
*Паважаны Сакрат,*
*я пачуў (не ведаю, на колькі дакладную) чутку пра смерць Юркі Туронка. Калі гэта так, дужа хацеў бы Вас прасіць паклапаціцца адносна матэрыялаў, звязаных з Ул. К-ічам*».

З гэтага ўласнага аўтографа-ліста, адшуканага мною ў сталічным Архіве-музеі літаратуры і мастацтва (у фондзе пісьменніка Сакрата Яновіча), магу патлумачыць толькі адно: што значыць «Ул. К-ічам» — Ул[адзімірам] К[араткев]ічам. Бо я акурат тады, у 1984–1985 гады, распачаў збіраць успаміны пра незабыўнага класіка нашага прыгожага пісьменства XX стагоддзя.

Рэшту… Не магу анічым вытлумачыць, бо не выцягну з памяці прычыну такога трывожнага пачатку майго начнога ліста да С. Яновіча. Містычны пачатак — да неверагоднага. Што азначаў адчайны ўступ? Хто распускаў у метраполіі беларускай такія смяротныя почуткі пра нашых суайчыннікаў, замежных беларусаў Беласточчыны, па жывым адрэзаным дзяржаўнай мяжой ад грудзей зямлі-маткі Беларусі сталінскім загадам паваенных перакройванняў еўрапейскай мапы народаў? А потым яшчэ, ужо ў «народнай Польшчы», дзеленых і падзеленых на «польскіх шавіністаў» і «польскіх камуністаў», рэкрутаваных у абодва «абозы» з тых самых беларусаў Беласточчыны. Калі да адных пад-

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 годзе. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. У 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.

Аўтар звыш 400 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).



Язэп Янушкевіч, Крыстына Лялько і Галіна Хінка-Янушкевіч у гасцях у Зінаіды і Юрыя Туронкаў у Трыпуцях пад Беластокам. 2004 г. Фота Мікалая Новікава.

сылаліся «беларускія пісьменнікі»-агенты (адзін з такіх мінскіх «паэтаў» з пазыўным «Буран», прыстаўлены апекавацца Туронкам, вядомы з архіўных матэрыялаў), а другія, абалваненыя беларускай савецкай прапагандай, ужо ў познія часы «Салідарнасці», у званні прафесараў не расставаліся з нажом за пазухай, збіраючыся, маўляў, як найдаражэй прадаць жыццё ў змаганні з польскімі «антысаветчыкамі». А пакуль што самі былі забойцамі на дзяржаўным узроўні. Згадайма хоць бы трагічны лёс закатаванага святара Юрыя-Ежага Папялушкі; у тыя ж гады мой стрыечны дзядзька-журналіст, Павел Касовіч, таксама быў знойдзены мёртвым у Зялёнай Гуры, за некалькі дзясяткаў метраў ля свайго жылля-«блёку».

І калі б нешта падобнае насамрэч здарылася з Туронкам тады — ці ведалі б мы ТАКОГА Гісторыка ў беларускім нацыянальным жыцці?

**«Вытрымаем і тое...»**

Зрэшты, усе адрэзкі жыццёвага шляху выдатнага беларускага вучонага патрабуюць у будучыні пільнага вывучэння.

У беларускіх (і беластоцкіх) выданнях Юры Туронак пачаў друкавацца ў 1950-я гады. Найболей публікацый прыпадае на 1970-я гады. Відавочна, былі яны і раней, калі пасля вучобы ў Шчэцінскай гандлёвай акадэміі і Варшаўскай галоўнай школе планавання і статыстыкі (апошнюю юнак скончыў у 1952 годзе, працуючы ўжо ў сталіцы Польшчы ў ЦІЭХу — Цэнтралі па імпарце і экспарце хімікатаў), на пачатку 1956 г. перавёўся ў Польскую знешнегандлёвую палату, якая праз год распачала выданне перыёдыка «Замежныя рынкі» («*Rynki Zagraniczne*»), дзе Туронак працаваў рэдактарам. Гэты прамежак пакуль найменш вывучаны ў біяграфіі шматграннага дзеяча.

Застаюцца для высвятлення і паасобныя эпізоды супрацоўніцтва Туронка з беластоцкім штотыднёвікам «Ніва». Яно не было ружовым і бесклапотным. У лісце да Мар'яна Пецюкевіча (16 лістапада 1978 г.) чытаем: «*Паважаны і дарагі пане Пецюкевіч! Гадавік Торуньскага этнаграфічнага музея і Вашае пісьмо атрымаў, за што сардэчна дзякую… Для цікавасці паведамляю, што ў Лондане апублікавалі англамоўны пераклад „Тараса на Парнасе". Напісаў аб гэтым беспрэцэдэнтным здарэнні ў „Ніву". Пабачым, ці надрукуюць.*

*Больш асабліва цікавых навін няма. Хіба тое, што Міністэрства ўнутраных спраў зняло з „Беларускага календара" на 1979 год мой чарговы артыкул пра беларускае школьніцтва на Беласточчыне!.. Вытрымаем і тое…*»

Дзіўнавата чытаць пра цэнзурныя захады і зняццё з друку гэтага артыкула пачынаючага даследчыка, калі ўжо за два гады да таго ён выйшаў асобнаю брашуркаю «Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд» (Беласток, 1976). І выклікаў цікавасць не толькі пільных наглядных органаў «народнай» Польшчы. Лепшыя

прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі ў далекаватай (бо за мяжою ад Туронка) метраполіі захапляліся нечаканымі даследаваннямі 50-гадовага хіміка-гісторыка.

«*Шаноўны Юры Туронак!*

*Дзякуй Вам вялікае за ўвагу і Вашу работу аб беларускім школьніцтве на Беласточчыне. Прачытаў з вялікай цікавасцю. Што ж, у нас амаль гэтаксама, з некаторымі хіба асаблівасцямі… З прывітаннем Васіль Быкаў*».

Можна толькі ўявіць, як, атрымаўшы такую падтрымку ад волата беларускай літаратуры, варшаўскі адрасат быў на сёмым небе… Падтрымка ад аўтарытэтных сучаснікаў ва ўмовах падсавецкага існавання была ой як патрэбная. Бо і ў пазнейшым біяграме, складзеным на замову Аляксея Каўкі, таксама сустракаем горкае прызнанне навукоўца: «Два, на мой погляд, нядрэнныя артыкулы: „На зары Народнай Польшчы“ (пра аднаўленне бел[арускіх] школ на Беласточчыне 1944 г.) і „Непакорная Вера“ (пра Маслоўскую) дзякуючы старанням паважаных органаў засталіся ў машынапісе».

Аднак спыніць Туронка — гэта як спрабаваць спыніць-затрымаць нашую адвечную «Пагоню». Немагчыма. Гісторык крочыў сваім абраным шляхам, пашыраючы і пашыраючы абсягі ўласных навуковых зацікаўленняў. «*А ведаеце, хто яшчэ цікавіцца гуртком і яго аднаднёўкай „Колас беларускай нівы“? Юры Туронак — супрацоўнік беластоцкай „Нівы“. Мы неяк пачалі сёлета з ім перапісвацца*», — прызнавалася ў лісце да гарадзенскага прафесара Аляксея Пяткевіча адна з піянераў нацыянальнага адраджэння Зоська Верас у лісце з Вільні (23 кастрычніка 1978 г.)[1].

А праз некалькі месяцаў (28 лютага 1979 г.), турбуючы выдатнага айчыннага энцыклапедыста Янку Саламевіча, апраўдвалася: «*Дарагі Іван Уладзіміравіч. Адна просьба — не мая асабістая. Ю. Туронак паміж цэлай літаніяй пытаньняў да мяне пытаецца аб псэўдонімы, якія спатыкаліся ў беларускіх календарах 1910–1914 гадоў пад гаспадарчымі артыкуламі. Гэта: Юрка Бусел з-пад Слуцка, Лемеш, Крэмень, Борысовіч, Чело… Ці ёсць яны ў Вашым зборніку? Калі што маеце, калі ласка, напішыце мне, а я яму перашлю разам з іншымі весткамі*» (тамсама, с. 158).

Не ва ўсіх архівах пакуль дазваляюць даследаваць спадчыну Гісторыка Туронка (нецікавую пальму першынства трымае тут акадэмічная бібліятэка імя Якуба Коласа НАНБ). Таму яшчэ не ведаю, якія «запытальныя літаніі» дасылаў легендзе нацыянальнага руху даследчык Туронак. Але як прыклад прывяду немалы спіс ягоных запытанняў у лісце да айца Аляксандра Надсана. Рыхтуючыся да ўдзелу ў працы Інстытута славістыкі Польскай Акадэміі навук («з якім крыху супрацоўнічаю»), дзе была запланаваная праца «Біяграфічны слоўнік беларускіх рэлігійных дзеячаў XX ст.» (духоўных і свецкіх усіх канфесій), «якія зрабілі нешта для беларускай культуры і нацыянальнай свядомасці», варшаўскі Гісторык звярнуўся па належны матэрыял да айца Надсана. Да карэспандэнцыі з Варшавы ад 18 сакавіка 1999 г. быў далучаны доўгі спіс канкрэтных пытанняў:

**1**. Калі і дзе памёр арх. Філафей?

**2**. Які правільны загаловак кніжкі В. Унука (Антона Падзявы)? Паводле а. Журні («БШ» Нмр 132, пазіцыя 132) «Добрым Бог памагае», а паводле Найдзюка (брашура пра друкарню Скарыны, с. 32) «Добраму і Бог памагае».

**3**. Хто аўтар «Даведкі з гісторыі аўтакефаліі Бел. Прав. Царквы», Мэльбурн, 1960 — гл. Журня, «БШ» нр 132, пазіцыя 8.

**4**. Ці лічыце мэтазгодным уключыць а. Журню ў наш «Біягр. слоўнік», і калі так, ці ёсць ягоная кароткая біяграфія са здзяйсненнямі?

**5**. Ці лічыце мэтазгодным уключыць а[йца] К. Маскаліка, і калі так, напішыце, да якога году ён працаваў на Ватык[анскім] радыё, ці быў там толькі дыктарам ці таксама рэдагаваў перадачы? Ці жыве?

**6**. Патрэбны кароткі жыццяпіс («творчы») Г. Пікарды. Акрамя яго вядомых артыкулаў у «БШ» і «Журн. Бел. Студыяў», маю ягоны «Бел. Царк. Спеўнік. Св. Літургія», Лондан, 1979. Якія былі яго іншыя асобныя выданні (кніжныя)?

**7**. Пра айца А. Надсана можам скласці жыццяпіс на падставе «БШ» і інш., аднак калі ёсць гатовы, было бы добра атрымаць копію. У якім годзе выйшла Ваша кніга пра св. Кірылу Тураўскага і ці былі яшчэ іншыя Вашы аўтарскія выданні?

**8**. Ад каго можна атрымаць біяграфіі (са здзяйсненнямі) найболь[ш] заслужаных для белар[ускай] культуры нашых баптыстаў (Гітлін, Ясько, Рэпэцкія, Пан[у?]цэвіч, Сахар, Сака і іншыя)? Можа ведаеце адрас Юркі Рэпэцкага?

**9**. Якія былі выдадзеныя на Захадзе працы а[йца] Ул. Чарняўскага?

**10**. Можа ёсць гатовая біяграфія В. Пануцэвіча?

**11**. Ці маеце «Касцельныя песні» В. Гожэльняскага, Петраград, 1917? Калі так, прашу ксеракс прадмовы і старонкі з імпрыматур.

**12**. Калі памёр а. Святаслаў Коўш? У «Беларусе» звесткі не заўважыў (чаму?), павінна быць у «Бел. Думцы» за 1993 г., нр 38 (якога ў мяне няма).

**13**. Што вядома пра прот[аіерэя] Лукаша Голада,

рэдактара часоп[іса] «Праваслаўная Беларусь», Вільня 1927–1928 гг.?

Спынім, абарвём «літанію» Туронкавых запытанняў на гэтай 13-цы адмысловых пытанняў, каб зразумець, як няпроста было падтрымліваць карэспандэнцыю з варшаўскім Гісторыкам, які багаж ведаў павінен быў мець кожны адрасат, каму належаў гонар ліставацца з вялікім сучаснікам, каб нам усім зразумець, каго Хрысціна Лялько ўключыла ў склад рэдакцыйнай калегіі яркага духоўнага часопіса «Наша вера», і чаму спадар Юры быў там ад самага пачатку, і ўваходзіў у склад калегіі не ганаровым «вясельным сватам», а і сталым аўтарам.

І каго мы страцілі…

З такіх «запытальных літаній» выяўна бачыш, па кім сумаваў дух Янкі Купалы ў падсавецкім чаканні беспрасветнай бальшавіцкай хлусні: «*Прыйдзе новы — а мудры — гісторык, // А ён прыйдзе — ужо ён ідзе — // І сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак // І да зорак аб нашых прасторах, // Аб падзеях, людзях павядзе*».

Юрась Туронак, змалку звыклы пераадольваць сустрэчныя вятры ў спёку і ў мароз, калі тупаў у школу (ці не адсюль на ўсё жыццё засталася ягоная пастава: з нахіленай, нібы троху адвернутай ад сустрэчнай кругаверці з неба галавою, ён таропка, не збаўляючы хады, імкліва крочыў у абраным кірунку), ішоў да сваёй галоўнай кнігі жыцця: «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Напісаная па-польску і абароненая як навуковая дысертацыя, яна здолела пабачыць свет асобнай манаграфіяй у 1989 годзе. І здолела пашырыцца праз межы краіны, у якой Туронку пасля вайны было наканавана жыць.

### Уварванне ў беларускую гістарычную навуку

Так, іначай як неверагодным уварваннем (іншае слова цяжка й падабраць) прозвішча Туронка ў сонме імёнаў-даследнікаў беларускага жыцця пад акупацыяй цяжка і назваць. Але лёгка растлумачыць. Прасавецкіх «гісторыкаў» на абшарах былога СССР у паваеннай падсавецкай гуманітарнай навуцы нагрувасцілася тысячы. З іх можна было скласці паасобныя палкі і нават арміі ідэалагічных паслугачоў. «*Партыйных коней на выпасе ідэй сацыялізму*» (Ул. Някляеў). Аднак цяпер, каб прыгадаць іхнія філімоністыя імёны, даводзіцца добра такі напружыць памяць і пакалупацца ў даведніках, бо нават сусветная інтэрнэтная павуціна не ўсе іх утрымала. Толькі званні акадэмікаў ды пасады нядаўніх дырэктараў цэлых акадэмічных інстытутаў пакуль што трымаюць іх у абоймах энцыклапедычных даведнікаў, дазваляюць даведацца пра тэмы іхніх «доктарскіх» опусаў кшталту петрыкееўскіх «Советы депутатов трудящихся БССР и их роль в создании материально-технической базы коммунизма (1959–1965 гг.)» (1973) або «Забота Советской власти о здоровье трудящихся» (1976).

І тут раптам…

«Кніга Юрыя Туронка „Беларусь пад нямецкай акупацыяй“ у нашай краіне выходзіць упершыню. З'яўленне яе ў другі час [стыль арыгінала. — Я. Я.] было б проста немагчымым. Кнігу не толькі б „прабуксавала“ наша „цэнзура“, але і наўрад ці якое з выдавецтваў адважылася б прыняць такі матэрыял для выдання. Аднак бяжыць час. Шмат чаго змянілася ў нашым жыцці, у палітычных поглядах кожнага чалавека. Прыйшоў час галоснасці. Бадай, яму мы абавязаны тым, што гэтая праца польскага гісторыка перакладзена на беларускую мову і ўбачыць свет, нягледзячы на сённяшнія эканамічныя праблемы дзяржаўных выдавецтваў» (з афіцыйнай прадмовы 1993 г.; пераклад манаграфіі на беларускую мову Валерыі Ждановіч).

Такое і цяпер цяжка ўявіць: каб афіцыйнае дзяржаўнае выдавецтва («Беларусь») пайшло на выданне «антысавецкай» па сутнасці манаграфіі накладам у 5 (пяць!) тысяч паасобнікаў.

Ды і тых тысячаў, відавочна, не хапіла згаладалым па гістарычнай праўдзе беларусам. Нават айчынным інтэлігентам.

«*Юрка! Калі ў цябе захавалася яшчэ „Беларусь пад нямецкай акупацыяй“ — прышлі нам з Чобатам. Адну на дваіх. Бо ва ўсіх жлабоў што ляжыць мёртвым грузам, то і будзе ляжаць. А Чобат скарыстае. Данута*». І не быў бы гэта Туронак-Гісторык, каб на аўтографе гарадзенскай паэткі Дануты Бічэль не аднатаваў таропкі, але каштоўны запіс: «Атрым[аў] 10. IV.93» (з неапрацаванага архіва Ю. Туронка; захоўваецца ў ДАМЛіМ).

Затое гэтак таропка раскідвацца-падпісвацца ўласнымі аўтографамі на падрыхтаваных Туронкам выданнях аўтар не быў аматарам.

Маючы ў сваім ракаўскім хатнім бібліятэчным зборы не адну тысячу кніг і, хіба, не адну сотку аўтографаў-прысвячэнняў на іх (пачынаючы ад легендарнага Уладзіміра Караткевіча), я пакуль не адшукаў у сябе аніводнага ад Туронка. Ну, калі не лічыць «аўтографам» нататку нейкай чужой рукой, уторкнутай, нібы закладка, між старонак: «Язэп Язэпавіч, гэтую кнігу прынёс Алег Гардзіенка, сказаў, што яе Вам перадаў Юры Туронак».

Падарунак каштоўны, бо выданне досыць рэд-

кае (Туронак Ю. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. Мінск, 2002). Памятаю толькі, бо моцна ў памяці маёй застаўся пільны позірк аўтара гэтага даследавання, над якім мы гаманілі ў ягонай варшаўскай кватэрцы. «Вам што, сапраўды цікавая гэтая кніга? І патрэбная?» — пытаўся, ведаючы, што я на стагоддзе «старэйшы» і цікаўлюся болей не эпохай 1939–1944, а хутчэй 1839–1864. Я вытрымаў пільны позірк старэйшага сябра, прамовіўшы коратка:

— Так, мне такая кніга патрэбная…

— Добра. Будзеце яе мець. Я дастану асобнік.

І вось, як бачым, Гісторык слова стрымаў. Відавочна, спадар Туронак быў з тых аўтараў, які пісаў і выдаваў кнігі з адзінаю мэтаю: каб яго чыталі, а не дзеля таго, каб гэтыя кнігі падпісваць, смакуючы ды купаючыся ў промнях хуткаплыннай славы. На нейкім біблійным, падсвядомым пачуцці мудрасці Саламонавай з маленства спазнаў Юрачка гэты ўяўны самападман таннай папулярнасці і праз усё жыццё не паддаўся ёй...

Прадмова да беларускага выдання, з адчувальным постсавецкім душком, тым не менш сканчваецца аб'ектыўным прызнаннем мэтазгоднасці прыглядзецца да падзеяў апошняй вайны на прасторах Беларусі з «несавецкага» пункту гледжання: «…*Але ёсць і іншы дакументальны матэрыял, іншы погляд. Такі, як у аўтара. Яго нельга ўтойваць. Гэта матэрыял для роздуму. Аб яго абгрунтаванасці і каштоўнасці меркаваць гісторыкам і табе, чытач*!»

І чытач распарадзіўся сваім меркаваннем. Тое, што пры жыцці аўтара кніга «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» перавыдавалася паўдзясятка разоў — найлепшае сведчанне запатрабаванасці народа ў праўдзівым асвятленні свайго мінулага, хай сабе крывавага й жахлівага.

У той самы час, калі пад пяром Ю. Туронка пачаткам 1980-х паўставала легендарная кніга, у падсавецкай Беларусі на змену петрыекеевым і філімонавым гадаваліся і прыходзілі іншыя маладзейшыя кадры, якія цяпер, у XXI стагоддзі, прадстаўляюцца «экспертамі Радыё „СВАБОДА“», хоць самі пад Саветамі не саромеліся абіраць, а пасля і бараніць кандыдацкія дысертацыі з тэмамі «Деятельность Компартии Белоруссии по пропаганде и внедрению достижений науки и передового опыта в сельскохозяйственное производство (1971–1980 гг.)». Такія «эксперты і аналітыкі» спачатку «внедряли» прапаганду пра дзейнасць камуністычнай партыі, а цяпер «внедряют» у галовы слухачоў радыё «Свабоды» — міфы-міражы, што вось-вось яшчэ крыху — і лад у нашай краіне сам (зверху) памяняецца да лепшага.

Няма дзіва, што ад усіх такіх абслугачоў гісторык Туронак трымаўся здалёк, асабіста ведаючы, што іх хапае і ў беларускім палітычным жыцці Беласточчыны. Толькі праз Навуку і Культуру бачыў гісторык пэўны шлях змагання супраць духоўнага панавання розных акупантаў, хаця на самым пачатку 1990-х гадоў, шчыра верачы ў палітычныя зрухі раскатурханай Беларусі, матэрыяльна падтрымліваў палітычны рух. «*Атрымаў ад Юр.Туронка трыста даляраў у фонд Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання. Сакрат Яновіч. 27 чэрвеня 1990 г.*»[2]. Малавядомае БДА — палітычная партыя беларусаў у Польшчы, створаная ў 1990 г. пры чынным удзеле беларускага Гісторыка з Варшавы.

### Кароткая прыпавесць<br>пра гуску і пастушку

З Варшавы на Усход ішоў малады вандроўнік.

Чаму з Варшавы? Бо там ў яго нядаўна з'явілася добрая праца, як і належыць маладому спецыялісту з добрым атэстатам-дыпломам эканаміста. Маладзёна гэтак цанілі, што паабяцалі пазачаргова даць сталічнае жытло — рэч архіважную ў паваеннай разбомбленай Варшаве. Абяцалі, праўда, кватэрку халасцяцкую. Бо каб мець большую, ён павінен быў бы займець сям'ю. А гэта значыць найперш — спадарожніцу жыцця.

А дзе яе лёгка ўхопіш? Паспрабаваў быў пазнаёміцца з адной-другой над Віслай-ракой — не дужа атрымалася. Не праз характар замкнёны свой, а таму што, даведаўшыся адкуль ён, полькі адмаўляліся з ім гаварыць. Бо з Усходу ён. А «хамамі з-за Бугу» радавітыя палякі пагарджалі.

Дык і падаўся маладзён шукаць скарб свой туды, дзе было ягонае сэрца з роду ў род. На Усход. На сваю Бацькаўшчыну. Ну, не зусім у родныя мясціны найпрыгажэйшай старажытнай браслаўскай зямлі, бо яны апынуліся за «жалезнай заслонай». Аднак на Беласточчыне яшчэ жыла мама ўдава і чакала сына. Бо ён абяцаў ёй знайсці маладую гаспадыньку, падмену яе старэчым рукам.

Ішоў маладзён улетку 1960 году. Раскоша жніўня ў палях і лагода жытняга паветра настройвалі на мінорны лад. І сустрэў дарогаю маладзён некалькі дзяўчат-маладзіцаў, і ўсе яны былі пастушкамі. Адна пасвіла кароў і ані не загаварыла з ім. Нават пугаю замахнулася. Другая пасвіла авечак і, каб адшыць назолу, пагрозліва паабяцала нацкаваць вартаўнічых сабак. І толькі трэцяя (а было ўжо тое пад Бельскам), ясная як сонейка, пасвіла белых

гусей на аксамітнай сенажаці. Падышоўшы, спытаўся ў яе маладзён безнадзейна зусім іншае, пра што пытаўся ў іншых.

— А скажы, калі ласка, калі ў дому ў гаспадарцы маеце гэтулькі гусей — дык пэўна, і гатаваці смачна ўмееш гуску?

Зірнула пастушка на маладзёна. І быў ён гэткі прыгожы, што не толькі сэрцайка, але і калені раптоўна задрыжэлі ў яе. Ну як сказаць такому праўду? Як прызнацца, што яшчэ анічога ў жыцці яна сама не навучылася рыхтаваць, усё за бацькамі жывучы ў выгодзе…

— Так, я гуску ўмею запекчы смачна. Толькі дроў трэба меці сухіх. І шмат.

— А я з сякерай сябрую, — лёгка сказаў, як зманіў у адказ, блакітнавокі маладзён.

І было тое ў жніўні, а праз месяцы два, у кастрычніку, распісаліся яны ў Бельску. А яшчэ праз месяцы два, 26 снежня 1960 году, узялі і шлюб перад Богам. У Варшаве, на вуліцы Мядовай, ва ўніяцкай святыні.

Чаму ва ўніяцкай? Бо пастушка выявілася праваслаўнай, а род маладзёна — з католікаў. А на нашай зямлі, яшчэ задоўга да пабудовы Эўразвязу, экуменізм квітнеў у дзяржаве Міндоўга-Гедыміна-Ягайлы-Вітаўта і Вазаў. І была такая талерантнасць у нашай Айчыне, што ёй і дасюль зайздросцяць еўрапейскія палітыканы…

І нарадзіліся ў новай беларускай экуменічнай сям'і дзве лябёданькі: Наталля (7 лістапада 1961 г.) і Ганулю (3 траўня 1966 г.). А на парозе новага стагоддзя й тысячагоддзя бацяны з Беласточчыны пацешылі Туронкаў і ўнучкам Алянам (нарадзіўся 30 жніўня 2000 г.)…

### Толькі калі спыніцца сэрца

У апошняе дзесяцігоддзе, перанёсшы інсульт, Гісторык не мог ужо пісаць. Фізічна. Ані старонкі. Балюча было мне глядзець (падчас кароткіх наведванняў у Варшаве) на мужчынскія пальцы, пакручаныя сіняватым артрозам. Але надараліся хвіліны, калі гэтымі пальцамі Гісторык стукаў сабе ў скроні і прыгаворваў: «Кніга мая апошняя ўжо ў мяне напісаная. Яна вось тут, у галаве. Засталося адно перанесці на паперу. Каб толькі хто дапамог».

З такіх прызнанняў у маёй душы выспявала перакананне, што спадар Юры Туронак не проста апантаны Гісторык, а найсапраўдны Творца, які ў сваёй дзейнасці спыніцца толькі тады, калі спыніцца ягонае сэрца.

А сэрца Ю. Туронка працягвала біцца ў грудзях унука Аляна, якому дзедка Юрка спяшаўся перадаць усю сваю моц думак, глыбіню й досведчанасць пражытага няпростага, незмарнаванага жыцця. І я разумею, чаму летась, падчас атрымання ўзнагароды, прызначанай спадару Юрыю з нагоды 100-годдзя абвяшчэння БНР, прамаўляў мовай бацькоў-дзядоў-прадзедаў унук Алян. І прамаўляў гэтак, што слёзы выступілі на вачох іншых лаўрэатаў. Бо яны, колішнія студэнты з Падляшша й Беласточчыны, у годнай паставе Туронкавага ўнука пабачылі саму будучыню справы, якой прысвяцілі свае жыцці ў надзеі на лепшае жыццё сваёй пакроенай межамі Бацькаўшчыны, калі самі, амаль у веку Аляна, у далёкія 1980-я гады вайсковага становішча ў Польшчы, каб адзначыць чарговыя ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі, хаваліся пакрыёма з бел-чырвона-белымі палотнішчамі… Нібы першыя хрысціяне, якія ў катакомбах праносілі сімвал Хрыста, гэтак юнакі з Беларускага згуртавання студэнтаў у Варшаве, якія лічылі Гісторыка Туронка сваім ідэолагам і духовым настаўнікам (бо карміў іх духовым хлебам), маглі падцягнуць за сіваватым, але гэткім маладым душой мужчыніскам, жыццесцвярджальны спеў: «*У гушчарах, затканых імглою, // Шэрым змрокам, на золку ў зару // Ахвяруем табе мы сабою // Кожны дзень, кожны час, Беларусь...*».

А ў роспачную хвіліну развітання над ягонаю магілаю ў студзені 2019 года на варшаўскіх праваслаўных могілках кожны з іх таксама мог сцвердзіць:

*Ня трэба мне срэбра, ні золата.*
*Ні іншых багатых маёнткаў…*
*Спазнаў я «нетузінко́вага» — Во́лата!*
*Гісторыка — Юр'я Туронка.*

*У жыцьці гэтак мала нам трэба*
*Каб не згубіць дарогу да неба…*

---

[1] Верас Зоська (Сівіцкая Людвіка). Я помню ўсё: Успаміны, лісты / Уклад., падрыхт. тэксту, прадмова, каментар, паказальнік імёнаў Міхася Скоблы. — Гародня-Уроцлаў, 2013. — С. 154.

[2] Устаноўчы кангрэс БДА (10 лютага 1990 г.) адбыўся ў Беластоку, у ім удзельнічала каля 100 дэлегатаў, прыняў праграму і статут. Асноўная мэта — выказванне патрабаванняў беларускага насельніцтва Польшчы і абарона яго інтарэсаў. Выдавала бюлетэнь «Беларускія навіны», адным з рэдактароў якога быў прафесар Юры Туронак.









# «Рассеяных збіраць» —

так называецца кніга славацкага арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага, былога Апостальскага Нунцыя ў Беларусі, дыпламатычная місія якога прыпала на час адраджэння каталіцкай веры ў нашым Краі (1996–2001 гг.).

*Dispersos congregare* — «Рассеяных збіраць» — гэта таксама дэвіз на біскупскім гербе Дамініка Грушоўскага. Так Яго Эксцэленцыя вызначыў галоўную мэту свайго пастырскага служэння — збіраць рассеяных па свеце славацкіх вернікаў, абуджаць у іх нацыянальны дух і весці да Бога, у Нябеснае Валадарства. Высакародная мэта прадыктаваная і пастырскім абавязкам, і гістарычнымі абставінамі, у якіх знаходзілася родная Славакія і якія змусілі вельмі многіх землякоў Дамініка Грушоўскага шукаць лепшай долі па-за межамі Радзімы. Гэтаксама, як і яго самога. Выехаўшы ў 1946 г. па рэкамендацыі мясцовага біскупа ў Рым, ён змог вярнуцца на Радзіму толькі на пачатку 90-х гадоў. У Вечным горадзе 23 снежня 1950 года Дамінік Грушоўскі атрымаў святарскае пасвячэнне, там жа праз год абараніў ліцэнзіят па тэалогіі, а пасля працаваў вікарыем і пробашчам у італьянскіх парафіях, выкладаў філасофію і дагматыку ў Папскай рэгіянальнай семінарыі ў правінцыі Вітэрбо.

У 60-я гады служыў у Славацкай каталіцкай місіі ў Парыжы, пробашчам славакаў у Парыжскай архідыяцэзіі. З 1966-га па 1992 год працаваў намеснікам, а пасля — рэктарам Славацкага інстытута імя Кірыла і Мятода ў Рыме, спалучаючы гэтыя абавязкі з працаю рэдактара часопіса «Голас з Рыма» і ў Славацкай рэдакцыі Ватыканскага радыё.

6 студзеня 1983 года ў базыліцы св. Пятра з рук папы Яна Паўла II Дамінік Грушоўскі атрымаў біскупскую сакру. 24 верасня 1992 г. Святы Айцец менаваў Яго Эксцэленцыю дапаможным біскупам Брацілаўска-Тырнаўскай архідыяцэзіі… Нарэшце можна было вярнуцца на Радзіму, якая ў той час перажывала сваё нацыянальнае і рэлігійнае адраджэнне.

У снежні таго ж года Дамінік Грушоўскі стаў генеральным вікарыем гэтай архідыяцэзіі, а з 1995-га па 1996 год выконваў функцыі старшыні Камісіі Канферэнцыі славацкіх біскупаў для славакаў замежжа.

15 красавіка 1996 г. ён быў менаваны тытулярным арцыбіскупам дыяцэзіі Тубія і Апостальскім Нунцыем у Беларусі…

Скупыя біяграфічныя звесткі, за якімі паўстае вялікае жыццё ахвярнага каталіцкага святара, пастыра і дыпламата. Аповед пра гэтае надзвычай цікавае, насычанае і нялёгкае жыццё і склаў змест кнігі «Рассеяных збіраць», якая ў 2018 г. выйшла ў выдавецтве «*Post Scriptum*» у Браціславе.

Як пішуць у прадмове да кнігі сябры шаноўнага Аўтара — гісторык Францішак Внук, архівіст і бібліёграф Ёзаф М. Рыдла і кс. Ян Кош'яр — натхніць арцыбіскупа Грушоўскага на такі аповед было вельмі складана. Сціплы і далікатны па сваёй натуры, ён не бачыў неабходнасці ў асабістых мемуарах. І ўсё ж, дзякаваць Богу, сябрам удалося пераканаць арцыбіскупа ў важнасці такой кнігі: ён згадзіўся на дыктафонны запіс сваіх успамінаў. Такім чынам, у 2004 годзе, у маляўнічым італьянскім мястэчку Кастэль Сант'Элія ў правінцыі Вітэрбо, дзе ў той час жыў арцыбіскуп,

на працягу некалькіх дзён ішла няспешная размова і вёўся яе запіс. Потым з дыктафона запіс зняла сакратарка вядомага славацкага біскупа на эміграцыі Паўла Гніліцы Марыя Бэлякова. Арцыбіскуп Грушоўскі аўтарызаваў зняты тэкст, зрабіў неабходныя праўкі і ўдакладненні, але не захацеў адразу аддаваць яго ў друк. Так прайшло больш за дзесяць гадоў. І толькі праз два гады пасля смерці Аўтара (арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі адышоў у вечнасць 27 ліпеня 2016 г.) ягоныя сябры выдалі гэтую кнігу. Салідны том на паўтысячы старонак, у якім 91 раздзел няспешнага, мудрага роздуму не толькі пра жыццёвыя калізіі і тых людзей, якіх Аўтару давялося сустрэць на доўгім жыццёвым шляху, але і пра свой час і пра цэлую эпоху, у якую яму давялося жыць.



Першая Камунія ў мінскай архікатэдры. 1999 г.

З сыноўняю любоўю, удзячнасцю і павагаю Дамінік Грушоўскі піша найперш пра сваіх бацькоў — «бедных, але вельмі пабожных і працавітых» людзей, якія спявалі ў касцёльным хоры і там пазнаёміліся; з лёгкаю ўсмешкаю ўзгадвае эпізоды маленства… Нарацыя цячэ вольна, нязмушана і натуральна, як вада ў яго роднай рэчцы Жытаве, на берагах якой ён вырас, купаючыся і вудзячы рыбу…

Гэта была першая ў маім жыцці кніга, прачытаная на славацкай мове. І ўвесь час чытання мяне не пакідала дзіўнае ўражанне нечаканай сустрэчы з даўнім і добрым знаёмым, якога я шмат гадоў не бачыла і таму хацела як мага больш даведацца пра яго жыццё, а ён ахвотна, а галоўнае — цікава і гранічна шчыра пра сябе апавядаў. Таму ад кнігі цяжка было адарвацца. І невядомая дасюль мова не перашкаджала разумець сэнс напісанага… Хоць, чаму невядомая? Мне прыгадалася, як у далёкія ўжо 90-я Апостальскі Нунцый Дамінік Грушоўскі гаварыў свае казанні ў нашай мінскай архікатэдры на сваёй роднай славацкай мове, а мы, беларускія вернікі, яго разумелі. І згадалася таксама, што падчас працы над перакладам Імшалу на беларускую мову наша перакладчыцкая камісія, з ласкі арцыбіскупа Грушоўскага, карысталася таксама і славацкім Імшалам — для параўнальнага аналізу літургічнай лексікі…

Зразумела, што ў кнізе Дамініка Грушоўскага мяне найбольш цікавілі раздзелы, дзе наш былы Нунцый апісвае сваё апостальскае служэнне ў Беларусі. Пачынаючы ад ягонага ад’езду ў маі 1996 г. з Рыма, з папярэднім візітам у папы Яна Паўла II, які добра ведаў і разумеў сітуацыю Касцёла ў Беларусі; у дзяржсакратара Анджэло Садана, у мансіньёра Тарана, які кансультаваў Нунцыя адносна палітычнай сітуацыі ў Беларусі, і ў арцыбіскупа Джавані Батыста Рэ, які раіў яму, як уладкаваць нунцыятуру ў Мінску, бо да таго часу яшчэ не было асобнага і годнага памяшкання для такой важнай дыпламатычнай пляцоўкі. Тады яшчэ шмат чаго не было: пачыналася не толькі адраджэнне веры, але і жыццёва важных структураў Касцёла. У Беларусі ў той час былі ўсяго два біскупы на тры дыяцэзіі: Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі кардынал Казімір Свёнтэк, які быў адначасова Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі, і біскуп Аляксандр Кашкевіч, ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі. Таму ў Апостальскага Нунцыя было шмат клопату і працы. Славак Дамінік Грушоўскі, які сам паходзіў з краіны былога сацлагеру, хоць і жыў доўгі час у Заходняй Еўропе, добра арыентаваўся ў нашай постсавецкай сітуацыі. Што праўда, мяркуючы па змешчаных у кнізе ўспамінах, яго ўсё ж не вельмі прыемна ўражвалі некаторыя тутэйшыя рэаліі і не толькі бытавыя. Ён бачыў і адчуваў, наколькі глыбока ўвайшла саветчына ў ментальнасць людзей. І ў той жа час яго кранала і захапляла шчырая вера беларускіх католікаў, іх ахвярнасць і адданасць Богу і Касцёлу. Як сам прызнаецца, ён па-сапраўднаму палюбіў Беларусь і беларусаў. Трэба сказаць, што любоў гэтая была ўзаемная...

Ёсць у кнізе Апостальскага Нунцыя Дамініка Грушоўскага кавалкі тэксту, якія хацелася б абавязкова перакласці і надрукаваць не толькі ў каталіцкіх выданнях. Напрыклад, эпізод, які датычыць візіту папы Яна Паўла II у Беларусь. Многія з нас, беларускіх католікаў, якія так прагнулі прыезду Папы, нават не ўяўлялі, наколькі гэты прыезд



Падчас урачыстасці адкрыцця Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску. 2001 г.

быў тады магчымы і рэальны. І як жа да гэтага часу крыўдна, што ён не адбыўся...

Нунцый Грушоўскі падрабязна згадвае сваю сустрэчу з Мітрапалітам Філарэтам у праваслаўнай епархіі, апісвае іх дыялог пра магчымасць запрашэння Папы ў Беларусь, якое абавязкова мусіла быць узгодненым і з Праваслаўнаю Царквою. Вядома, што не Мітрапаліт Філарэт вырашаў гэта канчаткова, а Маскоўскі Патрыярх Алексій, які ўпарта пазбягаў сустрэчаў з Папам, што планаваліся ў розных краінах і ў розны час, але так і не адбыліся па віне расійскага іерарха... Пэўна ж, Бог яму суддзя, але крыўдна да болю, што менавіта хрысціяне, браты па веры, сталі тады адзінаю перашкодаю для сустрэчы католікаў Беларусі са Святым Айцом, які некалькі разоў быў зусім побач з намі: у Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі, Украіне...

Добра, што з'яўляюцца такія кнігі нашых каталіцкіх дыпламатаў. Яны — не проста сведчанне асобнага чалавека, яны — дакумент эпохі, у якім зафіксаваны праўдзівыя рэаліі і праўдзівыя падзеі, у тым ліку і асаблівасці міжканфесійных адносінаў, якія, на жаль, у сваёй аснове і па сваёй сутнасці па-ранейшаму застаюцца далёкімі ад дасканаласці...

Ажно шэсць раздзелаў у кнізе Дамініка Грушоўскага прысвечаны яго дыпламатычнай службе ў Беларусі. Сярод іх — «Менаванне новых біскупаў» і «Заснаванне Віцебскай дыяцэзіі». Гэта старонкі падрабязнай і вельмі важнай гісторыі станаўлення касцёльных структураў у Беларусі.

У перадапошнім, 90-м раздзеле, які называецца «Адыход з Мінска», Аўтар піша: «Гэта не было расставанне проста з Беларуссю, але галоўнае — з ксяндзамі, біскупамі, а перадусім — з людзьмі, вера якіх мяне захапляла, для духоўнага дабра якіх я працаваў і якіх я вельмі палюбіў».

8 кастрычніка 2001 года арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі выехаў з Мінска, развітаўшыся з вернікамі яшчэ 2 ліпеня, на ўрачыстасці ў Будславе.

Завяршаючы аповед пра сваё жыццё, арцыбіскуп Грушоўскі кажа: «Не хачу нікога павучаць і нікому не хачу ставіць сваё жыццё ў прыклад. Нікому. Хачу толькі сказаць, што я <...> заўсёды быў поўны радасці ад таго, што магу служыць Богу і Яго люду. Гэта я хачу сказаць усім, бо гэта праўда. І ў гэтым — сэнс майго жыцця».

І напрыканцы дадае: «Лічу вялікім дарам ад Бога, што даў мне такую вясёлую натуру. З маленства мяне называлі *smejko*, і ўсё жыццё я быў такі ўсмешлівы. І святы Айцец мне аднойчы сказаў: <...> «Ага, гэта той біскуп, які заўжды ўсміхаецца».

Мы таксама запомнілі Нунцыя Грушоўскага ўсмешлівым, прыязным, сардэчным. І ўдзячныя яму за адкрытасць, даступнасць, чалавечую дабрыню і шчырасць.

У часопісе «Наша вера» надрукаваны ўсяго адзін артыкул Дамініка Грушоўскага пра Вялікі Юбілей 2000 Года. Той год быў і для нашага Нунцыя таксама юбілейны: ён адзначаў 50-годдзе свайго святарства і 75 гадоў з дня нараджэння. Я памятаю, як, рыхтуючы публікацыю, хадзіла да арцыбіскупа Дамініка ў новы офіс на вуліцы Валадарскага, утульна абсталяваны пад нунцыятуру. Ён сустрэў мяне па-хатняму проста і, як заўсёды, прыязна. Распавядаў пра сваю сям'ю і Радзіму, паказваў фотаальбомы з дарагімі яго сэрцу здымкамі...

У кнізе «Рассеяных збіраць» змешчана шмат фотаздымкаў. Цяпер, разглядаючы іх, я пазнала некаторыя з тых, якія бачыла яшчэ тады, амаль 20 гадоў назад... Цёпла на сэрцы ад сустрэчы з такімі кнігамі і з такімі людзьмі. Няхай Бог дае нашаму былому Нунцыю шчаслівую вечнасць. Няхай і там, у Божым Валадарстве, заўсёды ўсміхаецца і радуецца ягоная светлая, добрая і мудрая душа.

*Крыстына Лялько*

**Крыстына ЛЯЛЬКО** — пісьменніца, перакладчыца, галоўны рэдактар часопісаў «Наша вера» і «Ave Maria». Нарадзілася на хутары каля в. Хадзюкі Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1979). Працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Беларусь». Аўтар кніг прозы «Дарога пад гару» (1985), «Світанак над бярозамі» (1989), кніг паэзіі «На далонях любові» (2006) і «Адвячорак» (2016). Апрацавала зборнік народных казак «Хітрэй свету не будзеш» (1988). Пераклала на беларускую мову кнігі святога Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі» (1997), «Дар і Таямніца» (1998), «Устаньце, хадзем!» (2008), «Памяць і самасвядомасць» (2006), энцыклікі «*Fides et ratio*» (2000), «*Ecclesia de Eucharistia*» (2004), апостальскі ліст пра Ружанец «*Rosarium Virginis Mariae*» (2003), «Дзённік» св. сястры Фаўстыны Кавальскай (2014), творы іншых польскіх тэолагаў і пісьменнікаў. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Мінску.

Данута Бічэль



Хата дзеда Адама, якая так і стаіць Загасцінцам.

# Выган. Азерца з майго сну

Мяне пусцілі ў гэты свет, але я да гэтага свету быццам не належу, матэрыяльнага нічога тут не маю: не атрымала ў спадчыну, не прыдбала, не нажыла.

Толькі словы…

А што мелі мае продкі, дык гэта хату, якую пабудаваў тата сваімі рукамі: спачатку як зруб на дзедавым пляцы, пасля неяк уціснуў паміж Гойдавымі і Кяньцямі. Там, у вёсцы, я нарадзілася і перазімавала. Хату талакой перанеслі Загасцінец (так мы называлі выселкі, не па правілах мовы).

Перада мной на сцяне вісіць кручок, якім зашчаплялася знутры акенца, я яго падняла на папялішчы нашай хаты…

Хата прадзеда Юркі і прабабулі Францусі, з маленькімі вокнамі, цаглянай падлогай — у ёй пражылі жыццё дзед Вінцук з бабуляй Канстанцыяй, і тут нарадзіліся іх дзеці: Яська, Яхім, Мікодым, Марыля, Стась… У ёй нарадзілася мая сястра Рэня. Гэтая прадзедава хата прастаяла да лета 2017-га. Мясцовы начальнік загадаў адрамантаваць дах. Сыны Мікодыма Юзік і Віця ў вёсцы не жывуць, грошай на рамонт хаты не мелі. Юзік сказаў: «Разбірайце, хто хоча, нашу хату на дровы!». Этнаграфічную хату нашага прадзеда Юркі Галя Шнакова перабудавала сабе на лазню.

З гэтай хаты пачыналася вёска Біскупцы. Я то ў ёй не жыла… Аднойчы дзядзька Мікодым папрасіў мяне пабыць нянькай пры яго сынах. Тады і паскакала я па жоўтых цаглінках у класікі, каленкі пабіла.

Дзед Вінцук пакінуў на гаспадарцы Мікодыма. Яська, старэйшы сын, сам пайшоў у самастойнае жыццё. Яхіма аддалі ў прымы да шматдзетнай удавы ў Мялёгава, у іх нарадзіўся яшчэ адзін сын — Казік. Марылю аддалі замуж у Галенава за ўдаўца Валодзю Лебедзя, у яго былі дзеці, і цётка Марыля выхавала іх, нарадзіла і выхавала яшчэ чацвёра сваіх. На днях Казік Лебедзь мне пазваніў з Мінска (тэлефон узяў у гродзенскіх пілігрымаў у Будславе). Ён расказаў, што старэйшы брат Валодзя Лебедзь жыў у Нальчыку, памёр у мінулым годзе вясною, там засталіся два яго сыны — Валера і Паўлік. Казімір мае сям'ю: сыну 50 гадоў, і дачку, якая не замужам. Сястра Ядзя ў Томску, замужам за вайскоўцам. Малодшы брат Генік працаваў і жыў у Мінску, але мае сядзібу ў Тарасаве, дзе цяпер на пенсіі і жыве…

Вернемся ў дзедаву хату. Ма-

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбраныя творы» (2016). Жыве ў Гродне.



Мама Марыля з сястрой Рэняй.



Цётка Броня з дзядзькам Вінцуком.

лодшы сын Вінцука, мой хросны тата Стась, знайшоў шляхцянку ў Старчанятах і пайшоў у Армію Краёву… Пасля вайны адпрацаваў у Казахстане на шахце каля дзесяці гадоў, пасля вызвалення жыў і памёр у Польшчы. Да нас заехаць яму не дазволілі.

У Біскупцах Бічалёў было шмат. Бічалі падзяляліся на Бічалёў, якіх абзывалі мянушкай Петрашы. Гэта наша дрэва. Усе Петрашы пайшлі ад Францішкі і Юркі. Калі Юрка памёр, Францішка збегала ў Вільню да біскупа і выпрасіла сабе ў дапамогу прыгоннага чалавека, які працаваў на гаспадарцы, але пры нагодзе ўцёк у Расею са сваёй жанчынай, а нашаму роду пакінуў брудную мянушку, бо ён быў хворы на жывот.

Хутчэй за ўсё, мы былі грэка-католікамі, бо наш драўляны касцёл у Гаўі пабудаваны быў як уніяцкі. У пакаленні бацькоў, на пачатку XX стагоддзя, Петрашы падзяліліся на католікаў і праваслаўных. Тата сябраваў з праваслаўным, малодшым за сябе, Мішам, любіў яго, як роднага брата, за яго майстэрства — Міша быў столярам. Пеця Паўлюкоў быў маім лепшым сябрам і абаронцам на вясковых забавах, я была маладзейшай за яго, а прыходзілася яму цёткай.

Былі Бічалі бедныя, не Петрашы, напрыклад, Юрка і Іллюк, якога называлі Шнок. Былі Бічалі багатыя, іх сядзіба злева, як едзеш з боку Ліды, там цяпер жыве Алік з жонкай… Яго тата Алёшка, самы гаваркі Бічэль, які ўсё пра ўсё ведаў, самы мудры, перайшоў у каталіцтва, закахаўшыся ў каталічку Алінку з Чараўкоў. На іх мармуровых помніках — гравіраваныя абразы Езуса і Марыі. Дом гэтых багатых Бічалёў быў пабудаваны на два канцы, у другім канцы жыў старэйшы брат Ладзік з сям'ёй. Маці Стэпка, родная цётка майго швагра Мікалая Супрэнавага, таксама жыла ў той хаце пры сынах. Другую хату на тым вялікім двары пабудаваў яшчэ адзін сын багатых Бічэлёў — Мікалай. Ён ажаніўся з Веркай, у дзявоцтве Войдак, маёй хроснай мамай. Мікалай Бічэляў утапіўся ў тым месцы, дзе Гаўя ўпадае ў Нёман. Там усе топяцца, хто правярае свой спрыт,— у Гаўі і Нёмане розная хуткасць і глыбіня, розная тэмпература вады, дваістае дно, там утвараюцца віры і зацягваюць тых, хто не ведае, як з іх выплысці…

На Павалоках жылі Антосевы Бічалі, галіна ад нашага прадзеда Юркі. Але іх чамусьці Петрашамі не называлі. А Іллюк Пятраш жыў у хаце, ад якой пачынаецца вулачка з пералазкай. У Іллюка было трое сыноў і дзве дачкі. Здаецца, найлепей уладкавалася Геня, у якой на плячах быў горбік. Яна паехала ў Ліду, служыла ў хворай жанчыны, а пасля яе смерці выхоўвала ў той жа сям'і свайго сына, муж хворай жанчыны пасля яе смерці ажаніўся з Геняй. Яна з сынам прыязджала ў вёску, як пані. Ганьця выйшла за хворага на туберкулёз Франка Пілсудскага. Гэнюсь і Валюсь ажаніліся і пераехалі ў Ліду. Эдзік пайшоў служыць у міліцыю.

Усе Петрашы хварэлі на ногі…

Быў яшчэ Стась Пятраш. Ён пайшоў у Жыжму ў прымы, пакінуўшы ў Біскупцах няшлюбную дачку, якой апекавалася яго сям'я з Жыжмы …

Я пералічыла не ўсіх Бічалёў…

З вёскі я забрала словы і сны…

Дзявочае прозвішча мамы — Бурнос. Бурносаў у Біскупцах таксама было шмат. І яны таксама былі католікі і праваслаўныя. А яшчэ за лесам над Нёманам стаіць вёсачка Бурносы, і там жывуць людзі з гэтым прозвішчам.

Я сню хату дзеда Адама Бурноса, у якой нарадзілася Франя, дачка цёткі Броні. Хата дзеда Адама стаяла каля сцяжынкі справа, калі ісці паміж платамі Іллюка Петрашовага і Ганны Га-



Амаль уся радня на вяселлі ў Галіны Супрэн і Пятра Ліхарада ў маі 1972 года.



Цётка з дзядзькам і Франяй.

брусёвай. Броня з Вінцуком ужо без дзеда Адама, але з мачыхай пераносілі хату Загасцінец. У іх доўга не было дзяцей, таму да нараджэння Франі Броня з Вінцуком прытулілі сіротаў Вацюка і Маню. Маня яшчэ жыве, аслепла, але мае надта добрага мужа, які яе даглядае. Ёй было чатыры месяцы, як памерла яе маці. Цётчына хата, з садам, з крынічнай студняй, стаіць Загасцінцам, як сведка ўсіх гістарычных падзеяў. Праз доўгія сені — прасторная камора. У каморы «раслі цукеркі»… Так думала Галька, дачка маёй сястры Рэні. Калі Галька прыходзіла ў гэтую хату, Броня казала: «Пайду ў камору, можа, там цукеркі выраслі…». І прыносіла Гальцы жменю цукерак. У цётчынай студні вада жыватворная, крынічная, найсмачнейшая на ўсім абшары, а мне здаецца — на ўсім зямным шары…

Мне сніцца і цётчына сядзіба, але часцей азерца на тым выгане — такое круглае, з гразкім тарфяным берагам, акаймаванае асакой і аерам, бяздоннае. Падзеі ў снах з азерцам адбываюцца нібы ўначы, але бачу, як гадаўё віжуе ў мутнай вадзе. Вуж у сне — нечаканыя грошы. Толькі грошай мне і сны не падкідаюць… Правальваюся ў азерца, і сон заканчваецца.

Сніцца мне і тое месца, дзе стаяла наша хата каля Гойдавых, у якой на Божае Нараджэнне святкавалі мой хрост. Пра гэта мне расказала сястра Рэня. Я ўяўляю сваіх прыгожых хросных — Верку Гойдаву і Стася, малюся за іх, як і за родных бацькоў.

Пералажу праз вузкі лаз у жываплоце ад нашай да Гойдавай хаты, а не было мне году, як мы перасяліліся Загасцінец…

Думала я, думала пра ўсё гэта і вось да чаго дадумалася: як у школе савецкія настаўнікі расказваюць гісторыю ад Кастрычніцкай рэвалюцыі, так і я пачынаю свае ўспаміны ад Загасцінца. А трэба ад пачатку ўспамінаць...

Жыццё маё пачыналася ад мамы, бо яна мяне нарадзіла. А маму нарадзіла Франуся Саўкава, з Заполля. Да Франусі дзед быў жанаты з яе старэйшай сястрой. Калі першая жонка памерла, ён пакінуў дзвюх сіротаў маёй прабабулі ў Заполлі, ажаніўся з Франусяй. І нарадзілася Броня. Дзед пакінуў Франусю з Броняй і паехаў у Амерыку, бо ўсе казалі, што ў Амерыцы даляры сыплюцца з неба. Дзед вярнуўся з Амерыкі без даляраў, і адно за другім пасыпаліся дзеці — Марылька, Яніна, Костусь, Янка… Шосты дзіцёнак памёр у лоне Франусі, якая пешкі схадзіла ў Заполле, прастудзілася, пакашляла на печы і памерла… Янка памёр у прытулку… Астатнія выраслі.

Мама часам хвалілася: «Я са сваім татам хадзіла ў Бурдукі ў сваты!» Дзед Адам ажаніўся трэці раз са старэйшай дзяўчынай Юляй, у яе быў пасаг — швейная зінгераўская машынка. Дзед падумаў, што яна будзе людзям шыць на машынцы сукенкі і нагавіцы ды зарабляць на яго дзяцей. Глухая мачыха ўгаварыла дзеда завезці сіротаў, як шчанятаў, у Ліду, пакінуць пад прытулкам. Броня засталася на гаспадарцы… Калі згадваць прыпавесць пра блуднага сына (*Лк, 15, 11–32*), то ў нас цётка Броня — гэта «старэйшы сын»… А блудны сын — гэта наш дзед Адам… Завёз ён сваіх дзяцей пад прытулак у Ліду, дзе Марыльку, а пасля і Яніну людзі забралі ў нянькі. Костусь застаўся ў прытулку, а пасля дочкі першай Запалянкі забралі яго да сябе ў Лодзь, а яго долю гаспадаркі Броня прымерала да сваёй… Спраўляліся яны з Вінцуком. Да свайго і Костусевага надзелу Броня з Вінцуком далучылі зямлю Вацюка і Мані… Калі ж выраслі сіроты, дзядзька Вінцук адправіў іх жыць у сваю

хату, але дапамагаў гаспадарыць.

…А я сню тое месца, дзе спее любоў, якая ўзвышае да запаветных нябёсаў.

Азерца заўсёды было поўнае слёз. Хаты стаялі цесна, дзеці плакалі, і гэтае іх кугаканне злівалася ў адзін плач. Азерца перапаўнялася, і вада перацякала на выган за вёскаю.

— Не на выган, — падказвае ў сне бабуля Францюся, — а праз брукаваную вуліцу на поле…

А я думаю, што на поле сыпаліся слязінкі з неба, а горкая ад слёз вада сцякала на выган — там гусачкі траву горкую шчыпалі, спутаныя конікі пасвіліся. Каровак з выгану пераганялі ў Масцішчы, у Перакопы і на Шырыню. За гразкім выганам віднеліся палеткі асаднікаў. Я ніколі не дайшла да тых узгоркаў, толькі здалёк глядзела на іх сонечную прыгажосць. У сне бачу поле на горцы, бывае, у сне выган ператвараецца ў глыбокае возера...

А крынічка шчаслівых слёз бруілася міма хаты дзеда Вінцука. Там Яська пра Марыльку думаў, чакаў вечара, каб яе ўбачыць. Сустрэліся яны на Яна, калі яна са службы ў Шайбаках вярталася, а ён яе ў Лідзе знайшоў і праз балота падвозіў. А пажаніліся яны праз тры месяцы — 25 верасня 1928 года. Крынічны ручаёк разбураў старадаўні брук, і якраз у тым месцы ўтвараўся такі пясчаны чысты вірок, што аж хацелася там паплюскацца басанож. У дажджлівыя дні пераходзіць ручай пасярод вясковай вуліцы дзяўчатам у палатняных вятроўках на драўлянай падэшве было нязручна, але мосцік пракласці ніхто не дадумаўся.

…Я толькі цяпер зразумела, што ў азерцы не вужы віжавалі, а рыбка такая, што па-навуковаму называецца *мінога*, але ў нас яе называлі *ўюн*. Дзеці лавілі ўюноў кошыкамі, смажылі і на вогнішчы, і дома на патэльні. Рыбка марская, але жыве ў нашых гразкіх рэках і ручаінах. Гэтак жа, як марскія *келбы* жывуць толькі ў Нёмане і Дзвіне, а нераставаць вяртаюцца ў Балтыйскае мора.

Зусім блізка ад гэтага месца стаяла яшчэ адна хацінка, нібы не з дрэва, а з труску-пяску, як у казцы, і жыла там ціхая шчырая малітоўная душа, імя яе ніхто не памятае. Пад восень хатка хавалася ў жоўтых вяргінях, якія не баяцца марозу. Я палюбіла асеннія сціплыя вяргіні на высокіх сцяблінках, якія турбуюцца самі за сябе. Яны перасяліліся ў Горадню пад маё акно.

…Франя мне расказвае пра тую святую душу, якая жыла за вяргінямі, адну гісторыю, а Галька расказвае зусім іншую… Франя расказвае, як у Стэпкі Дукавай аднойчы абнавіліся абразы. Яна перадала «па басаногаму тэлеграфу» ад хаты да хаты, каб збіраліся ранкам як найхутчэй паглядзець на цуд Боскі. Усе прыбеглі і паглядзелі. Абразоў у хаціне было шмат, у прыгожых рамках, у акладах, святыя лікі зіхацелі. Усе паверылі, што абразы абнавіліся. Нават пісаць пра тое, сумняваючыся, што ніхто ўважліва не аглядаў Стэпчын іканастас да абнаўлення, як бы грэх… Жанчыны шчыра памаліліся — кожная пра сваё. Дзеці спалохана паглядзелі. У Стэпкі Дукавай была бібліятэка, я з той бібліятэкі прачытала адну прыгожую кнігу — «Жыцце святых».

Галька ўспамінае, што ў той хаціне жыў вандровец з Адэсы, якога Гальчына баба Юля шторанку карміла блінамі за малітву. На Юліну заўвагу, што ён моліцца няправільна, вандровец адказваў: «Ты молішся правільна, з цябе Бог і спытае, а я малюся, як умею, Бог такую малітву ад мяне і прымае!»

Першы сухі пост у Біскупцах, са шчырымі малітвамі, адбыла наша цётка Броня перад Вялікаднем 1929 года… Прасіла Езуса, каб Вінцук прыйшоў да яе ў прымы. Так 10 лютага 1930 года яны і пажаніліся.

Франя мне расказвае пра свайго тату Вінцука. Ралец — гэткай мянушкай называлі яго дзеда, таму Вінцук, адпаведна, называўся Ральцаў, а прозвішча ў дзеда было Сымановіч. Дакудава падзяляецца на вёску і мястэчка. Франін тата нарадзіўся ў вёсцы Дакудава. Франя ўспамінае татаву маці, бабулю Агатку, якую яна надта любіла. Агатка была дробненькая, невялічкая, але спрытная. А нарадзіла Вінцука дзяўчынаю. Яна пакінула сына сваім бацькам і выйшла замуж у Залейкі за Аседача. Нарадзілася ў іх васьмёра дзетак, але выжылі толькі Яня, Мікалай, Стась, Геня, Франак… Кожнаму з іх Бог даў сваё жыццё, свой лёс. Мікалай быў жанаты два разы, Стася Карабанова пайшла на траіх дзяцей ад першай жонкі і выхавала іх. Стась малым парэзаўся аб шкло, быў інвалідам. Калі яго першая жонка памерла, паехаў у Растоў, там ажаніўся, памёр ад рака вуснаў, там цяпер жыве яго дачка. Франака немцы забралі ў Германію, калі вызвалілі, ён застаўся ў Польшчы, там ажаніўся. Франак з сям'ёй прыязджаў у госці да Вінцука і Броні. Геня выйшла замуж у Іўе за лекара і выехала з ім у Расею, ніколі не прыязджала ў Залейкі і нікому не пісала лістоў. Яня жыла ў бацькавай хаце, пры ёй дажывала руплівая і рухавая Агатка. З усёй Франінай па тату радні на сумных урачыстасцях я сустракаю Мікалаевых і Стасіных дзяўчат — Гэльку і Ірку …

Дзядзька Вінцук у Залейкі да маці Агаты хадзіў у госці. Ён быў запісаны на прозвішча дзеда, з іменем па маці — Сымановіч Вінцэнты Агатавіч (бацькі ў яго як бы і не было!). Калі ён падрос, прыйшоў служыць у Біскупцы, бліжэй да Агаткі. Галоўная ў нашым родзе цётка Броня выбрала яго за працавітасць, памяркоўнасць, дабрыню, за найлепшыя чалавечыя рысы характару. Дзядзька ўмеў шыць хамуты, усё ён умеў рабіць і не ленаваўся.

Я не ведала, дзе ў вёсцы стаяла Адамава хата, не спытала ў

старэйшых, а можна было і самой здагадацца, бо калі я плакала, то Рэня страшыла, што памяняе мяне на Метка Бічэлевага,— хата Метакавага бацькі Стасюка стаяла крыху ніжэй, злева ад сцяжынкі, якраз там, дзе ззяла маё азерца са сну… Стасюкова сястра Алена выйшла замуж у Дакудава, але хутка ўцякла з замужжа, жыла ў хаце Ганны Габрусёвай, а пасля ў ёй жылі Метак з настаўніцай Лідзіяй.

Дзіўна пралягала тая сцяжынка-вулка паміж хатамі. Там, дзе мая малая мамачка тулілася да свае матулі, на тым месцы, на градцы, заўсёды кветкі цвілі — канюшынка, рамонкі, званочкі, слёзкі, сардэчнік; сліўкі спелі за драўляным плоцікам, і загарадка была на вулцы-сцяжынцы паміж сядзібамі. Нізенькую габляваную брамку ніхто не адчыняў, хіба жанчыны ў доўгіх андарачыках ды дзяўчаты, якія сябе бераглі; дзеці пераскоквалі праз яе, хлопцы пераступалі. А я тую брамку пералятала, як ластаўка. І зрэдку залазіла ў гарох і сліўкі. У школку хадзілі, дык куды мы толькі не заходзілі! Напрыклад, да Кенцявых — да Альвіны і Мальвіны… Мне мроіцца, што ў іх быў бліскучы самавар, і яны мяне частавалі гарбатай з малінавым варэннем, а Франя ўспамінае ўрок малявання ў Альвінінай хаце. Мужа Альвіна не мела, ён загінуў на нейкай вайне, мела дзвюх дочкаў; адна ўзяла з Альхоўкі прымака Вацю, другая выйшла замуж у Альхоўку— гэтая вёска за Нёманам.

Насупраць нашага дзеда Вінцука жылі Паўлюк і Стэпка, праваслаўныя Бічалі-Петрашы, у іх было трое сыноў… Пра іх успамінаць — трэба трылер пісаць.

Каля іхняга гумна стаяла маленькая хатка Аляксандра Мястоўскага. Называлі яго Мястоўскім, а прозвішча яго было Аблажэвіч. У гэтую малюпасенькую хацінку ён і прывёз з войска Хахлушку. Вядома, было ў Хахлушкі імя, ды не прыходзіла ў галаву з ёю знаёміцца. Размаўляць па-біскупску Хахлушка так і не навучылася, але ўсё разумела і неяк тлумачылася на ўласнай мове.

Гэта мне Франя расказала. Зямлі ў Аляксандра не было, а ён, служачы ў войску, абмануў дзяўчыну, што мае лаўку і млын. «А дзе ж твой млын? А дзе ж твая лаўка?» — спытала Хахлушка, калі ён прывёў яе ў тую хаціну.

А ён паказвае ёй услончык і жорны: «Дык вось жа, гэта ж і ёсць лаўка. А гэта — млын… Я цябе не абманваў». І сенажаці яны не мелі, але кароўку і коніка трымалі. Хахлушка восенню ездзіла па навакольных вёсках жабраваць сенца. Загасцінцам Аляксандра паставіў прасторную хату побач з нашай, толькі бліжэй да пясчанага гасцінца. Яна пакуль што так і стаіць — пустая. У ёй жыла Маня Мажэйкава (прозвішча ў пашпарце Арэхва). Дачка забрала Маню ў Ашмяны.

Аляксандра быў таленавіты апавядальнік, выдумшчык, казачнік і паэт. Ён апавядаў, а ўсе слухалі, смяяліся да слёз. І Хахлушка слухала і смяялася. Наслухаўшыся Аляксандравых прыпавесцяў, маё азерца напаўнялася вясёлымі слёзкамі.

Загасцінцам у зімовыя вечары Аляксандра прыходзіў да таты паразмаўляць. Спачатку яны размаўлялі ўдвух, пасля Аляксандра «ўваходзіў у экстаз» — апавядаў усялякія драматычныя і смешныя гісторыі, а тата паціху хаваўся пад коўдру. Аляксандра размаўляў сам з сабой да світання. Няёмка пісаць, па якой прычыне Аляксандра пакідаў нашу хату. Ён выходзіў ад нас, пералазіў праз шчыліну ў частаколе пад вясёлы трэск, нібы ў войску на пабудку.

Жылі яны ў сваёй хаце доўга, але дзяцей не мелі. Перажылі вайну. Праўда, калі вайна пачалася, Аляксандра змайстраваў на ўсялякі выпадак труну і паставіў на гарышчы. Калі адчыніліся межы і можна было ехаць куды хочаш, Хахлушка вырабіла дакументы і павезла мужа на сваю радзіму. На развітанне ён плакаў і цалаваў калгасную зямлю… Памятаю адну Аляксандраву «прыпавесць»: «*Каб я быў панам, то еў бы сала з салам, мякка-прамякка спаў бы, аж па вокны саломы наслаў бы!*»

Перабрала ў сваім сэрцы сціплыя «незабудкі» пра тое, што памятаю і люблю, пра што мае сны… Пра сціплых вясковых людзей, у маім разуменні — пра святых.

У тым часе, у той мясціне, дзе я падрастала, не страчвалася адчуванне свайго месца ў родавым гняздзе, на дрэве роду. Дужы сам браў увесь цяжар на свае плечы, увесь клопат на сваю галаву. У сям'і Адама такой была цётка Броня, а Вінцук ёй дапамагаў. У маёй сям'і дужым павінен быў стаць тата. Ён быў мудрым і добрым, але ў натуры таты было зашмат таго, што пасля перайшло да мяне, — паэзіі, а па-вясковаму — гультайства. Галоўнай у сям'і была Рэня. Мікалай прыйшоў у нашу сям'ю з гаспадаркі, ды незаўважна стаў нашым. Мая сям'я адчувала маё прадвызначэнне быць паэткаю, уладаркаю азерца са слёз. Тата, мама, Рэня і Мікалай не мелі паняцця, як дапамагчы мне, каб змагла засяродзіцца толькі на слове. Тым не менш, дапамагалі — і маральна, і духова, і матэрыяльна, бо забяспечылі мне маю волю, таму азерца не перасыхала. Цёткі і дзядзькі, як маглі, далучаліся да іх…

Я марнавала свае дні на пошукі словаў, а яны ўсе бераглі маё азерца.

*13.03–03.07.2018*



# Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

*Бог чакаў,*
*калі мае вочы адкрыюцца…*

**Галіна Каржанеўская** — паэтка, крытык. Нарадзілася на Случчыне ў 1950 годзе. Закончыла філфак БДУ (1973). Працавала настаўніцай у Лагойскім раёне, журналісткай у рэспубліканскіх СМІ, цяпер — у сферы культуры.
Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1976 г.
Аўтар зборнікаў паэзіі «На мове шчасця» (1973), «Мой сад» (1976), «Званы гадоў» (1980), «Жыла-была» (1983), «Вечны водгук» (1988), аўтабіяграфічнай кнігі «Што варта радасці і слёз...» (2013) і інш.
Напісала некалькі кніжак для дзяцей і зборнік п᾽есаў «На сцэне дня» (2004).
Жыве ў Мінску.

## Любоў

Любоў – што свечкі язычок
Пад золкім ветрам:
Сабою разганяе змрок
Жыццёвых нетраў.

Яна і кліча, і вядзе,
Прынадна ззяе.
У весялосці і бядзе
Не пакідае…

* * *

Лістоў апалых шалясценне
Заваражыла.
Малюся, стаўшы на калені,
За ўсё, што міла.
За ўсё, што дарага да болю,
За што баюся…
Чаму не здраджвала ніколі,
За то й малюся.

* * *

Ўсё з Божай волі
і Божай ласкі:
На полі – колас,
на лузе – краскі.
Сняжок цярушыць
альбо імжыць –
Цяпельца знойдзеш –
і можна жыць.
А як шчэ сонца прыгрэе –
знай,
Што гэта маем
зямны наш рай.

* * *

Лепей не валодаць,
чым згубіць,
Лепей адысці,
чым заняволіць.
Лепей прыхапіць чужога болю,
Чымся свой
на некага ўзваліць.

* * *

Як цяжка знаходзіцца
«тут і цяпер»!
Кідаецца думка,
як злоўлены звер,
Бясконцы з сабою вядзе дыялог…
А як бы пачуць,
што гаворыць мне Бог.

## Дзе ёсць Бог

Бог у нараджэнні і скананні,
Бог у перамогах і паразах.
У далейшых – па жыцці – пытаннях,
А яшчэ, вядома, – у адказах.

## Калі...

Калі мы не можам
пазбыцца віны?
Калі адчуваем,
што мы не адны?

Калі над грудочкам
высочвае нас
Няўмольны
і ўсё-ткі паблажлівы Час?

Калі у наступнае
ладзім масты?
На Радаўніцу і на Дзяды.

## З дарогі

Пашанцавала:
ў свеце пабывала,
Дзе дух ракою горнаю бруіцца.
Каб стаць свабоднай,
гэтага замала.
Затое дастаткова,
каб змяніцца.

* * *

Калі бяда пастукаецца ў дзверы,
Тады выратаваннем
лічыш крыж.
Расце неверагодна градус веры,
І ў Божы дом не крочыш,
а ляціш.

## Дачакаліся

Бог чакаў,
калі мае вочы адкрыюцца.
Б’юць анёлы-ахоўнікі радасна ў ладкі.
Колькі год перад тым
я хадзіла на мыліцах,
А былі ж мае ногі
ў поўным парадку.



Аксана СПРЫНЧАН

# БЕЛАРУСКІ РУЖАНЕЦ

**Аксана Спрынчан —** пісьменніца, дырэктарка Паэтычнага тэатра «Арт. С». Нарадзілася ў 1973 г. у горадзе Лунінец на Берасцейшчыне. Скончыла філфак БДУ, аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, Беларускі калегіум. Працавала ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя»; з 2006 г. — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2005 г. Аўтар кніг паэзіі «Вершы ад А.» (2004), «ЖываЯ» (2008), «Нелінейнае» (2012), «Кава з украінскім мёдам/Кава з українським медом» (2017, пераклад на ўкраінскую мову Міколы Мартынюка), смс-п’ескі «Дарога і Шлях» (2009, з Алесем Анціпенкам) і інш. Вершы перакладзеныя на нарвежскую, рускую, саамі, сербскую, украінскую, французскую, шведскую мовы. Піша вершы і прозу для дзяцей. Мае спецыяльны прыз журы Міжнароднай прэміі «Садружнасць дэбютаў» «За філасофскую лірыку» (2008). Пераможца конкурсу «Літаратура — дзецям» (2009).

* * *

зорнае неба
раз на два гады
ўдзень
замяняецца
на яблычнае
і адно анёлы паспяваюць
загадаць жаданне
пакуль падае яблык
ды хіба не ў гэтым
і ёсць шчасце
свайго саду

### Беларускі ружанец

*

Арабіна
наталяе птушак,
а ружанец з яе —
тых,
чыя малітва
ляціць да Бога.

*

Арэхавы ружанец —
нібы зацвярдзелыя
бутончыкі ружаў.
Распускаюцца малітвамі…

*

БОБ — слова-ружанец…
Перабірай
і прачуеш —
у ім жыве БОГ.

*

Дакранаецца
ружанцовых гарошынак
дзяўчына.
Што прынцэса яна,
не ведае…

*

З гузікаў старых
ружанец бабулі:
ад цела шлях
да душы…

*

Жолуд да жолуда —
знак бясконцасці.
А малітва —
бясконцасць.

*

Квітнее свечкай,
падае бурштынам…
З каштоўных камянёў
каштанавы ружанец
з простай малітваю.

*

Ружанец з сухіх рамонкаў:
абмольваюцца-лятуць пялёсткі,
як пярынкі анёлаў.

*

Фа-соль-ля —
малітва, як песня.
У пальцах — маленькія чоўны,
што плывуць да Бога.

*

Ягады шыпшыны,
высахлыя і спакутаваныя…
Родны
ружанец
з дзікай ружы.

* * *

сена касіць не трэба
і зграбаць таксама
даўно рагуля мая
поіць малаком
Шлях Млечны
сырадой з яго
цячэ і цячэ
ў даёнку ўспамінаў
і мне ўсё мала і мала
маленства

* * *

У жніўні
на белых падваконнях
разам з памідорамі
выспявае
беларускасць…

* * *

хлеб не пяку
на кляновым лісці
каву запарваю
пад кляновым
пахне хлебам

* * *

сівеюць валошка і васілёк
шчаслівая старасць разам
у родным жыце

* * *

дарога да лесу
але я застаюся
ў полі
твайго прыцягнення
жыта
пустазелле звіваю
ў вяночкі нябёсныя
большы
меншы
і яшчэ меншы
ствараю
гняздзечка
каб адпачыў у дарозе
лёс

* * *

пасля дажджу
вылезлі
смоўжыкі —
«памочнікі»
электроннага брата —
не прайсці
змушаюць вярнуцца
ў хату
пісаць лісты
не раструшчыўшы
ніводнага жыцця
vitaю

* * *

недзе ў Свіслачы
плавае рыбіна
прынесеная бацькамі
з «Акіяну»
і выпушчаная мною
малою
карп люстраны
з маім сапраўдным
адлюстраваннем
без стрававання

## Празарокі

Туман,
буслянка на касцёле,
і голуб лётае над ёю —
зіма…
У дзень Народзінаў Хрыста
я граю на аргане часу
і без квітка гляджу з Буйніцкім
спектакль «Аграгарадок»,
як незавершаны радок,
які няварты завяршэння,
закрэслены,
закрыжаваны,
які адразу ўжо не з намі…
А з намі —
вершам Празарокі,
і верай — вёска Празарокі,
і празарчане, як прарокі,
у ту(ман*е*) быцця…

* * *

калі адной шчакою
дакранаешся голак ялінкі
а ля другой шчакі
галінкі веек
значыцца існуе
ігольчатая сіметрыя
значыцца
Каляды сямейныя
калі чакае на падарунак
шкарпэтка святочная
а шкарпэтка з маленькай ножкі
з дзіркаю-зоркаю
ты бярэш голку
працягваеш лінію лёсу
цыруеш калядную зорку
і шапочаш у вялікае вуха
«кахаю»
і «люблю»
у вушка анёлка

# Толькі словы…

*Пра новыя вершы Дануты Бічэль*



Аднойчы мы з Данутаю Янаўнай, разважаючы пра тое, чаму Святлана Алексіевіч не змагла сама знайсці магілу свайго загінуўшага на вайне дзеда, вырашылі, што яна проста заблыталася ў геаграфіі, і, намагаючыся канкрэтызаваць, як менавіта яна заблыталася, мы імгненна заблыталіся самі, і тады Данута, рассмяяўшыся, сказала: «Алесь Чобат мне аднойчы патлумачыў, што з геаграфіі важна адно цвёрда ведаць: Бог — на небе». Вось так яна па-жаночы, па-філалагічнаму апраўдала і Святлану Алексіевіч, і наша няведанне зменлівай зямной геаграфіі...

Геаграфія Дануты Бічэль пачыналася з Біскупцаў, з вёскі і хутара, з таго месца, *«дзе ходзяць басанож»* — так яна назвала і свой зборнік вершаў, за які ў 1984 годзе атрымала Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы. Я ў той час працавала ў Мінску ў музеі Купалы і, водзячы экскурсіі, спыняючыся каля стэнда з кнігамі купалаўскіх лаўрэатаў (цяпер такога стэнда няма), міжволі захоплена адзначала для сябе яе дасканала мяккую прыгажосць — нібы сама Паэзія спакойна, натуральна, гарманічна ўвасобілася ў яе абліччы — з яе можна было і партрэт пісаць, і скульптуру ляпіць (і басанож, і на абцасах). Пазней, пазнаёміўшыся з ёю бліжэй, я неяк падумала пра тое, што менавіта такімі прыгожа дасканалымі, таленавітымі, унутрана вольнымі, адважнымі мусілі нараджацца тыя, для каго Бог абраў іх прыходам на свет 1937 год — яны нібы прыйшлі наўзамен бязвінным ахвярам, нібы перахапілі ў містычныя імгненні Божай волі цяпло іх дыхання і ўзялі ў свае вочы іх прыгожа-балючы, усёдаравальны сум, сталі іх духоўным працягам. А як думаць інакш, калі раптам чытаеш радкі, у якіх увасоблена яснае разуменне свайго працягу, сваёй місіі:

*Я не плачу аб слове памерлым,*
*я на полымі скамянелым*
*малюю сцяжок белым мелам.*

*А нехта маўчыць за сталом,*
*пад скамянелым крылом*
*гартае стратаў важкі том...*

Яна надрукавала гэта нядаўна, у вершы «Світанак» у часопісе «Наша вера» (№3, 2018 г.), які стаў для яе духоўным апірышчам. Некалькі разоў перагортваючы гэты нумар, яшчэ раз перачытваючы яе вершы, я зразумела, **што** мяне змушае вяртацца да яе радкоў зноў і зноў: ну вось жа — метафара крылаў, генетычнае адчуванне, усведамленне крылаў — «*птахамі продкі былі*». А не адпускала мяне гэта яшчэ і таму, што нядаўна пачула цікавае выслоўе, якое належыць Гётэ: «Бацькі павінны даць сваім дзецям дзве рэчы: карані і крылы». Па-першае, здзівіла, што гэта сказаў менавіта Гётэ — так мог бы сказаць і наш Караткевіч, які назваў Беларусь зямлёю пад белымі крыламі. Па-другое, пачала думаць: а хто ў нас быў крылатым?.. Максім Багдановіч адчуваў сябе Страцім-лебедзем і з горыччу пісаў: «*Я бальны, бесскрыдлаты паэт*». Жаданне крылатасці найбольшым было, хіба, у Купалы, бо гэта ён пісаў: «*Мой дом — прыволле зорнай далі, // арламі мераны абшар...*», і гэта ён заклікаў: «*Падымайся з нізін, сакаліна сям'я!*», «*Гэй, узвейце сваім крыллем, арляняты буйна, бурна...*» Але гэта было толькі жаданне, адчуванне, усведамленне дадзенасці, аднак нерэалізаванасці, якая ўрэшце была акрэсленая, асэнсаваная ў драме з балючаю назваю «Раскіданае гняздо», героі якой маюць характэрнае прозвішча — Зяблікі... Таму, думаючы пра балесныя лёсы нашых літаратурных прарокаў, якія адляцелі на неба заўчасна, з неразгорнутымі крыламі, захацелася паверыць Дануціным радкам,

яе ўпэўненасці ў тым, што *«птахамі продкі былі спярша»*, бо яе *«спярша»* асацыіруецца з біблейскім *«на пачатку»*, і становіцца ясным, што для яе, якая называе Беларусь вольна-крылатым словам Край, продкі — гэта не толькі і не проста сваякі, а *«спярша»* і *«на пачатку»* тыя, хто ўсё ж сапраўды былі крылатымі — і Скарына, і Еўфрасіння Полацкая, і Стэфан Баторый, і Кастусь Каліноўскі, і *«вогненным птахам»* яна называе гродзенскую Каложу, верачы, што гэтак жа, як Каложа, паўстане *«наш святы і грэшны народзе»*, бо *«ад Грунвальда жар не ачах»*.

Усяго шэсць новых вершаў у часопіснай падборцы аб'яднаныя кароткаю, трапнаю назваю — «Толькі словы». Вядома ж, яна напісала значна больш, але менавіта гэтыя вершы былі выбраныя як найважнейшыя, і таму ўсцешна, што, перадольваючы стыхійнасць у творчасці, Данута Бічэль, застаючыся стыхійнаю, трымаецца цвёрда ўсвядомленых духоўных каштоўнасцяў. Першы верш у падборцы называецца **«Анёлы на дрэвах»**. Чаму на дрэвах? Ну таму што Боскія крылатыя істоты самі вызначаюць сваю геаграфію, і таму што гэта і **яе** анёлы, і яны гукаюць з ёю вясну, напаўняюць *«адчуваннем бязмежнага шчасця — ігнараваннем напасцяў»*, але так было пераважна ў маленстве, у снах-трызненнях, і верш пабудаваны на кантрасце *«мінулага захаплення»*, што ўласціва кожнаму маленству, і шчымліва-балючага, але мудрага роздуму, уласцівага сталасці (далёка не кожнай):

*Несмяротнасць жыве ў імгненні,*
*мастацтва рамак не мае...*
*Малітва ў рамках трымае.*

І можа таму, як пераход, наступны верш называецца **«Малітва»**, і гэта працяг іерархіі простых каштоўнасцяў — дзеці, унукі і матчына малітва за іх, увасобленая ў простых дзеясловах-просьбах да Бога: *схавай, спыні, затрымай, надзялі, выводзь, адганяй, запоўні, навучы, змілуйся, вяртай, захавай, збаўляй, напоўні: «строгім Айцом з імі будзь»*. І крылатасць у гэтым вершы належыць толькі Богу — Яго моцы і ўсёабдымнасці, бо ў Яго геаграфіі не толькі неба, але і зямля з усімі нашымі думкамі і шляхамі. Верш «Малітва» не новы па сваім змесце ў творчасці Дануты Бічэль, але праз яго паэтка яшчэ раз падкрэслівае, што матчына малітва мусіць быць заўсёднаю, нястомнаю, шчыраю і канкрэтнаю, таму яна наўпрост пералічвае імёны дарагіх ёй людзей, называючы ўсіх сваімі дзецьмі: *«Віку, Валеру, Стася, // Аксеню, Андрэя, Антося, // пад крылы свае схавай»*.

Паэзія Дануты Бічэль сапраўды нагадвае доўгае тканае палатно, і сама паэтка адчувае сябе ткалляй, міжволі звяртаючыся да вобразу пчалы: *«Залатая пчала ў залатым садку // назбірала залатога мядку. І я свае кросенцы ціха датку»*. Адметна, што ў гэтым вершы, напоўненым радасным рухам залатой пчалы, залатога сонейка і залатой хмаркі (вобразамі маленства), жыве ціхая пакора і ўдзячнасць Богу за яго залатыя дары: *«Добра было тут мне // ў сонечнай цёплай вясне <...> Пчолкі слоўцы збіралі, // трутні не любілі мяне»*.

Верш **«Залатая пчала ў залатым садку»** можна назваць і вершам-успамінам, які мяжуе з бясклапотным сном (эпіграфам да яго паэтка ўзяла словы *«сон, вызвалены лётам пчалы»*), а можна назваць і вершам-развітаннем, бо дзеясловы ў ім маюць пераважна мінулы час, і ёсць наўпрост сказаныя словы: *«... і я свой сувой у восемдзесят нітоў // аснавала, даматала, даткала»*. У гэтым вершы, напоўненым цёплымі бурштынавымі фарбамі, пануе геаграфія родных Біскупцаў, халоднага Нёмана, неабсяжнага жытнёвага поля, водары і шолахі якога перанесеныя Данутаю Бічэль у кожную нітачку яе доўга тканага сувою Паэзіі. Верш уражвае канцоўкаю, якая нечакана (па-Дануцінаму праўдзіва!) кантрастуе з яго агульным залаціста-сонечным палатном: *«Як мы беглі па мосце, // як нам бераг зайздросціў — // не раскажуць ім нашы косці»*.

Вершы **«Спярша»** і **«Птахамі продкі былі»**, пра якія ўжо ўзгадвалася, сапраўды, нібы ніткі ў сувоі, пераплятаюцца і доўжаць Дануціна палатно, у якім яе ўласныя цёплыя сны-ўспаміны разгортваюцца ў гістарычнае палатно, у цэнтры якога — старажытная Каложа — *«вогненны птах, // з валуноў і плінфы на небаўзыходзе»*, а каля Каложы, вакол яе, над ёю і пры ёй ужо назаўсёды паселеныя ў вечнасці Барыс і Глеб, дойлід, які *«шліфаваў лекавыя камяні ў агні»*, лучнік, братка Нёман, *«матка з дзіцём на плячах»*, нашы крылатыя продкі. І хоць *«стратаў важкі том»*, *«жаўранак будзіць дасвецце, // з хмаркі страсае вецер, // расцвітае акна ружы-квет, // ўсміхаецца ўвесь белы свет!»* — менавіта такімі радкамі з верша **«Світанак»** (апошняга ў падборцы) паэтка аптымістычна напаўняе прастору роднага Краю, завяршаючы верш вобразамі ачышчальнага грому, ачышчальнага дажджу, з якімі прыходзіць Святы Дух, і традыцыйным народным вобразам поўнага вядра — *«Божанька вітае дабром, // дабрынёй напаўняе дом»*, і ці трэба тлумачыць, што ў слове *«дом»* змешчана ўся Беларусь, увесь Край, у якім і вырай, і рай.

Паэзія Дануты Бічэль не мае падсумавання, бо нельга падсумаваць водар і шолахі, світанкі і захады, палёт анёлкаў і залатой пчалы ў залатым садку — яны навечна паселеныя ў геаграфіі нашага Краю, які даў нам Паэтку з моцнымі каранямі і крыламі.

*Зося Бараноўская*



**Ірына Жарнасек —** пісьменніца, рэдактар часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай». Нарадзілася ў вёсцы Чаранкі на Глыбоччыне. Піша прозу, публіцыстыку, перакладае з польскай мовы. Аўтар кніг прозы «Ліст да сына» (1986), «Гульні над студняй» (1993), «Гадара» (2002), аповесці-казкі «Спрэчка анёлаў» (2004), кнігі для дзяцей «Незабудкі» (2018), рамана «Будзь воля Твая» (2004), а таксама кнігі вершаў «Шукаю Цябе» (2008). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Наваполацку.

Ірына Жарнасек

# НАШЫХ ДЗЁН КРЫГАХОД

## Дзядзька Казюк і цётка Анця

Немцаў у маленстве я ненавідзела. І не толькі таму, што яны забілі Зіну Партнову, Марата Казея, Колю Гойшыка, што жорстка разлучылі дзяўчынку Лену з ейным бацькам з маёй улюбёнай кніжкі «Девочка ищет отца», але яшчэ і таму, што яны хацелі забіць маіх сябровак — Клару і Лізу. Праўда, гэта, відаць, усё ж гучна сказана — «сябровак»… А можа й не гучна. Бо калі мы ўлетку разам гойсалі па Гойдышаве, яны ж былі маімі сяброўкамі, хоць бы і на кароткі час. А ці лічылі яны нас з маёй сястрой гэтаксама сяброўкамі? Ну, хто ж яго…

Але не гэта важна. А важна тое, што ў ненавісных мною немцаў нічога з гэтага не выйшла! Бо татаў стрыечны брат, а мой хросны дзядзька Казюк, накруціў ім вя-ялізную дуліну! Што праўда, падрабязнасцяў пра тое, як ён яе накручваў, мы не ведалі, бо і праз дзесяць, і праз дваццаць гадоў ён не любіў распавядаць пра гэта. Ды затое мы ведалі галоўнае: вайной, калі ў Полацку немцы рабілі аблаву на габрэяў, бацькам Клары і Лізы — Навуму і Норы — удалося разам з сынам Мішам уцячы. Тады ў іх яшчэ быў адзін Міша — першынец. Яны неяк дабрылі ажно да нашага Гойдышава, а гэта цэлых семдзесят з ладным гакам кіламетраў ад Полацка, і дзядзька Казюк схаваў іх ад немцаў. Няшмат ведаю падрабязнасцяў пра тое, як ён іх хаваў — хіба што, у склепе…

Праз усё жыццё збераглі Навум і Нора ўдзячнасць майму хроснаму, на ўсё жыццё засталіся блізкімі іхнія сем'і, а потым і сем'і іхніх дзяцей. Пасля ж вайны нарадзіліся ва ўратаванай сям'і Ліза, Сёмка, Клара. Таму мы, гойдышаўская дзятва, таксама былі ўдзячныя дзядзьку Казюку і цётцы Анці. Бо ўжо тады разумелі, што калі б не выратавалі яны тых траіх, то й не нарадзіліся б гэтыя трое — нашы сябры, пасляваеннікі… Гэткая вось простая і адначасна магутная праўда жыцця.

Штолета бацькі прывозілі на вакацыі Лізу, Сёмку і Клару ў Гойдышава. З Сёмкам мы неяк менш сябравалі, а з Лізай і Кларай гойсалі ў ягады, гулялі ў лялькі, будавалі ў двары хаткі. А калі збіраліся ў пуні дзядзькі Эдварда, тут ужо было раздолле для хованак:

— Раз, два, тры, чатыры, пяць! Я ўжо іду шукаць!

— Тук-тук, Клара ёсць! Тук-тук, Рэня ёсць! Тук-тук, Норбэрт…

Норбэрт плача — яму ў чарговы раз не ўдалося надзейна схавацца. І аднойчы Клара яшчэ да таго, як Норбэрт прыбег у пуню, прапанавала нам паддацца яму, бо, маўляў, што з яго, замежнага нашага госця, возьмеш. Так і зрабілі. І наш наіўны *polak mały** распавядаў потым узахлёб сваім дзядку з бабцяй, які ён быў зух у хованках.

Ніякіх званняў і ўзнагародаў дзядзька Казюк з цёткай Анцяй за свой адважны ўчынак ад дзяржавы не атрымалі. Ні ў якія праведнікі іх ніхто не запісаў. Але ўся наша ваколіца затое была бясконца ўдзячная ім. Бо і Навум, і Нора былі добрымі дактарамі, працавалі ў полацкай бальніцы і ажно да таго самага дня, калі яны аднойчы назаўсёды пакінулі Полацк і выехалі ў Ізраіль, да іх можна было звярнуцца па дапамогу. У любую пару дня і ночы. Без аніякіх папярэдніх запісаў і дамоваў. Дастаткова было проста прыехаць, сказаць, што ты з Глыбоччыны, і табе адразу была гарантавана кваліфікаваная медыцынская дапамога. Неверагодна? Так, на цяперашні час і нашы прагматычныя стасункі амаль што неверагодна. Але так было.

Дык і ездзілі час ад часу. Зазвычай збіралася некалькі чалавек разам ды ехалі нанач, каб ужо звечара гаспадары бачылі, колькі да іх пацыентаў панаехала. Усім прыезджым знаходзілася месца ў тым прасторным доме. А назаўтра нашы дактары выкройвалі час са свайго працоўнага дня, каб ужо ў сваім доме, які верна ахоўваў прыгажун аўчар, прыняць хворых з Глыбоччыны. Мае тата з мамай

таксама ездзілі. Ды і нас, дзяцей, кожнага ў свой час вазілі.

...Памятаю пахаванне майго хроснага, дзядзькі Казюка. Дамавіна з нябожчыкам стаяла ўжо ў касцёле, людзі, як звычайна, спавядаліся да пачатку Імшы, жанкі паціху перабіралі пацерынкі ружанцаў, а я чамусьці на нейкі час апынулася на суседняй лаўцы з Навумам Сямёнавічам. Ён быў задуменны, сцішаны… Мой тата падсеў да яго і сказаў штосьці пра тое, што вось ён, наш шаноўны доктар, у нашым задарожскім касцёле, пры такой нагодзе… Татаў суразмоўца сумна так усміхнуўся і ціха сказаў:

— Франак, дык а для мяне гэты храм не чужы… Хрысцілі ж нас **тады**… тут… Уначы хрысцілі…

Думаю вось цяпер пра таго адважнага святара, які, вядома ж, моцна рызыкаваў, удзяліўшы ўцекачам сакрамэнт хросту… А таксама думаю, што, магчыма, у мяне і ў іх, каго **тады** тут патаемна ўначы хрысцілі, адзін хросны — дзядзька Казюк...



Тата з мамай у дзень шлюбу.

## Маміны памочнікі

Мы ўсе пяцёра былі яе памочнікамі. Нягледзячы на тое, колькі каму гадоў і што ты ўжо ўмееш рабіць. Жаночай працы ў сялянскай хаце — рабі-рабі ды папраўся. Цалкам гэта правільна хтосьці сказаў, што на жанчыне трымаюцца тры вуглы хаты, а на мужчыну — чацвёрты. Вось мы і дапамагалі маме ўтрымліваць тыя тры вуглы. І ніштавата атрымлівалася — ніводзін не падкасіўся. А тата часам мог і панаракаць, што яму мала дапамогі: чатыры дачкі ў хаце і адзін хлапец. Потым дзве старэйшыя дачкі выскачылі замуж, а татаваму памочніку Альдаку лёсіла памерці маладым ды нежанатым. Засталіся мы пры тату з мамай удзвюх з Марыяй і ўжо — хоцькі-няхоцькі — але даводзілася брацца нам і за мужчынскую працу. Сена сушылі, вазілі ды складалі разам з татам, у дровы разам з ім хадзілі. Не, секчы то не секлі, але спраўна так пасопвалі ды цягалі алешыны з кустоўя ў кучы, а дома ўжо з татам пілавалі. Ды гэта ўжо было ў Гойдышаве.

А раней — у Чаранках… Сапраўднымі мамінымі памочнікамі былі, вядома ж, нашы старэйшыя. Пазней мама са смехам распавядала, як дапамагала ёй свойчас, напрыклад, Герця, калі была яшчэ ў пялюшках. Што праўда, дапамагала болей з прынукі, але сваім голасным крыкам некалькі разоў выручыла маму. А было так. Няпрошаныя госці з лесу, гэтак званыя «партызаны», чарговы раз заявіліся ўначы ды ўзнялі ў хаце вэрхал: «Дзе гаспадар? Дзе хаваецца? Кажы праўду, а то...». Іхняе «а то…» было настолькі пераканаўчае, што ў калысцы абудзілася малая Герця і спрасонку таксама раскрычалася на ўсю моц. Прыходням гэта зусім не спадабалася — яны ж, вядома, лічылі, што крычаць па начах у нашых хатах можна толькі ім. Словам, Герця крычыць сабе, дзядзькі са стрэльбамі — сабе. І дзіва-дзіўнае — саступілі лясныя грамілы: абмацюкалі яны ўсіх прысутных і адсутных дый выкуліліся за парог.

Мама ад радасці расцалавала малую. А калі наступным разам няпрошаныя госці сярэдначы загрукалі ў вокны, яна адразу ж упоцемках пачала трэсці Герцю. Ды тая спіць соладка, прычмоквае спрасонку, наеўшыся мамінага малачка. Мама ў роспачы шчыпанула раз-другі малую. Гэткага Герця ўжо не сцярпела — ды ў крык… Прыходні на парозе, а ў хаце лямант. Мама з малой бегае па хаце, бядуе, што дзіця во знячэўку расхварэлася — не ўходаць ніяк. Патапталіся, патапталіся тыя, прыхапілі, што мама похапкам падкінула ім з ежы, дый выкуліліся за парог.

Памятаю, як мама расказвала гэта і смяялася, мы таксама пасмейваліся, а тата раптам уздыхнуў: «Малыя тут жарты. Прыходні ж са стрэльбамі былі…». Мама змянілася з твару, панікла, а праз момант ціха сказала: «Дык а што рабіць было? Ратаваліся, як маглі…».

Іншым разам выратаваў Альдак. Гэтаксама ўначы наляцелі прыходні з лесу. Тата ж у той вечар быў на хутары ў бабулі Францішкі, ягонай маці. Была субота. Бабуля вытапіла лазню, а яму, які ні ўдзень, ні ўначы не здымаў з сябе адзення, вядома ж, вунь як хацелася памыцца. Да таго ж прастудзіўся, меў катар і спадзяваўся выпарыць



Мая сям'я ў Чаранках.
Я, немаўлятка, спала тады ў зыбцы.

яго бярозавым венікам. А ў гэты час у Чаранкі і заявіліся прыхадні з лесу ды запатрабавалі ежу. Але ж мама ведала, што потым яны, як заўсёды, пачнуць дапытвацца, дзе гаспадар. І яна, збіраючы на стол, мітнулася па малако ў сені ды неўпрыкмет шапнула маломý Альдаку, каб ён бег штосілы да бабулі — папярэдзіў.

Пакуль нязваныя госці елі ды грымелі на маму, грэзіліся, што кепска ёй можа быць, калі яны нарэшце зловяць яе гаспадара, Альдак дабег да бабулі. Тата проста з лазні, похапкам нацягнуўшы так-сяк на мокрае цела апратку, кінуўся ў лес, у Парашына.

А праз нейкі час на бабулін хутар сапраўды завіталі людзі з лесу — дапытваліся, шукалі, пагражалі. Бабуля Францішка адно круціла галавой ды бедавала. Плакала і малілася, малілася і плакала. І ўсё выйшла на добрае. Тата чарговы раз быў выратаваны. На гэты раз дзякуючы Альдаку.

Так нашы старэйшыя дапамагалі тату з мамай, а значыць і нам з Марыяй, якія нарадзіліся нашмат пазней. Нам лёсіла прыйсці ў гэты свет дзякуючы і той іхняй дапамозе.

## Бабуля Францішка

Заўсёды, калі толькі ўзгадаю бабулю Францішку, чамусьці адразу бачу ейныя босыя ногі на гойдышаўскай дарозе. Я, калі перабягала басанож тую колкую, выпетраную ветрам ды высушаную сонцам дарогу, міжволі падкурчвала пальцы ад болю — гэткая яна была калючая. Не, пасля дажджу ды ўлетку то па ёй адна любата была бегаць басанож, пакідаючы за сабой выразныя сляды. А то сыдземся з Рэняй пасля цёплага летняга дажджу ды накруцім пяткамі шмат «сподачкаў» на гліне. Сподачкі высахнуць потым альбо дажджом напоўняцца, а пяткі ажно гараць ад тае працы. Але гэта пасля дажджу. Ну а высахлыя чырвоныя камякі з гліны на той дарозе — гэта скажу я вам… Як толькі згадаю іх, так і хочацца падкурчыць пальцы — той боль нібы й цяпер даганяе мяне.

А бабулі Францішцы хоць бы што! Ёй ці па гладкай падлозе босымі нагамі, ці па гэткай во колкай гліне — без розніцы. «Пахадзі столькі, колькі я прайшла за сваю жытку — і ты не будзеш ехатаць», — смяялася з мяне бабуля.

Яна і ў касцёл улетку басанож хадзіла. Пантофлі нясе сабе ў торбачцы, непадалёк ад касцёла знойдзе якое балотца альбо лужыну, памые ногі і ў касцёл ужо ўваходзіць фарсіста — у пантофлях. З вясны і да позняй восені — усюды басанож.

…Праз колькі дзён пасля пахавання Альдака яна таксама прыйшла босая. На двары быў канец кастрычніка. Чамусьці зусім не памятаю бабулю на пахаванні. Ну не, не магла ж яна не быць на ім… Проста мне не ў памяці. А тады, праз некалькі дзён, яна прыйшла да мамы. Як я цяпер разумею, ужо хто-хто, а яна, якая нарадзіла дзевяцярых дзяцей і пахавала з іх шасцёра, яна то ўжо добра ведала, што гэта такое — пахаваць сына, дарослага, высокага, прыгожага... Мама ўбачыла бабулю праз вакно і выйшла насустрач, на дарогу. Мама была ў сандалях, а бабуля — босая. Я стаяла побач, глядзела на тыя дзве пары ног і баялася падняць галаву — баялася слёз, якіх так шмат было ў нашай хаце ў тыя дні. Яны, здаецца, нават не прамовілі «дабрыдзень», проста абняліся: мама плакала, а бабуля ціха штосьці ўсё казала-казала… Супакойвала. Не памятаю слоў. Там, на дарозе, не памятаю, ды вельмі выразна затое запамятала, пра што яны гаварылі потым, ужо ў хаце.

Мама прызналася, як баіцца яна цяпер смерці. Раней, казала, нават і не думала пра яе, а цяпер, пасля таго як забрала смертухна Альдака, баіцца. Прызнавалася ў гэтым, вінавацілася, бо як жа гэта, каб маці ды баялася той дарогі, куды пайшоў яе сын?! «Не магу гэтаму страху даць рады», — шаптала, абхапіўшы галаву рукамі. А бабуля як засмяецца раптам на яе словы! Выразна памятаю, як яна засмяялася, — мне ажно холадна зрабілася ад таго смеху.

— А я ж вот хоць сёння гатовая пайсці туды! Хоць сёння! Хоць во цяпер… Нават і хочацца хутчэй з маімі ўсімі там спаткацца, — казала яна.

У яе тады ўжо шмат было «там»: мой дзядуля Адам, іхнія шасцёра дзяцей, а мае, значыцца, дзядзькі ды цёткі, якія памерлі малымі ды маладымі. Я ніколі іх не бачыла, і мне неяк ажно дзіўна было, што бабуля хацела хутчэй ужо да іх, не вядомых

мне. Тут, на зямлі, былі яе два сыны, дачка, унукі, мы вось былі ў Гойдышаве, а яна чамусьці хацела ад усіх нас — туды…

Наша загадкавая бабуля Францішка. Так добра было нам разам з ёю ляжаць на цёплай печы, грызці сушаныя яблыкі ды слухаць казкі. Так весела было смяяцца на яе жартачкі! Калі я ўжо стала дарослай, сястра Аля неяк згадала, як часта бабулі Францішцы балела галава. Яна ішла тады на гарод, клалася ў бульбяную баразну і туліла сваю хворую галаву да зямлі… Калі думаю пра гэта — хочацца плакаць. Бо добра ведаю, што гэта такое — мігрэнь. І калі не мець ад яе аніякіх пігулак… Часта згадваю сваю бабулю. Асабліва ў часе прыступаў мігрэні. І адчуваю сябе нібы вінаватаю перад ёю, паспешліва глытаючы дакучлівыя лекі, якія хоць і не лечаць, ды ўсё ж хоць трохі прытупляюць мой спадчынны боль…

Яна мела ўвогуле даволі круты характар, наша бабуля Францішка. Мама не любіла тое ўспамінаць, але ў маладосці, калі мама толькі выйшла замуж, яны — свякроўка і нявестка — не надта ладзілі паміж сабой. «Былі ў нас неператліўкі», — загадкава пасмейвалася мама. Ды як не жылі разам, то й пераліося яно неяк. Не памятаю, каб мама надта наракала на тыя «неператліўкі», дык не памятаю іх і я. А вось тое, як бабуля ў кастрычніку завітала да нас басанож, як мама выйшла ёй насустрач, як абняліся яны проста на дарозе, — памятаю. Уваччу стаяць іхнія дзве постаці і дзве пары іхніх ног на гразкай гойдышаўскай дарозе.

Бабуліна мара хутчэй сустрэцца «з усімі сваімі» збылася пасля таго дня яшчэ няхутка. Лёсіла ёй яшчэ далёкая дарога ажно ў Латвію, куды выехаў яе сын, а мой, значыцца, дзядзька Адам з сям'ёй. А як бабуля жыла з імі ў нашых Гарнастаях, то і паехала разам шукаць лепшай долі. Што праўда, лепшую долю шукаў дзядзька Адам для сваёй сям'і, ну а бабуля што ж — як нітка за іголкай, так і яна за сваім меншым. На латышскім хутары Тылткалне, дзе яны жылі, яна і дачакалася таго моманту, калі паклікаў яе Пан Бог, і яна вырушыла на сустрэчу з Ім ды «з усімі сваімі». Напэўна ж, тая сустрэча адбылася. Бо ў Нябесным Валадарстве, як я разумею, няма межавых перашкодаў, візы там не патрэбныя…

### *«Ты уехала в знойные степья…»*

Так спяваў Герцін Пятрок:

*Ты уехала в знойные степья,*
*Я ушел на разведку в тайгу…*

Вельмі ён любіў гэтую песню і спяваў менавіта так — «степья» замест «степи». І што яму даліся тыя геолагі? Сам ён ніякім геолагам не быў, падазраю, што нават слаба ўяўляў, чым яны займаюцца, а песню зацягваў надта задушэўна.

Захапіла я яшчэ той шчаслівы час, калі людзі ў вёсках спявалі. На вяселлях, хрэсьбінах, на вы-



Я – школьніца.

правінах у войска. А нават і па дарозе на працу альбо вяртаючыся з яе. Пасядуць жанчыны ў брыкі, ногі пазвешваюць, вырушаць у якую Забегліцу ці Езуліна на сенакос і зацягнуць раптам: *«Каля млына, каля млына расцвіла каліна-а-а, там дзяўчына воду брала — сама чарнабрыва-а-а»*… Так што карцінкі са старых фільмаў пра песні на калгасных палях-дарогах зусім не маняць. Вядома, не гэтак там ужо зладжана атрымлівалася, не на галасы. Але спявалі!

І рэпертуар быў багаты. Што праўда, і стракаты. Зацягвалі *«Ой ляцелі гусі з броду…»*, а потым раптам маглі жахнуць пра Кацюшу, што выходзіла *«на высокий берег, на крутой»*. Калі ж мужчыны ў якім застоллі добра падпівалі, то па-змоўніцку так, міргнуўшы адзін аднаму, маглі зацягнуць і *«Шумел камыш, деревья гнулись, а ночка тёмная была-а-а»*. На гэта жанчына каторая магла адразу ж прысарамаціць: «Даліся вам гэтыя камышы! Дзеці вунь слухаюць!». І песня аціхала. Не магу ўявіць такое цяпер, хоць вы мяне рэжце! Па-першае, не магу ўявіць, што людзі за сталом альбо на лавачцы пад хатай, альбо па дарозе на працу хорам спяваюць. А па-другое, цяжка ўявіць, што спевакі лічаць прымятую траву чымсьці надта ж ужо непрыстойным. Словам, «сексуальная рэвалюцыя» ў маім Гойдышаве надта запазнілася. І я ані не бядую з гэтае прычыны.

Была, праўда, і яшчэ адна песня — пра нейкага матрасёнка. Штосьці там такое жаласнае было і павучальнае для маладых дзяўчат — пра дзяўчыну, якая сваёй маці не паслухалася, а кінулася ў свет шукаць прыгожае жыццё. Вярнулася ж яна са

сваіх пошукаў ні з чым — «*еду в о-одной юбке-е…*». Мала, што вярнулася дачушка ў адной спадніцы, дык яшчэ і ў падале прывезла «падаруначак». Ну а маці суворай аказалася, выслухаць ды прыняць дачушку не захацела, а ў дадатак яшчэ й нагадала: «*…ты совета моего слушать не хотела-а*». Прайшло даволі часу, пакуль я зразумела, што тая неразумная дзяўчына не паслухалася матчынай парады. Напачатку ж у гэтай песні мне чулася выразная палітычная афарбоўка. Я думала, што маці тая мела савецкага мужа — Савета, значыць. І гісторыя ў маім разуменні набывала яшчэ большую трагічнасць. Думала я, што маці свойчас, стаўшы ўдавой, выйшла замуж за Савета, а дачка так яго неўзлюбіла, што кінулася ў свет — абы толькі не жыць пад адной страхой з тым Саветам. З часам, пазнаўшы больш расейскіх словаў, я дапетрыла, што ніякага злоснага Савета–айчыма з вырачынымі па-зверску вірламі ўвогуле ў той песні не было. Ды нават не ведаю, чый варыянт лепшы. Ну але што ж, давялося згадзіцца. У любым выпадку, тая жаласна-павучальная гісторыя для дзяўчат была не лішняй — каб памяталі, чым можа скончыцца гісторыя, калі ты кінешся на злом галавы за нейкім там заезджым матросам. Хоцькі-няхоцькі, як той казаў, а задумаешся.



Пятрок з Герцяй неўзабаве пасля іхняга вяселля.

### Кіно прыехала!

Маё першае кіно. Якое яно было? Як называлася? Не памятаю. Адно добра ў памяці, што напачатку былі дыяфільмы ў Барысавых, гэта значыць, у Толікавай хаце. Прыходзілі мы ў той «кінатэатр», вядома ж, зімовымі вечарамі, пераважна ў нядзелю. Адна сцяна завешвалася белай прасцінай, мы сядалі насупраць экрана, выключалася святло, і цёця Каця, Толікава мама, пачынала паціху пакручваць апарат ды чытаць подпісы пад карцінкамі. А ў глядзельнай зале сядзелі, прыціхлыя, мы з Рэняй, Толік са сваёй сястрой Галяй, цётка Анця, Рэніна мама ды мая мама. Ішло кіно…

У клубе ж усё было зусім інакш. Іншым быў апарат, з якога вылятала гаваркое, спеўнае кіно. Тут ужо быў не маленькі нямы апарацік, а самы сапраўдны кінадзвіжок, які тарахцеў сабе пасярод залы. Час ад часу стужка ірвалася. Тады ўспыхвала святло, кінамеханік, а па-нашаму кіншчык, склейваў стужку, і неўзабаве цуд працягваўся. Кіншчык Міцька прыязджаў у нашае Гойдышава раз на тыдзень, і тады збіраўся паўнюткі клуб. Мы з Марыяй глядзелі ўсё падрад, калі толькі на Міцькавай афішы не было злавеснай прыпіскі: «Апроч дзяцей да 16-ці гадоў». Усе «кіны» былі нашымі зусім не таму, што тата з мамай рупіліся гэтак далучаць нас да кінамастацтва і не шкадавалі на тое грошай, але таму, што глядзелі мы іх бясплатна. І гэта зусім немалаважная дэталь. Бо дзе б мы набраліся кожны раз па 5 савецкіх капеек за тое кіно?

А глядзелі мы бясплатна таму, што кіншчык Міцька заўсёды начаваў у нас пасля чарговага сеансу. Грошай ён нам, зразумелая рэч, ніякіх не плаціў за гэта. Але затое ўсе мы маглі глядзець кіно колькі душа пажадае. І гэта як для нас з Марыяй было нашмат важней. А назаўтра прыязджала машына, ён грузіў свой апарат ды каробкі са стужкамі і ад'язджаў. Да наступнага разу.

Як я яму зайздросціла! Бо ён мог глядзець тыя кіны па шмат разоў! А яшчэ ён надта ж лоўка пісаў афішы: калі было плакатнае пяро, пісаў ім, ну а калі гублялася альбо зломвалася, Міцька і такой мітрэнзе даваў рады: скруціць паперчыну, прыцісне яе, каб яна стала пругкай ды пласкай, нібы шчэпка, і старанна выведзе гэткай прыладай назву… Чараўнік!

А яшчэ Міцька быў невыносным жартаўніком. Як ён толькі з нас з Марыяй не здзекаваўся! Прыдумае, напрыклад, такі жарцік: «Верыце ў тое, што калі вы залезеце пад стол, а я стукну па ім тры разы, вы не зможаце там уседзець?». Як гэта? Не верым! То лезце пад стол. Вагаемся, боязна пазіраем адна на адну, але ўрэшце забіраемся пад стол. Сядзім. Міцька ж з важным выглядам сядае, нахіляецца, правярае, ці мы там, і важна так стукае па стале адзін раз. Мы сядзім і, стаіўшы дыханне, у кожную хвіліну гатовыя даць дзеркача на выпадак, калі здарыцца штосьці жахлівае, чакаем… Міцька праз нейкі час стукае яшчэ раз па стале. Мы пад сталом прыціскаемся адна да адной… А Міцька выходзіць з хаты і ўжо з сяней чуецца ягоны голас: «Ну а заўтра я, можа, стукну трэці раз! Чакайце!». Ух! Выкочваемся з-пад стала, рагочам усе разам. Маме з татам таксама весела…

### З паходняй у руках

У мяне былі тры непадобныя паміж сабой дарогі ў школу: у пачатковую, васьмігодку і дзесяцігодку. Самая нецікавая дарога была першыя чатыры гады: пяць хвілінаў хады з хаты — і ты ўжо сядзіш за сваёй партаю. У Рэні тое ж самае: праз адну хату — школа. Аднакласнікі паспеюць за час сваіх дарог пабіцца й памірыцца, а на нашых вуснах яшчэ смак ранішніх бліноў. Не памятаю, як Рэня, а я марыла, каб хутчэй настаў той час, калі і ў мяне таксама дарогі будуць як у людзей.

І вось — пяты клас! Ідзем у Задарожжа! Ды яшчэ праз рэчку, няхай сабе і вузенькую, праз нашу Кабыліцу, і праз лес — Кухціна! А гэта ўжо не жарты! У задарожскай школе нас усіх, хто хадзіў з нашых ваколіцаў, называлі мацюкоўцамі. Цэнтр калгаса — Мацюкова, ну а мы адпаведна, не глядзі, што жылі ў Гойдышаве, Гаравых, Лісіцах, Вэйткаве, усе мы былі мацюкоўцамі.

Увосень ды ўвесну хадзілі невялікімі групкамі — хто з кім сябраваў. А вось позняй восенню ды ўзімку ўжо было не да сімпатый-антыпатый. Да таго, як выпадзе снег, мы збіраліся зазвычай у дзве вялікія групы: хлопцы — асобна, дзяўчаты — асобна. Амаль у кожнага ў руках — паходня. Прыгожа гучыць. А на справе то яно выглядала больш празаічна. Мама брала даўгаваты кій, туга намотвала на ягоны канец старое рыззё, туга завязвала яго, абмаквала гэтую балдавешку ў салярку, давала ёй сцячы, і калі я выкульвалася за парог, уручала мне такую вось паходню. Ідзі, дачка, вучыся!

Да лесу мы хоць і ў цемры, але ўсё ж не запальвалі свае паходні, бо іх проста не хапіла б на ўсю дарогу. А ў лесе, калі за кожнай ялінай цябе надчэквае воўк альбо які страхалюд, тут ужо без агню аніяк. Што праўда, за чатыры гады такіх ходак у Задарожжа ніхто з нас не сустрэў ні ваўка, ні страхалюда. Ды гэта, мабыць, толькі таму, што мы былі з паходнямі.

Але найцікавейшыя нашы дарогі ў Задарожскую школу былі тады, калі выпадаў снег. Не цяперашні снег, які прысыпле збольшага зямлю, прыцярушыць яе ў бель, і паэты кінуцца адразу складаць вершы, а фатографы шчоўкаць сваімі «мыльніцамі». А такі снег, які ляжаў гурбамі ажно пад стрэхі, вакол нашых хатаў, уздоўж дарог, калі ў завею можна было збіцца з дарогі альбо, вярнуўшыся са школы, спачатку трэба было шуфлем адгарнуць яго з ганку, каб магчы адчыніць дзверы ў сені.

У такую снежную пару нам з калгаса давалі коней — ездзіць у школу. О, гэта былі прыгоды! Гэта былі падарожжы! Звычайна выдзялялі двух коней: аднаго — з гараўской брыгады, другога — з мацюкоўскай. Напачатку нашу мацюкоўскую групу вазіў конюх, аднавокі дзядзька Мацкевіч, а потым нашы хлопцы падраслі і самі ўжо добра спраўляліся з коньмі. Пасядзем на сані гурбою, ухопімся ці то за бакавыя дошкі, ці то за суседа і… наперад! Сем жыдоў — не воз, абы конь павёз! Прашу не вінаваціць мяне тут у антысемітызме, гэта — народная творчасць, а з яе слоў выкідаць ці замяняць, як і з песні, не выпадае.

Колькі разоў на паваротах то адзін, то другі з нас выкульваліся з таго воза — не злічыць. Выкуліцца такі чарговы недарэка, залямантуюць астатнія, фурман прыпыніцца, пакуль недарэка дагоніць сані ды зноў на іх ускочыць, і тады зноў рэзкі свіст пугі — мы зноў імчым наперад. А калі на дварэ мароз-траскун, тут ужо пільнуйся, каб нос, вушы, шчокі не падмарозіць. Бацькі дома наказвалі: «Вы ж там сачыце адзін за адным, каб не пабялелі». А ледзь трохі хто пабялее, гэта значыць, пачаў падмярзаць, снегам, снегам штосілачкі трэш-трэш і адатрэш. Калі, вядома, не спознішся заўважыць белую пляму.

А ўвесну, калі пачнецца разводдзе, там ужо свае прыгоды. Наша Кабыліца — далёка не Нёман, не Дзвіна і не Сож, гэта, хутчэй, нават і не рака, а невялікі ручай. Але ж у нас іншай ракі не было, а таму і выпадала, каб яна таксама ўсур'ёз разлівалася. Яна і праўда, разлівалася, але, паклаўшы руку на сэрца, ну… не настолькі шырока, каб не змагчы пашукаць вузейшага, зручнейшага месца ды перабрысці праз яе. І вось увесну надыходзіў той дзень, калі нам ну нізавошта немагчыма было пераправіцца цераз нашу Кабыліцу. І мы… вярталіся дружна дахаты. Усе. Менавіта важна было, каб усе вярнуліся. Калі ж хоць адзін з нас дабіраўся неяк у школу — эфект быў ужо зусім не той. Да таго ж, ва ўсіх, хто не дабраўся, тады быў шанец атрымаць на гарэхі ад нашага суровага школьнага дырэктара.

Ну а ў сярэднюю Плпіскую школу мы ездзілі на роварах, і гэтую радасць не параўнаеш ні з чым! І тады, калі ездзілі гурбою, і тады, калі я ехала адна. Прызнаюся, вельмі любіла ездзіць адна. Была ў мяне свая таямніца, пра якую не ведалі мае сяброўкі — я вельмі любіла вершы, шмат ведала напамяць. Дык і чытала іх напамяць па дарозе, калі ніхто не чуў. Чытаеш так, чытаеш Ясеніна альбо Багдановіча, круціш мерна педалі і не заўважыш, як пралятуць тыя сем кіламетраў. Цяжка такое зразумець, але й цяпер, калі зрэдку праязджаю па той дарозе ўжо на машыне, а мае спадарожнікі маўчаць, я, вядома, нікому не кажу пра гэта, але ў памяці амаль заўсёды ў такія хвіліны ўсплываюць радкі з Ясеніна, якога я ў свае школьныя гады моцна любіла. Але найчасцей згадваецца наш Максім Багдановіч:

…У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды.

*Малы паляк (з польск.).

Лідзія Камінская

# У фарбах любові і болю

## *Штрыхі да творчасці Гаўрылы Вашчанкі (1928–2014)*

Было на расейскім тэлебачанні такое апытанне: «Назавіце імёны найбольш папулярных, найярчэйшых асобаў савецкага часу». Найчасцей людзі называлі імёны Сталіна (*«зачем рабам поля свободы»*?..), маршала Жукава і Юрыя Гагарына. А што сказалі б беларусы? Купала, Машэраў, Васіль Быкаў? Між тым, ёсць такое ганаровае званне — «Чалавек XX стагоддзя», і ў 1993 годзе гэтым званнем па рашэнні Міжнароднага біяграфічнага цэнтра ў Кембрыджы быў уганараваны Гаўрыла Харытонавіч Вашчанка. Беларус. Чаму ў Англіі? Відаць таму, што космас мастацтва, яго святло і боль, яго фарбы належаць сусвету, і вельмі важна, каб у гэтым космасе мастак адбыўся як чалавек сусвету, як чалавек Божы, бо без гэтага няма сапраўднага творцы. Вашчанка — адбыўся. Яго любоў і боль супалі і з прастораю сусвету, і з гісторыяй краіны, з яе мінулым і сучаснасцю. Ён адбыўся праз «Баладу пра мужнасць» (1974), праз трыпціх «За зямлю і волю» (1983) пра паўстанне Кастуся Каліноўскага, праз «Грунвальдскую бітву» (1985) і «Салдацкі хлеб» (1985). У 1970-я ён умудрыўся паставіць Кастуся Каліноўскага на сваім насценным роспісе «Асветнікі» побач з манахамі-асветнікамі і там жа намаляваў у німбе сонца настаўніцу з хлопчыкам, якая асацыіруецца з Божай Маці. Яго «Цыкламены» (1966) купіла Траццякоўская галерэя, і наш любімы Караткевіч захапляўся яго краявідамі Палесся, але творчым прарывам мастака, яго ўзыходжаннем сталі евангельскія сюжэты, да якіх ён прыйшоў праз пакутлівае асэнсаванне драмы Чарнобыля.



«Радыяцыя» (1987) — так коратка, ёмка, канкрэтна ён назваў сваё палатно, якое, убачыўшы раз, забыць ужо немагчыма, таму што гора, якое калечыць, адбірае жыццё ў зямлі і людзей, невымерна большае, чым памяць пра бурштынавае шчасце. Але на палатне — не людзі, а коні (метафара людскога натоўпу), і яны шалёна імчаць па ўсёй прасторы выцягнутага ўздоўж палатна, як працяглы крык, — яны ўцякаюць ад вогненна-карычневай навалы воблакаў радыяцыі, якая ўжо ахапіла зямлю, зглушыўшы яе бурштынавыя фарбы, умомант зрабіўшы яе смяротна хвораю, і запаланіла неба, пакінуўшы ў кутку зацемнены лапік святла — нетрывалага, але яшчэ спалучанага і адначасова раздзеленага з зямлёю на кароткай лініі дагляду. У зламана-выгнутых абрысах коней, у шалёнай скачцы тых, што нібыта ўжо даімчалі да выратавальнага лапіку святла — адчай, жах, роспач. Уратуй, Божа... Адхілі ад бурштынавай зямлі гэты страшны келіх!.. Пашлі з нябёсаў свайго анёла, які спыніць гэты адчай і суцешыць надарваныя сэрцы...

Да свайго «Малення аб чашы» (1999), да свайго вобразу Хрыста, сваіх мастакоўскіх малітваў Гаўрыла Вашчанка ішоў менавіта праз палотны аб чарнобыльскай трагедыі. Сваю малітву ў фарбах любові і болю ён скіраваў уверх, у Неба — паглядзі, Божа, будзь міласэрны да нас, не пакінь нас... Шлях мастака да «Малення аб чашы» быў высцелены і яго ўласным душэўным болем, бо яго родны дом у вёсцы Чыкалавічы на Брагіншчыне апынуўся ў «зоне адчужэння». Яго «Чарнобыльскія яблыні» (1991) падобныя да ядзерных узрываў, і безабаронна-трывожны ружовы колер узмацняе гэтае падабенства. Гэта былі рэальныя, пасаджаныя ім дрэўцы, на якіх праз гады галіны хіліліся пад цяжарам яблык, але яны былі атручаныя радыяцыяй... «Час такі» (1989) — менавіта гэтак бездапаможна назваў мастак адну са сваіх чарнобыльскіх працаў...

---

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978–1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980–1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986–1992), у часопісе «Роднае слова» (1992–2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.

Пра творчасць мастака напісана добрая манаграфія Наталлі Шаранговіч «Гаўрыіл Вашчанка. Народжаны Палессем» (2008) і аповесць Віктара Карамазава «Брама» (2006), а сёння мы найперш звернемся да яго палатна «Маленне аб чашы», выява якога змешчана на вокладцы нашага часопіса. Згадаем, што ў 2017 годзе, у першым нумары, у перыяд Вялікага посту, на вокладцы нашага часопіса быў змешчаны фрагмент карціны Яна Дамеля «Малітва ў садзе Аліўным», пра рэстаўрацыю якой у артыкуле пад назваю «НДФ – 2207» нам напісаў Аркадзь Шпунт.

...Калі быць дакладнымі і ў дэталях, і ў вобразах, якія маюць важную сэнсавую нагрузку і ў евангельскіх тэкстах, і ў мастацкіх палотнах, трэба падкрэсліць, што Ян Дамель кіраваўся Евангеллем паводле Лукі — адзіным, дзе гаворыцца пра з'яўленне на Аліўнай гары анёла. Вось гэты тэкст: «*Выйшаўшы, Ён пайшоў, як звычайна, на Аліўную гару. За Ім пайшлі таксама вучні. Калі прыйшоў на месца, сказаў ім: „Маліцеся, каб не паддацца спакусе". А сам адышоў ад іх, як кінуць камень, укленчыў і маліўся, кажучы: „Ойча, калі Ты жадаеш, адхілі ад Мяне гэты келіх. Але не Мая воля, а Твая няхай станецца". З'явіўся Яму анёл з неба, суцяшаючы Яго. І, моцна пакутуючы, Ён маліўся яшчэ больш. А пот Ягоны быў, быццам кроплі крыві, што падалі на зямлю*» (Лк 22, 39–44).



«Чарнобыльскі рэквіем». 1998. Палатно, алей, 107х84,5 см.

Трагічная адзінота Хрыста падкрэсленая Янам Дамелем густою цемраю за Яго спінаю. З Ім няма Яго вучняў, але над галавою ёсць залацістая выява анёла з тужліва-самотным тварам і келіхам у руках. На палатне Гаўрылы Вашчанкі «Маленне аб чашы» Хрыстус абсалютна адзін. Мастак паказвае той момант, калі Збаўца, стоячы, склаўшы рукі ў малітоўным жэсце, магчыма, ужо ў трэці раз звяртаецца да Бога Айца, паўтараючы тыя самыя словы: «*Ойча Мой, калі не можа келіх гэты абмінуць Мяне, каб Мне не піць яго, няхай станецца воля Твая*» (Мц 26, 42). Вертыкальна выцягнутая ўверх фігура Хрыста супадае ў імкненні ўверх зацемненых дрэваў Аліўнага саду. За спінаю Хрыста няма цемры — за Ім, на ўсю вышыню палатна, ад самай зямлі, упёршыся ўверх, узвышаецца выява непазбежнага келіха, паказанага не прадметна, а празрыста-ценева, сімвалічна, і фігура Хрыста зліваецца з ім у адзінай вертыкалі, у гатоўнасці прыняць яго. Езус па сутнасці становіцца часткаю келіха, які паказаны мастаком як шлях у Неба — спачатку вузкі, а потым, уверсе — шырокі. Уверсе на выяве келіха празрыста свеціцца крыж, вертыкаль якога амаль дакранаецца да галавы Хрыста, нагадваючы меч, якім будзе працятае Яго цела. І келіх, і вертыкальныя прагалы паміж дрэвамі Аліўнага саду намаляваныя ў крыштальна-празрыстым



Вітражы ў касцёле святых Сымона і Алены, Мінск.

зялёным колеры, і гэтая светлая крыштальнасць стварае перспектыву Нябеснага Валадарства — яго няма на палатне рэальна, але яно існуе ў нябачным кантэксце палатна, у далейшай гісторыі Унебаўшэсця Езуса. Бліжэйшыя крывава-пакутныя хвіліны гэтай гісторыі — Укрыжаванне Езуса — перададзеныя крывава-барвовымі фарбамі Яго адзення, і фарбы гэтыя настолькі густыя і набрыняла-свежыя, што адчуванне крывавай мукі, дакладней — самой крыві Езуса, становіцца амаль рэальным. Выбар крыштальнай зялёнай фарбы спачатку бянтэжыць (зялёны край — зялёная туга?), а потым успрымаецца як палёгка: мастак выбірае колер Радзімы, і крыштальная празрыстасць дамінуе, пакідаючы радасную надзею.

Вашчанкаў Хрыстус спакойны, нібыта ўжо адбылося Яго Унебаўшэсце, хоць Ён яшчэ на зямлі, на Аліўнай гары, і Яго яшчэ чакаюць нясцерпныя мукі ўкрыжавання. На Езусе — доўгае адзенне, цяжкія складкі якога ўнізе ўжо гатовыя да руху і кантрастуюць з замерлым у малітве Езусам, які праз імгненне расплюшчыць свае вочы і, вярнуўшыся да вучняў, спакойна скажа: «...*наблізілася гадзіна, і Сын Чалавечы выдаецца ў рукі грэшнікаў. Устаньце, пойдзем*» (Мц 26, 45–46).

Гаўрыла Вашчанка робіць нас сведкамі найважнейшай падзеі ў гісторыі чалавецтва — сведкамі *часу Гетсіманіі*. Ад ціхай малітвы Хрыста ў Аліўным садзе да Яго балючага стогну на Галгоце застаецца зусім няшмат часу, і мы яшчэ раз востра разумеем, што гэты кароткі час назаўсёды змяніў свет, бо здзейснілася вялікая Ахвяра, і нішто не можа параўнацца з яе ўсёабдымнай Любоўю — рукі, яшчэ нядаўна складзеныя ў малітоўным жэсце, будуць па Яго ўласнай волі наскрозь прабітыя цвікамі, каб, разгарнуўшыся ў крылы, назаўсёды абняць увесь свет...

Безумоўна, тое, што мы рэальна бачым на Вашчанкавым палатне, вельмі важна, але не менш важна і тое, што вяло мастака да яго стварэння, — праца душы, энергетыка нараджэння твора. Тут не скажаш, як пра паэзію, *«когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда»*. Відавочна, што зварот да евангельскіх сюжэтаў не быў для мастака проста «тэмаю рэлігіі». Праз 10 гадоў пасля «Малення аб чашы» (1999), ён яшчэ раз увасобіць свой роздум пра Ахвяру Хрыста ў палатне «Тайна Гефсіманскага саду» (2009), а перад гэтым будуць напісаныя працы «Звеставанне» (1992), «Ростані» (1995), «Дыялогі» (1995), «Анёл» (2005), «Чаша» (2006) і іншыя творы.

...Благаслаўлёныя палотны, расчыненыя, нібы вокны, у сады Гетсіманіі, благаслаўлёныя рукі мастака, якія фарбамі тварыў сваю малітву за беларускія сады...

У хрысціянстве лічыцца недарэчным задаваць пытанне «за што?», бо нікому не пазбегнуць свайго келіха, свайго ўласнага крыжа, дадзенага і кожнаму чалавеку, і кожнаму народу. У палотнах Гаўрылы Вашчанкі гэтага пытання няма, у іх дамінуюць прыманне і пакора. Ужо ў чарнобыльскіх творах яго героі, змешчаныя ў верхняй частцы палатна, прымаюць вертыкаль Хрыста — такою паказана босая жанчына, якая туліць да сябе дзіця, узнёсшыся над пакінутым жытлом («Чорная быль», 2002), і гаротная кабета ў хустцы, якая прытуляе да грудзей... пеўня, і немалады мужчына, які стаіць на каленях, але ўжо гатовы выпрастацца («Вяртанне», 2000). Хрыстова вертыкаль пераважае і ў серыі палотнаў пад назваю «Крылы» (1994), праз якія мастак

далучае нас да свайго роздуму пра чалавечую крылатасць і бяскрыласць, пра анёльскае і не анёльскае ў чалавеку, пра наша імкненне да вышыняў і пра няздольнасць адарвацца ад зямной зняволенасці, каб пайсці ўслед за Ім і Яго запаветамі.

...Раздумваючы пра тое, хто з творцаў найбольш вольна, незалежна адчувае сябе ў сваёй працы, я вырашыла, што гэта кампазітары, але найбольш шчаслівыя, радасныя — мастакі, асабліва пейзажысты, бо яны, як дзеці, перапэцканыя фарбамі, усё жыццё робяць тое, што ім падабаецца, і раптам успомніла адзін з аўтапартрэтаў Гаўрылы Вашчанкі («Сон. Калядны аўтапартрэт», 1995), які можна было б назваць словамі «Адчай», «Роспач», «Выгаранне» — знясілены, змучаны і, здаецца, безнадзейны, і над ім, пахіленым, шэрым, уверсе такія ж бездапаможна-самотныя анёлы. Міжволі згадаліся радкі Булата Акуджавы: *«В земные страсти вовлечённый, // я знаю, что из тьмы на свет // однажды выйдет ангел чёрный // и скажет, что спасенья нет, // но, простодушный и наивный, прекрасный, как благая весть, // идущий следом ангел белый прошепчет, что надежда есть»*. І, гледзячы на гэты шчымліва-балесны аўтапартрэт, канчаткова разумееш, чаму беларускі мастак быў названы «Чалавекам ХХ стагоддзя»...

І яшчэ пра адну працу Гаўрылы Вашчанкі хочацца сказаць — яго вітражы (1971–1974) у мінскім касцёле святых Сымона і Алены, якія ствараліся не для касцёла, а для Дома кіно, бяздумна змешчанага ўладамі ў слыннай каталіцкай святыні, збудаванай Эдвардам Вайніловічам на пачатку ХХ ст. у памяць пра сваіх памерлых дзяцей. Гаўрыла Харытонавіч, безумоўна, ведаў, каму павінен належаць гэты будынак, і можа таму, яго вітражы атрымаліся такімі па-анёльску прамяніста-сонечнымі, быццам ён і сам далучыўся праз іх да ўшанавання памяці бязвінных дзетак Вайніловіча. Вітражы цудоўна супалі з энергетыкаю святыні, але, на жаль, захаваліся яны толькі часткова.


«Чорная быль». 2002. Палатно, алей, 200х180 см.

...На экскурсіях па гомельскай Карціннай галерэі народнага мастака Беларусі (1988) Гаўрылы Вашчанкі супрацоўнікі галерэі часам расказваюць, што маці будучага мастака прадавала на рынку тое, што вырошчвала на сваім агародзе. Аднойчы яна ўзяла з сабою і малога сына (гэта было яшчэ да вайны), але, вяртаючыся дамоў, яна аддала амаль усё, што нагандлявала, бедалагам, якія прасілі міласцыню каля царквы. На пытанне сына, чаму яна так зрабіла, маці адказала: «Дай Бог, сынок, каб ты ў сваім жыцці толькі даваў...»

Гаўрыла Вашчанка пакінуў пасля сябе багатую мастакоўскую спадчыну, і недзе там, у Небе, лунае над намі яго светлая душа, якую ён дарэшты аддаваў роднай зямлі, малюючы яе ў бурштынавых фарбах любові і болю, аддаваў нашым слынным продкам, навекі змясціўшы іх на сваіх палотнах, аддаваў сваім сучаснікам, вучням, сябрам, паплечнікам, а цяпер ужо і нашчадкам.

**Выкарыстаная літаратура**
1. Святое Евангелле. — Мінск, выд. «Про Хрысто», 2012.
2. А. Курашоў. «Ващенко, которого я люблю...» Час. «Неман», № 12, 2018.
3. Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1995.

*Рэпрадукцыі карцін для публікацыі прапанаваў Канстанцін Вашчанка.*

Юрый Піскун

# АКРЫЛЕНЫ ВАНДРОЎНІК

## *Да 75-годдзя з дня нараджэння Міхася Раманюка*



Імя Міхася Раманюка (1944–1997) — этнографа, мастацтвазнаўцы, мастака па касцюме і фотамастака, займае пачэснае месца ў культуры Беларусі. Здзейсненыя ім у 1970-я — на пачатку 1990-х гадоў экспедыцыйныя падарожжы па беларускіх вёсках з мэтай даследавання традыцыйнага святочнага сялянскага касцюма і твораў народнага мастацтва — абрадавых ручнікоў, маляваных дываноў, вясельных каравáяў і куфраў, інтэр'ераў сялянскіх хатаў, аздаблення прыдарожных крыжоў і вясковых могілак — далі найбагацейшы матэрыял — тысячы фотанегатываў і апісанняў таго, што ўжо імкліва знікала. Дзякуючы самаадданасці Міхася Фёдаравіча, усведамленню ім свайго паклікання да місіі даследчыка і збіральніка мастацкіх рарытэтаў беларускай вёскі, наша нацыянальная культура займела найкаштоўнейшы скарб, мы маем шчаслівую магчымасць убачыць і напоўніцу ўсвядоміць сваё нацыянальнае аблічча, адчуць сваю крэўную повязь з мінулым свайго народа.

Вынікам шматгадовай працы Міхася Раманюка стала кніга-альбом «Беларускае народнае адзенне» (Мінск, 1981) і вялікая колькасць выкананых ім у 1990-я гады разам з жонкай Наталляй Сакаловай мастацка-графічных рэканструкцый беларускіх народных строяў усіх вызначаных ім жа лакальных этнакультурных рэгіёнаў Беларусі. Значная колькасць гэтых малюнкаў пасля заўчаснай смерці Міхася Фёдаравіча ўвайшла ў выдадзены яго сынам Дзянісам альбом «Беларускія народныя строі» (Мінск, 2003). Раней, у 2000 г., Дзяніс Раманюк выдаў у Вільні кнігу-альбом свайго бацькі «Беларускія народныя крыжы», над якой Міхась Фёдаравіч працаваў да апошніх дзён свайго жыцця, стаічна ўсведамляючы свой хуткі скон. Па амаль містычнай сімвалічнасці кніга «Беларускія народныя крыжы» стала своеасаблівым помнікам, «эпітафіяй» яе аўтару, яго духоўным пасланнем-запаветам, і менавіта часопіс «Наша вера» першым з дазволу Дзяніса Раманюка надрукаваў у 1998 г. (№ 2) фрагмент гэтай тады яшчэ нявыдадзенай кнігі.

Здзейсненае Міхасём Раманюком за кароткі век (пражыў ён усяго 53 гады) стала бясспрэчным здабыткам нашай культуры, спрыяла пашырэнню цікавасці да беларускай народнай спадчыны. Фотапартрэты беларускіх жанчын і дзяўчат у народных касцюмах, выкананыя Міхасём Раманюком, і яго малюнкі-рэканструкцыі беларускіх народных строяў рэпрадуцыруюцца ў сучасных альбомах, кнігах, паштоўках, марках, на мностве сайтаў. У 2014 г., у год, калі б Міхасю Фёдаравічу споўнілася 70, выйшла другое выданне альбома яго мастацка-графічных рэканструкцый «Беларускія народныя строі». 70-гадовы юбілей М. Раманюка быў адзначаны Беларускай акадэміяй мастацтваў, дзе ён выкладаў на працягу ўсяго свайго працоўнага жыцця. Гэтай жа даце быў прысвечаны і спектакль Ларысы Сімаковіч «Вандроўнік», прэм'ера якога адбылася ў Белдзяржфілармоніі.

Павага да асобы Міхася Раманюка і захапленне яго творчай і даследчай спадчынай не згасае. Дзесяць гадоў таму, у 2008 г. у зборніку, падрыхтаваным Беларускім інстытутам праблем культуры, быў змешчаны мой артыкул-успамін аб ім (Ю. Піскун. Памяці Міхася Раманюка // Нацыянальны касцюм у сучаснай сацыякультурнай прасторы). Цёпла і пранікнёна напісаў пра

---

**Юрый Піскун** — мастак і мастацтвазнаўца, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, дацэнт, сябра Беларускага саюза мастакоў. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1977). Аўтар звыш 50-ці навуковых артыкулаў па гісторыі беларускага іканапісу і старажытнабеларускага мастацтва, апублікаваных у выданнях Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Славакіі, Літвы, Італіі і ФРГ, аўтар манаграфіі «На перекрёстке европейских дорог. Белорусские иконы» (Мілан, 2007), складальнік і навуковы рэдактар альбомаў «Беларускае мастацтва XX стагоддзя» (Мінск, 2002), «Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мастацтва XV — пачатку XX стагоддзя» (Мінск, 2006).

яго Сяргей Харэўскі, адзначаючы ў сваім эсэ адданасць Міхася Раманюка беларускай ідэі (С. Харэўскі. Сто твараў ХХ стагоддзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу. Вільня, 2011).

Як і многія з мастакоў майго пакалення, я добра ведаў Міхася Фёдаравіча, вучыўся ў яго, вандраваў з ім па палескіх вёсках, дапамагаў яму ў рабоце, шмат часу праводзіў у яго майстэрні, падобнай на музей, напоўнены творамі народнага мастацтва, карцінамі і эцюдамі беларускіх мастакоў, падараваных імі гаспадару майстэрні ў знак сяброўскай прыязнасці і павагі. Асабліва каштоўнымі ў майстэрні былі скрынкі з мноствам фотакантролек і негатываў, адзнятых Раманюком падчас яго незлічоных вандровак па Беларусі. Многіх беларускіх мастакоў гэтыя фотаздымкі натхнялі на стварэнне жывапісных, графічных, скульптурных твораў. Не абмінуў захапленне яго фотаархівам і я.

У кароткім нарысе немагчыма распавесці пра ўсё, што прыходзіць на памяць пра тыя 23 гады, што звязвалі нас сяброўствам. Каб ахарактарызаваць асобу Міхася Фёдаравіча, паспрабую згадаць пра некалькі вандровак па запаветных кутках Беларусі.

Маё знаёмства з Раманюком адбылося ў 1974 годзе, калі я быў студэнтам другога курса аддзялення тканін і мадэлявання адзення. Гэта ж аддзяленне скончыў трыма гадамі раней і Міхась Раманюк, пасля ён скончыў аспірантуру і ў 1975 годзе абараніў дысертацыю. У 1974 г. Раманюк пачаў працаваць на кафедры мастацтвазнаўства Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. У нас ён чытаў курс лекцый «Беларускі народны касцюм і тэкстыль». Добра памятаю яго невысокую, хударлявую постаць з нязменным вялікім скураным партфелем, у якім



Жанчыны з вёскі Рудня Барталамееўская. 1975 г.

змяшчаліся слайды старадаўніх беларускіх народных касцюмаў і дасканалых па сваім мастацкім харастве абрадавых ручнікоў. Гэта быў унікальны матэрыял, вельмі важны для будучых мастакоў — іншых візуальных крыніц, дапаможнікаў, кніг па беларускім народным мастацтве ў той час яшчэ не было. Міхась Фёдаравіч заўсёды размаўляў са студэнтамі і чытаў свае лекцыі па-беларуску, што і нам давала смеласць выкарыстоўваць у сваіх адказах беларускую мову. Яго шчырае захапленне народным мастацтвам адразу перадавалася студэнтам, ён нібы ажыўляў нашу генетычную памяць, наш этнічны прыродны густ.

На зімовых канікулах ён запрасіў нас у сваю этнаграфічную вандроўку. Разам з ім выправіўся я і яшчэ двое студэнтаў — Павел Бондар, які пасля стаў вядомым мастаком па тэкстылі, і Сяргей Лагуновіч-Чарапко, будучы жывапісец, якому гэтая паездка дапамагла сабраць матэрыял для дыпломнай карціны. Было вельмі халоднае зімовае надвор’е, змрок рана ахутваў засыпаныя снегам хутары і вёскі, куды мы рушылі па абледзянелых дарогах, на студзёных цягніках і аўтобусах.

Маршрут пачынаўся ў Слуцку. Тут, на мясцовай фабрыцы мастацкіх вырабаў, тады ткалі на ручных кроснах спадніцы-андаракі для касцюмаў Дзяржаўнага народнага хору Беларусі па эскізах Міхася Раманюка, і яму трэба было прасачыць за выкананнем гэтага заказу. Створаныя Раманюком касцюмы сталі эталоннымі, упершыню галоўны народны хор краіны быў апрануты так хораша і этнаграфічна дакладна. Пасля Слуцка была паездка ў вёсачку Ленькі. Змешчаны ў кнізе «Беларускае народнае адзенне» фотапартрэт дзяўчынкі ў кабацiку з архаічнымі зашпількамі на плеценых тасёмках (іл. 359) быў зроблены менавіта ў гэтай вёсцы. Глядзіш сёння на гэты фотаздымак таямніча-засяроджанай вясковай дзяўчынкі са светлымі чыстымі вачыма, так выразна і шчымліва-пранікнёна зафіксаванай Міхасём Раманюком на плёнцы



Міхась Раманюк у вёсцы Бярэзнікі, Жыткавіцкі р-н. 1974 г.



Жанчыны з вёскі Аброва, Івацэвіцкі р-н. 1979 г.

свайго нязменнага «пентакона», і думаеш, які лёс напаткаў гэтае дзіця, як жыве яна цяпер? Не стане яе, як не стала стваральніка гэтага адлюстравання, як не стане ўсіх нас, а гэты здымак як сімвал чыстай беларускай душы, агорнутай бабулінай хусткай, апранутай у малінавы бабулін гарсэт, на вякі пакіне ўспамін пра тое, якімі былі мы, беларусы, у мінулым XX стагоддзі...

Са Слуцка са шматлікімі перасадкамі дабіраліся мы ў Калінкавічы, адтуль — у Васілевічы, з Васілевічаў пехатою ўжо пад вечар патрапілі ў вёску Залатуха. Там нам вельмі пашанцавала: у першай жа хаце на ўскраіне вёскі нас сустрэла пажылая жанчына, якая не пабаялася пусціць незнаёмых хлапцоў да сябе ў дом. У сціплай і чыстай вясковай хаце з пабеленымі сценамі найперш уразіў нас чырвоны кут з незвычайным драўляным свечнікам у форме гарызантальнага крыжа, скіраванага ўперад, што нібы абараняў і асвячаў пакой. Крыж-свечнік быў прымацаваны да паліцы, на якой змяшчаўся абраз, прыбраны ўзорыстым ручніком. Унікальны фотаздымак гэтага чырвонага кута, зроблены Міхасём Фёдаравічам, на жаль, не быў пры яго жыцці апублікаваны, захоўваецца і цяпер у ягоным архіве. Затое фотаздымак гаспадыні, прыбранай у дзявочы хвартушок, вышываную прыгожымі рамбічнымі ўзорамі сарочку і чырвоны андарак «ў граты», Міхась Раманюк змясціў у сваім альбоме. Так пачалося наша знаёмства з калінкавіцкім строем, які Міхась Фёдаравіч вызначаў як самы дасканалы лакальны варыянт у суквецці беларускіх народных жаночых касцюмаў. Мастацкае хараство калінкавіцкага строю раскрылася ва ўсёй паўнаце, калі наша гаспадыня адвяла нас да сваёй сяброўкі-суседкі, якая дастала са свайго куфра і апранула поўны камплект калінкавіцкага строю — андарак, сарочку з каўняром-«брыжамі», суконны гарсэт-кабат старадаўняга фасона, абшыты скручаным з воўны чырвоным шнурам. Завяршаў касцюм чапец з аздобленым нашываным узорамі донцам, абвязаны вакол чала ручніком-«скіндачкай» (у кнізе М. Раманюка фотаздымак гэтага касцюма — іл. 156). Гэтая ж жанчына паказала нам і архаічны палескі вясельны галаўны ўбор — «завівала» — сшытыя між сабой злучальным швом дзве даўжэзныя наметкі, якія накладаліся на галаву маладой злучанымі берагамі, а два другія згорнутыя ў сувоі канцы «завівала» затыкаліся крыж-накрыж у выраз гарсэта на грудзях. Па словах жанчыны, пасля вяселля гэты галаўны ўбор ніколі не апранаўся, а зберагаўся да смерці, ім усцілалі знутры труну нябожчыцы. Такая інфармацыя аб апатрапейнай магіі дэталяў народнага касцюма, аб набыцці касцюмам, ручніковымі тканінамі-наметкамі і абрадавымі ручнікамі сакральных функцый злучэння жыцця і смерці, «гэтага» і «таго свету», была вельмі важнай для Міхася Раманюка. Унікальны здымак жанчыны, прыбранай «завівалам», быў зроблены ім менавіта ў той зімовай экспедыцыі 1974 г., ён яшчэ нідзе не апублікаваны. Ужо пазней убачыў я акварэльны малюнак жанчыны ў вясельным «завівале», зроблены дзесяццю гадамі раней другім выдатным беларускім мастаком-этнографам, старэйшым


Дзяўчаты з вёскі Астромічы, Кобрынскі р-н. 1974 г.


Удзельнікі этнаграфічнай экспедыцыі з жыхарамі вёскі Асташкавічы, Светлагорскі р-н. 1985 г.

паплечнікам Міхася Раманюка Лявонам Баразной у палескай вёсцы Яланы (гэты малюнак можна пабачыць на выстаўцы, прымеркаванай да 90-годдзя Лявона Баразны ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў раўбіцкім касцёле). Апісанне гэтага ж вясельнага галаўнога ўбора, зробленае на пачатку XX ст. вясковым настаўнікам на мазырскім Палессі, змешчана сярод матэрыялаў Рускага геаграфічнага таварыства (Д. К. Зеленин, «Описание рукописей ученого архива императорского Русского географического общества», СПб., вып. 1–3, 1914–1916). Прыклад знаходкі і фотафіксацыі Міхасём Раманюком толькі адной гэтай рэчы — палескага вясельнага «завівала» — сярод шматлікіх іншых яго ўнікальных знаходак выразна акрэслівае тую выключную місію, якая была прызначана, спаслана яму ў справе вяртання з небыцця беларускай народнай духоўнай і матэрыяльнай спадчыны. Ён быў для нас павадыром у мінулае…

Апошняя наша сумесная паездка адбылася ў жніўні 1991 года ў вёску Рудня Барталамееўская Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці. Мы з Міхасём Фёдаравічам у 1975 годзе ўжо наведвалі гэтыя мясціны. У той экспедыцыі брала ўдзел больш за 10 студэнтаў тэатральна-мастацкага інстытута, многія з якіх пасля сталі вядомымі мастакамі і мастацтвазнаўцамі. Вызначаны Раманюком маршрут уключаў наведванне вёсак Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, Морач Клецкага раёна, Залужжа Старадарожскага раёна Мінскай вобласці. Ізноў, ужо ў другі раз, але ўлетку, наведалі мы вёску Залатуха, дзе Міхась Фёдаравіч зрабіў выдатныя пастановачныя здымкі дзясяткаў калінкавіцкіх строяў, прыбраўшы ў святочныя мясцовыя традыцыйныя касцюмы нас, студэнтаў, вясковых дзетак і маладзіц. Дзякуючы Міхасю Фёдаравічу ўвачавідку, у рэальнасці, праз традыцыйныя народныя касцюмы адбывалася шчымлівае злучэнне, яднанне адарванай ад сваіх вясковых каранёў гарадской студэнцкай моладзі з невядомым ім светам крэўна-роднай вясковай культуры, з векавечнымі народнымі традыцыямі, нібы «машына часу» перанесла нас на сто гадоў назад. Вясковыя жыхары прымалі студэнтаў, падобных на табар вандроўных цыганаў, вельмі цёпла, прыязна — частавалі, давалі прытулак на ноч. Далей рухаліся мы дзе пешшу, цягнучы на сабе цяжкія заплечнікі, дзе на трактарных прычэпах па лясных пясчаных дарогах. Фізічна было даволі цяжка, але ні мы, ні Міхась Раманюк не звярталі ўвагу на стому, з прыўзнятым настроем, у эйфарыі ад пабачанага, з жартамі і юнацкай энергіяй рушылі наперад. Так дабраліся мы на самы край Беларусі, у вёску Рудня Барталамееўская. Наведванне гэтай вёскі ў лясным гушчары падаравала многа адкрыццяў. Тут мы знайшлі вялікую колькасць касцюмаў краснапольска-чачэрскага строю, даведаліся пра абярэгавае прызначэнне чырвоных ваўняных фартухоў (на такі фартух баба-павітуха прымала народжанае дзіця) і пра абрадавае значэнне невялікіх памінальных ручнікоў — імі засцілалі магілкі малых дзяцей на Радуніцу. Дзіўным было для нас тое, што ў гэтай вёсцы побач з праваслаўнымі



Каля крыніцы ў вёсцы Рудня Барталамееўская. 1991 г.

жылі і католікі. І тыя, і другія былі, напэўна, патомкамі ўніятаў. Не было ў савецкі час у Рудні Барталамееўскай ні царквы, ні касцёла. Вернікам царкву «замяняла» крынічка, якая выцякала з-пад зямлі на беразе ракі, амаль пасярэдзіне вёскі. Тую крыніцу здаўна лічылі святой (традыцыя сакральнага ўспрыняцця крыніцаў жывая на Беларусі і сёння, асабліва на Падняпроўі і Пасожжы). На крыніцы ў вёсцы Рудня Барталамееўская ніякай купальні не было, мы ўбачылі тут толькі акуратны драўляны зруб, напоўнены чысцюткай крынічнай вадою, а побач з ім — два драўляныя крыжы, густа завешаныя ўзорыстымі тканымі ручнікамі. Жанчыны прыносілі і вешалі на гэтыя крыжы свае ручнікі — паднашэнні-малітвы, як прыносілі іх некалі ў царкву. Міхась Фёдаравіч сфатаграфаваў тыя крыжы ля крыніцы, як раней фатаграфаваў архаічнае драўлянае ўкрыжаванне на могілках у вёсцы Морач і вялізныя драўляныя крыжы, пастаўленыя ў «прошчы» — святым месцы ў лесе ў Светлагорскім раёне. Ужо тады ён збіраў матэрыял для свайго даследавання пра беларускія народныя крыжы.

…У 1991 годзе прайшло 5 гадоў пасля Чарнобыля. Радыяцыйны след моцна захапіў і тэрыторыю Чачэрскага раёна. Рыхтуючыся да мастацкай выставы, прымеркаванай да 5-годдзя чарнобыльскай катастрофы, я ўспомніў пра святую крыніцу ў Рудні Барталамееўскай і вырашыў напісаць карціну. Міхась Фёдаравіч падтрымаў маё імкненне і пагадзіўся разам са мною і вядомым магілёўскім мастаком Рыгорам Таболічам наведаць той запаветны край у міжрэччы Сожы і Бесядзі. Гэта апошняя наша сумесная вандроўка была вельмі незвычайнай, поўнай дзіўных прыгодаў. Як нейкі жывы цуд у вёсках па дарозе ў Рудню Барталамееўскую нас сустракалі жанчыны і дзеці, апранутыя ў старадаўнія народныя строі. Не трэба было хадзіць па хатах і ўгаворваць бабуляў паказаць, апрануць свае старадаўнія ўборы — усё было па нейкім прадбачанні ўжо падрыхтавана да здымак. Аказалася, што 13 жніўня ў Чачэрскі раён планаваўся прыезд творчай групы беларускага тэлебачання для здымак фільма пра спеўныя гурты чачэрскага краю, але нешта там у іх у апошні момант сарвалася і тэлевізіёншчыкі не прыехалі, не папярэдзіўшы аб тым ні раённае начальства, ні кіраўнікоў вясковых клубаў, якія ўжо былі ў прызначаны час напагатове са сваімі спявачкамі. Не ведаючы таго, мы рухаліся па тым маршруце, які запланавалі сабе работнікі тэлебачання, і патраплялі да носьбітаў мясцовых народных традыцый як нейкія збавіцелі ад сораму перад аднавяскоўцамі, іх кпінаў за сарванае відовішча. Выратавальны, легендарны фотаапарат «пентакон» Міхася Раманюка на высокім драўляным штаціве стаў выдатнай заменаю тэлекамеры. Бабулі і дзяўчаты вадзілі для нас карагоды, спявалі русальскія песні, разыгравалі «Пахаванне стралы». І самі артысты, і мы, як галоўныя пачэсныя сталічныя госці, і аднавяскоўцы — усе былі шчаслівыя агульнай еднасцю, усведамленнем таго, што свята ўсё ж здзейснілася. Такая ж цёплая, шчырая сустрэча адбылася ўжо надвячоркам і ў Рудні Барталамееўскай: тут нас чакалі, гасцінна частавалі, спявалі народныя песні, успомнілі нашу папярэднюю даўнюю сустрэчу. Тыя жанчыны і падрослыя ўжо дзяўчаты, чые фотаздымкі ў старадаўніх святочных строях змясціў Міхась Раманюк у сваім альбоме (іл. 225, 233, 269, 275), ганарыліся гэтым, захоўвалі дасланыя ім Міхасём Фёдаравічам пасля экспедыцыі 1975 г. фотакарткі. Працавітая вёска жыла сваім жыццём, не зважаючы на чарнобыльскае ліха, толькі пастарэлі ўжо жанчыны, якіх раней мы фатаграфавалі, а іх дзеткі разляцеліся па свеце (пляменніка адной з іх, які стаў афіцэрам, служыў на расійскім касмічным палігоне ў Плесецку, я сустрэў на рускай Поўначы ў 2005 г., ён ведаў альбом Раманюка і з гонарам ска-



Дзеці каля крыжоў у вёсцы Рудня Барталамееўская. 1991 г.

заў, што ў ім змешчаны фотапартрэт яго цёткі). Нас хвалявала, ці захавалася яшчэ святая крыніца на беразе рэчкі? Так, крыніца не знікла, усё гэтак жа над ёю высіліся крэпкія драўляныя крыжы пад стрэшкамі, густа ўвешаныя нядаўна замененымі затканымі чырванню ручнікамі. І як пра нейкі цуд даведаліся мы, што якраз менавіта заўтра, 14 жніўня, на свята Макавеяў ля крыніцы збяруцца жанчыны і дзеткі, запаляць свечкі, будуць чытаць Евангелле, маліцца, асвячаць вадою з крыніцы кветкі, яблыкі, моркву, абмываць твары. Нас прасілі не хадзіць у той дзень да крыніцы, каб не турбаваць вернікаў. Мы з Рыгорам так і зрабілі, але Міхась Фёдаравіч не мог упусціць нечаканую магчымасць зафатаграфаваць гэту дзіўную, захаваную да канца XX ст. праяву народнай веры, у якой сплаўлялася ў адно цэлае хрысціянская традыцыя і глыбока архаічнае духоўнае, сакральнае стаўленне да крынічнай вады, да роднай зямлі і яе пладоў. Таму з раніцы пайшоў ён на ўзгорак на бераг рэчкі і пачаў здымкі малення пад адкрытым небам, пад засенню дрэваў, навіслых над рэчкаю, як сцены незвычайнага храма. Жанчына, якая кіравала гэтым маленнем, паставілася да яго вельмі варожа — гэта быў адзіны такі выпадак у яго экспедыцыйнай практыцы: яна пачала асыпаць яго праклёнамі і нават кінула ў яго камень. Іншыя жанчыны супакойвалі яе, гаварылі, што паводзіць яна сябе нядобра, не па-хрысціянску, і што не варта забараняць прышламу чалавеку, вандроўніку, выконваць сваю работу. Так у фотаархіве Раманюка з'явілася яшчэ адна серыя ўнікальных фотадакументаў, прысвечаных самабытным культурным традыцыям вёскі Рудня Барталамееўская. Гэтыя найкаштоўнейшыя фотаздымкі зафіксавалі захаваную ў нашым народзе, нягледзячы на дзесяцігоддзі атэістычнага ціску, шчырую веру, якая не згасала нават пасля руйнавання цэркваў і касцёлаў і знішчэння святароў, а праяўляла сябе ў маленнях пад адкрытым небам, ля прыдарожных крыжоў, ля святых крыніцаў. Па фотаздымках Міхася Фёдаравіча ў тым жа 1991 г. напісаў я сваю карціну «Чыстая крыніца. Макавей».

Спадзяюся, што мае ўспаміны пра Міхася Фёдаравіча дапамогуць лепш зразумець яго місію акрыленага служэння беларускай культуры, яго вандроўны шлях па Беларусі. Жывым, вясёлым і дасціпным, чалавекам з сялянскай непасрэднасцю і ашчаднасцю, але і з вялікай шчодрасцю, разважлівасцю і бясконцай адданасцю сваёй справе запомнілі Міхася Раманюка яго вучні і паплечнікі. Углядаючыся ў яго фотаздымкі вяскоўцаў і гарадскіх дзяўчат, прыбраных у строі стогадовай даўніны, не адчуваеш ніякай штучнасці, пастановачнасці. Заўсёды ёсць адчуванне сапраўднасці, натуральнасці, нібы зроблены яны не ў апошняй чвэрці XX ст., а на сто гадоў раней. Мастак-фатограф Міхась Раманюк нібы лунаў у сваіх вандроўках на нябачных крылах збіральніцкага паклікання праз час. У гэтых партрэтных фоташэдэўрах ён адлюстраваў не толькі хараство беларускага народнага касцюма, але, найперш, прыгажосць нашага народа, яго кранутых маршчынамі твараў, напрацаваных мазолістых рук, высакародных паставаў, асветленых святлом розума і дабрыні вачэй. Як свой бясцэнны дар ствараў, збіраў Міхась Раманюк уласную партрэтную галерэю беларускага народа, і ў гэтым яго вялікая сыноўская заслуга перад Бацькаўшчынай.

*Фотаздымкі*
*Міхася Раманюка*
*для публікацыі прапанаваў*
*Дзяніс Раманюк.*

Юлія Шэдзько

# Мастацтва бачыць

*Уражанні ад наведвання выставы творчасці Пітэра Брэйгеля Старэйшага*



Канец мінулага 2018-га і пачатак 2019 года былі адзначаны адной з найцікавейшых культурных падзеяў — у музеі гісторыі мастацтва ў Вене прайшла выстава творчасці Пітэра Брэйгеля Старэйшага.

Выстава анансавалася як «*Experience of a lifetime*» («*Перажыванне на ўсё жыццё*»). Гучыць даволі пафасна, чаго не чакаеш ад аўстрыйцаў, але падзея і сапраўды з тых, што не паўтараюцца, — першая выстава творчасці мастака, якою адзначана 450 гадоў з часу яго смерці. Пітэр Брэйгель, пражыўшы ўсяго 44 гады (1525–1569), пакінуў надзвычай багатую спадчыну, аднак раней яго працы ніколі не экспанаваліся асобнай выставай: мастак рабіў малюнкі для гравюрнай майстэрні і шмат пісаў на замову багатых аматараў мастацтва, таму ў асноўным яго працы раскіданыя па адной-дзве па музеях усёй Еўропы і ў ЗША. У Вене, дарэчы, калекцыя самая вялікая — шэсць палотнаў. Магчыма, менавіта таму венскі музей быў выбраны для правядзення выставы, на якую ўдалося сабраць каля 2/3 усёй творчай спадчыны Брэйгеля: каля 30 палотнаў і больш за паўсотні графічных працаў. Некаторыя творы, на жаль, не ўдалося прывезці, напрыклад, «Жніво» з музея Метраполітэн у Нью-Ёрку або вядомых «Сляпцоў» з музея Кападзімонтэ ў Неапалі. Што датычыць апошняй, на венскай выставе ёй быў прысвечаны вялікі інтэрактыўны раздзел. Неабходна сказаць, што выстава складалася не толькі з карцінаў і малюнкаў, але і ўключала вялікую гісторыка-культуралагічную частку, дзе распавядалася пра эпоху, мастацкія тэхнікі і матэрыялы, якія выкарыстоўваў Брэйгель, этапы працы рэстаўратараў, аналіз карцінаў з дапамогаю сучасных ультрагукавых і спектральных высокатэхналагічных даследаванняў. Пітэр Брэйгель Старэйшы, апроч іншага, быў наватарам у тэхніцы жывапісу. Каб «ажывіць» сваіх сляпцоў, ён пісаў іх проста на палатне, не выкарыстоўваючы грунту, каб шурпатасць і няшчыльнасць фактуры матэрыялу зрабіла твары сапраўднымі, рэалістычнымі. Аднак гэта не дазваляе перавозіць карціну — занадта рызыкоўна, слой фарбы можа асыпацца. Каб убачыць яе, давядзецца ехаць у Неапаль!

Выстава стала надзвычай паспяховым культурным праектам, паказаўшы, што людзі гатовыя ехаць за тысячы кіламетраў толькі для таго, каб трапіць у музей. За тры з паловаю месяцы выставу наведала каля 408000 чалавек. Квіткі былі раскупленыя хутка, хоць музей некалькі разоў дадаваў гадзіны наведвання. У апошнія дні выстава працавала да гадзіны ночы, але ўсё адно колькасць людзей, якія жадалі яе наведаць, была такой, што музейныя касы былі завешаныя аб'явамі: «Квіткі на выставу Брэйгеля скончыліся. Зусім скон-

**Юлія Шэдзько** — супрацоўніца выдавецтва «Про Хрысто». Нарадзілася 29 ліпеня 1986 года ў Віцебску. У 2008 годзе скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Піша вершы і прозу, займаецца перакладамі. Друкавалася ў зборніках «In Vilnia veritas» (2007), «Сьвятая праўда ды іншыя казкі» (2010). Пераможца конкурсаў маладых літаратараў да 100-годдзя газеты «Наша Ніва» і памяці Карласа Шэрмана. Жыве ў Мінску.

чыліся. Нават па абанементах. Ніякіх квіткоў няма, прабачце». Побач з намі ў музеі гучала, напэўна, абсалютная большасць еўрапейскіх моваў і ў дадатак шмат азіяцкіх. Мне думаецца, што апроч велізарнай працы, зробленай маркетынгавым і медыйным аддзеламі музея, галоўная прычына такой папулярнасці выставы — асоба Пітэра Брэйгеля Старэйшага і незвычайны, ні на што не падобны свет яго карцінаў і малюнкаў.

На час выставы Вена, прынамсі яе цэнтр і музейны квартал, стала «акном» у Нідэрланды XVI стагоддзя. Персанажы Брэйгеля «выйшлі» на вуліцы з рэкламных плакатаў і вельмі добра там прыжыліся. Дзіўна было назіраць, як увечары стомленыя жыхары горада ідуць з працы следам за гэткімі ж стомленымі паляўнічымі, якія нарэшце вяртаюцца дамоў пасля няўдалага палявання, або як Вавілонская вежа ўпісваецца ў гарадскі краявід так, нібы тут яе сапраўднае месца, або як на падыходзе да музея вас сустракае сам кароль Німрод са світаю. Усё гэта, на маю думку, сведчыць пра адну з найважнейшых рысаў творчасці Пітэра Брэйгеля — універсальнасць. Яго працы — пра нас. Краявіды, касцюмы, час — знешняе, а мы, людзі, тыя ж — і ў часы Вавілонскай вежы, і ў нідэрландскай вёсачцы часоў Брэйгеля, і сённяшнія мы, якія прыйшлі паглядзець выставу.

Свет Брэйгеля ўліўся ў штодзённае жыццё Вены, а мы мелі магчымасць увайсці ў ягоны свет. Упершыню я была так блізка да карцінаў, ад іх амаль нічога не аддзяляла, адлегласць да палотнаў — сантыметраў у 30–40, а да графічных працаў за тонкім шклом можна было амаль прыціснуцца носам, каб разгледзець усё ў падрабязнасцях. Без гэтага выстава не мела б сэнсу, бо Брэйгель Старэйшы — гэта найперш




дэталі. Ён маштабны мініяцюрыст — на вялізных палотнах прапісаныя найменшыя дробязі краявіду і персанажаў, не кажучы пра графіку. Некаторыя дэталі амаль немагчыма разгледзець і ацаніць, і тут музей падрыхтаваў для наведнікаў і ўсіх аматараў творчасці мастака яшчэ адзін сюрпрыз. Да адкрыцця выставы на сайце музея *(Kunst Historisches Museum Wien*) з'явіўся інтэрактыўны праект «*Inside Bruegel*» — палотны Пітэра Брэйгеля, якія знаходзяцца ў сталай экспазіцыі ў Вене, былі сфатаграфаваныя ў фармаце макраздымкаў, і любую частку палатна можна разгледзець з павелічэннем да сантыметра. Дэталізаванасць карцінаў агаломшвае, з такой неверагоднай любоўю выпісаны кожны фрагмент! Так на працах раскрываецца незаўважнае, нябачнае чалавечаму воку. Гэта таксама выразная рыса творчасці Пітэра Брэйгеля і яго мастацкай філасофіі. Ён гаворыць нам: «Людзі вельмі многае не здольны разгледзець». Праблема слепаты вельмі важная для мастака: мы ўсе бываем сляпыя да таго, што адбываецца побач. Мы не ўмеем прыглядацца, не валодаем мастацтвам бачыць. У той жа прасторы, дзе існуе чалавецтва, адбываюцца цудоўныя рэчы, а бачаць і разумеюць іх адзінкі. Нездарма цяжка ўбачыць на карцінах Брэйгеля людзей з выразна напісанымі, расплюшчанымі, удумлівымі вачыма. Асноўная маса яго герояў — сляпыя ў прамым сэнсе слова або ў пераносным, бо цалкам занурыліся ў свае клопаты.

Пры гэтым самі твары на карцінах і малюнках дзіваць. Майстар дробных дэталяў звяртае на выпісванне партрэтных рысаў неверагодна мала ўвагі — большасць з іх размытыя, як плямы, нібыта зробленыя пад капірку. Часам, калі б не касцюм, немагчыма было б зразумець, хто гэта: мужчына, жанчына ці дзіця. Часта галоўныя героі наогул стаяць да гледача спінаю. Чаму? Бо для ідэі, якую жадае данесці да нас Брэйгель, гэта неістотна. Кожны твар з кожнага палатна і малюнка можа аказацца тварам нашага суседа, знаёмага, брата, вашым тварам і маім уласным. Часу не існуе, усё адбываецца цяпер, і ўсе мы — героі гэтых сюжэтаў. Часам мастак кажа пра гэта амаль напрамую, напрыклад, у малюнку «Кожны» («*Elck*»). Складаная кампазіцыя малюнка паказвае аднаго і таго ж чалавека з барадою і ў акулярах у некалькіх ча́савых адрэзках: вось ён шукае нешта ў агромністай кучы рэчаў, трымаючы ліхтар, вось змагаецца з самім сабою за нейкую анучу, вось ён у бочцы, а вось у мяху. А малюнак на сцяне красамоўна гаворыць: «Ніхто не ведае сябе самога»…

Пітэр Брэйгель жадае навучыць нас бачыць. Мастак нібы гуляе з гледачом: ніколі сапраўдны змест яго карцінаў не раскрываецца з першага погляду. Калі



не чытаць назвы, можна наогул не здагадацца, што адбываецца на палатне або малюнку, як найчасцей не бачаць гэтага і самі героі: жаўнеры не бачаць, як Саўл упаў з каня, а Боскае святло, якое ўразіла яго, ледзь заўважнае сярод раскошы навакольнага краявіду («Навяртанне Саўла»); жыхары нідэрландскага мястэчка выбіраюць на кірмашы свіней, цэдзяць піва з вялізных бочак, цягнуць мяхі з таварам, дзеці катаюцца на лядзянках, і ніхто не бачыць сціплую пару людзей, якія прыйшлі здалёк запісацца ў мясцовую імправізаваную кантору («Перапіс у Бэтлееме»)... Кожны твор — загадка. Брэйгель нібы ставіць перад гледачом задачу ўбачыць сапраўднае, схаванае, але дае падказкі, якія патрабуюць уважлівасці і засяроджанасці. Ён пераварочвае ўсё з ног на галаву: дзеці на карціне могуць аказацца зусім не дзецьмі, лоўчыя на птушак — ахвярамі гэтых птушак, паляўнічыя — зусім не паляўнічымі, тры каралі-мудрацы — зусім не мудрымі… А нехта адзін заўсёды глядзіць знутры карціны проста на гледачоў, нібыта вачыма самога мастака, і ацэньвае нас, пытаецца: «А ты бачыш? А ты здагадаўся?».

Ёсць мастацтва і Мастацтва — тое вялікае, што паварочвае развіццё чалавецтва ў іншы бок, моцна ўплываючы на наступныя пакаленні творцаў і гледачоў, адгукаючыся ў далёкай будучыні, раскрываючыся новымі сэнсамі, нязменна трывожачы сэрцы. У музыцы мне найпрасцей прывесці такі прыклад — ёсць найцудоўнейшыя кампазітары, неверагодныя, вельмі таленавітыя, якія пакінулі незабыўныя творы, а ёсць Ёган Себасцьян Бах. І можна больш нічога не казаць, таму што Бах — гэта Мастацтва. І музыка падзяляецца на дзве часткі: да Баха і пасля яго. Гэтак жа, мне падаецца, і з Пітэрам Брэйгелем Старэйшым. Глядзіш на яго творы — і бачыш мноства алюзій, колераў, герояў з наступных эпохаў.

Брэйгель і сам вучыўся і перапрацоўваў досвед папярэдніх часоў, найперш італьянскага Рэнесансу. Глыбока ўражаны творчасцю Іераніма Босха, у ранніх працах ён у многім капіяваў стыль свайго суайчынніка, выкарыстоўваў падобную да ягонай сімволіку. Працуючы ў майстэрні гравюраў Іераніма Кока ў Антвэрпене, ён дасканала распрацаваў майстэрства малюнку. Асабліва цікава разглядаць самі малюнкі і тут жа побач — гравюры, зробленыя паводле іх. Неверагодныя «Сем грахоў» і «Сем цнотаў» — мора сімвалаў і зместаў, якія раскрываюцца ўсё большым багаццем, пакуль іх разглядаеш. Вось Зайздрасць з'ядае ўласнае сэрца, а Гнеў труціцца атрутаю, якую нясе ў руках, агідная рапуха паказвае брыдкасць Сквапнай душы, а манах папярэджвае Лянноту, што час мінае вельмі хутка. Апроч зразумелых сімвалаў, Брэйгель дадае іранічныя, а часам загадкавыя метафары: сярод бурнага мора тоне карабель, і марак імкнецца да Надзеі, якая стаіць на якары, а тут жа на беразе рыбак спакойна сядзіць з вудаю, не звяртаючы ўвагі на шторм; гравюра, якая ўвасабляе Справядлівасць, поўная выяваў катаванняў і караў, а на заднім плане — сцэна Хрыстовага ўкрыжавання: мастак нібы пытаецца, няўжо справядлівасць павінна быць такая?

Ён сам уважліва ўглядаецца ў рэальнасць, шукаючы праўды, імкнучыся яе зразумець. Гэтая тэма мастацкага пошуку асабліва выяўляецца ў малюнку «Мастак і заказчык-знаўца». Выяву мастака на ім нельга назваць аўтапартрэтам, і наогул, дакладных партрэтаў Брэйгеля Старэйшага не захавалася, але гэты вобраз — засяроджаная фігура перад мальбертам з пэндзлем у руцэ, з глыбокім задумлівым позіркам уважлівых вачэй пад густымі бровамі — можна смела лічыць духоўным аўтапартрэтам. Кантрастам да яго выступае фігура заказчыка з даўганосым, у акулярах тварам. Ён цягнецца наперад, каб праз плячо мастака разгледзець ягоную працу. Уся яго постаць — увасабленне неразумення і невуцтва, і з першага погляду ясна, што гэты «знаўца» не ведае нічога.

Можа таму, Брэйгель Старэйшы, працуючы ў асноўным на замову, хоць і быў вельмі запатрабаваным мастаком, не браў замовы на партрэты, а ўсім вядомыя, класічныя, замоўленыя яму сюжэты ператвараў у зусім незвычайныя, часам вельмі дзёрзкія, часам глыбока філасофскія, але ўбачыць гэта можа толькі вельмі ўважлівы глядач.



У 1563 г., прыблізна ў 38 гадоў, Брэйгель з сям'ёю перасяляецца ў Брусэль і там цалкам раскрываецца як жывапісец. Там ён піша вядомыя палотны «Пакланенне мудрацоў», «Шлях на Галготу», жывапісны цыкл «Поры года», «Вясковае вяселле», «Вясковы танец», «Зімовы краявід з канькабежцамі і птушынай пасткай», абедзве «Вавілонскія вежы» (у дакументах сучаснікаў узгадваецца яшчэ і трэцяя, мініяцюра, але яна не дайшла да нашых часоў) і іншыя.

З усіх гэтых палотнаў яшчэ выразней гучыць пасланне мастака: «Усё важнае схавана ў глыбіні, быць побач — не тое самае, што бачыць і разумець. Будзь уважлівы, чувай, каб не прапусціць цуд, каб адгадаць загадку гэтага свету, і памятай, што галоўнае не заўсёды бывае на пярэднім плане».

Звернем увагу на палатно «Шлях на Галготу»: фігуру Хрыста, які знаходзіцца ў самым цэнтры палатна, цяжка заўважыць сярод натоўпу, які Яго атачае. Усе занятыя сабою, усе бягуць, каб хутчэй паглядзець на відовішча — пакаранне смерцю трох злачынцаў. Толькі адзін жаўнер запытальна глядзіць на нас з карціны: маўляў, а вы заўважылі? На першым плане сярод плачучых фігураў Багародзіцы, святога Яна і жанчынаў вылучаецца яшчэ адна — з шырока расплюшчанымі чорнымі вачыма стаіць, учапіўшыся ў слуп для калесавання, невядомы вучань Хрыста, па выглядзе — сучаснік мастака. Ён — сярод тых нямногіх, хто разумее, што адбываецца на карціне, і таму яго бледны напружаны твар і позірк так пужаюць. Натоўп віруе ў даліне, а над ім на скале маўклівым сведкам узносіцца вятрак. Ветракі часта паказаныя на малюнках і палотнах Брэйгеля як сімвалы кругаверці прыроды і часу. Тое, што адбывалася на крыжовым шляху на Галготу, адбываецца і цяпер: кола часу паварочваецца, а гэтая Ахвяра застаецца, як і натоўп, што атачае Яе.

Пітэр Брэйгель Старэйшы — мастак, які сярод іншага вызначыўся і тым, што на сваіх карцінах замест прывычнага перанясення гледача ў рэальнасць біблійных падзеяў пераносіць самі падзеі ў нашую рэальнасць. Пра гэта — адна з маіх улюбёных яго працаў, «Пакланенне мудрацоў у снезе», якая знаходзіцца ў экспазіцыі маленькага музея ў Вінтэртуры, у Швейцарыі. Зімовая вёска патанае ў свежых гурбах, а яе жыхары — у сваіх зімовых справах. Галоўнае ў Брэйгеля ніколі не бывае ў цэнтры, на паверхні, вось і тут вялікія падзеі адбываюцца ў самым ніжнім кутку карціны. Укрыты снегам дах, некалькі схіленых фігураў, светлы, поўны ззяння жаночы абрыс з Дзіцем на руках — усё гэта ледзь заўважна, бо прастору палатна засыпаюць вялізныя пульхныя камякі снегу. Брэйгель, імаверна, першы з мастакоў так намаляваў снег. І адчуваецца, што гэты снег, у адрозненне ад большасці людзей, «разумее» значнасць падзеі і нібы імкнецца суцішыць, упрыгожыць, асвятліць свет, у які прыйшло Хрыстовае Нараджэнне… І мы, гледзячы на яго, таксама пачынаем гэта разумець…

Жывапіс Брэйгеля, думаецца мне, так блізкі і таму, што ягоная зіма — гэта нашая вясковая зіма са снегам, катаннем на каньках, зімовымі паляваннямі і смаленнямі вепрукоў, і лета Брэйгеля — гэта нашае лета, не італьянскае і тым больш не палестынскае. Фантастычнасць і рэальнасць у яго творах дзіўным чынам пераплятаюцца і зацягваюць у сябе, змушаюць уважліва ўглядацца і следам за мастаком шукаць сапраўдны сэнс таго, што адбываецца навокал, вучыцца бачыць і разумець.

*Фота аўтара*
*і Дзмітрыя Косава.*

# CONTENTS

We open this issue of the magazine «Our Faith» with the continuation of the publication of the treatise of St. John of the Cross «The Ascent of Mount Carmel» (translated from Spanish by S. Gresvi) (p. 2-5).

T. Klimovich offers the readers the interview «For the Glory of God» with father V. Zhuk SJ (p. 6-9).

Archivist A. Shpunt in his article «Canon Józef Mickiewicz SJ Is the Father of Industrial Technology in Lithuania» interestingly talks about the works of one of the most active Jesuits in our region (p. 10-13).

Art critic N. Usava in her essay «The Paradox of Eugeniusz Kazimirowski» tells the readers a story of the painting «Reading», where the artist depicted Blessed fr. M. Sopoćko, confessor of St. Faustina Kowalska (p. 14-16).

V. Kalechyts in his article «About the Family Tree of Blessed Father Michal Sopoćko» acquaints readers with the origins of the Sopoćko family (p. 17).

Artist A. Pushkin in his essay tells the readers a story of his painting «Paschal Mystery of Our Lord Jesus Christ» for the Corpus Christi church in the village of Berazinskaye (p. 18-19).

Art critic S. Hareuski writes about the exhibition «Sacred Culture of the Catholic Church of Belarus», which takes place from February 14 at the National Historical Museum of Belarus (p. 20-23).

Y. Lauryk in his article «Report of Nuncio Monsignor Giulio Ruggieri...» acquaints readers with his new discovery: a rare manuscript addressed to Pope Pius V (p. 24-29).

Chief Editor of the magazine «Our Faith» K. Lialko in her eulogy «To the Memory of the Friend» writes about outstanding Belarusian historian Y. Turonak, who from the beginning of the magazine was the member of its Editorial Board and the author. Here we also publish article «The True Historian» by literary critic Y. Yanushkevich dedicated to the memory of Y. Turonak (p. 30-37).

K. Lialko acquaints the readers with the book of memories «To Gather the Scattered» by Archbishop D. Hrušovský, former Apostolic Nuncio in Belarus (1996-2001) (p. 38-40).

Writer D. Bichel in her memories «The Pasture. The Lake from My Dream...» writes about her native places and people (p. 41-45).

In column «Poetry» we publish poems by poetesses G. Karzhajneuskaya and A. Sprynchan (p. 46-49).

Z. Baranouskaya writes about new verses by D. Bichel in her essay «Only Words...» (p. 50-51).

In column «Prose» we publish the memories of I. Zharnasek «The Drifting Ice of Our Days» (p. 52-57).

L. Kaminskaya in her essay «In the Colours of Love and Pain» writes about the work of the People's Artist of Belarus G. Vashchanka (p. 58-61).

Artist Y. Piskun dedicated his article «The Inspired Wanderer» to the 75th anniversary of ethnographer, art historian M. Ramaniuk (p. 62-67).

Y. Shedzko in her essay «The Art Sees» interestingly talks about her impressions of the exhibition of P. Bruegel the Elder in Vienna (p. 68-71).

# RESÜMEE

Die aktuelle Ausgabe der Zeitschrift „Naša vera" („Unser Glaube") beginnt mit der Fortsetzung der Übersetzung des Traktates „Aufstieg auf den Berg Karmel" des heiligen Johannes vom Kreuz (aus dem Spanischen von S. Greswi) (S. 2-5).

T. Klimowitsch präsentiert den Leserinnen und Lesern das Interview „Um des größeren Lobes Gottes willen" mit dem Priester W. Shuk SJ (S. 6-9).

Der Archivar A. Spunt berichtet im Artikel „Priester und Kanoniker Józef Mickiewicz SJ — Vater der industriellen Technologie in Litauen" auf interessante Weise über die Tätigkeit eines der aktivsten Jesuiten in unserem Land (S. 10-13).

Die Kunstwissenschaftlerin N. Usawa schreibt im Essay „Das Paradoxon von Eugeniusz Kazimirowski " über das Gemälde „Beim Lesen", auf dem der Maler den seligen Priester M. Sopoćko, den Beichtvater der Ordensschwester Faustyna Kowalska, dargestellt hat (S. 14-16).

Von der Abstammung des Geschlechtes der Sopoćkos erfahren die Leserinnen und Leser im Artikel „Über den Stammbaum des seligen Priesters Michał Sopoćko" von W. Kaletschyz (S. 17).

Der Maler A. Puschkin berichtet im kunstvollen Essay über das eigene Werk „Das Ostermysterium unseres Herrn Jesus Christus", das er für die katholische Kirche des Leibes Christi in der Siedlung Berasinskaje geschaffen hat (S. 18-19).

Der Kunstwissenschaftler S. Hareuski schreibt über die Ausstellung „Die sakrale Kultur der Katholischen Kirche in Belarus", die seit dem 14. Januar im Nationalen historischen Museum von Belarus läuft (S. 20-23).

J. Lauryk macht die Leserinnen und Leser im Artikel „Die Relation des Nuntius Monsignore Giulio Ruggieri…" mit seinem neuen Fund bekannt: einem seltenen Manuskript, das an den Papst Pius V. adressiert ist (S. 24-29).

Die Redakteurin der Zeitschrift „Naša vera" K. Lialko schreibt das Abschiedswort „Dem Andenken an den Freund" für den hervorragenden Historiker J. Turonek, der seit der Gründung der Zeitschrift Mitglied der Redaktionsleitung und Autor war. Es folgt der dem Andenken an J. Turonek gewidmete Artikel „Ein wahrheitsgetreuer Historiker" des Literaturwissenschaftlers J. Januschkewitsch (S. 30-37).

K. Lialko stellt den Leserinnen und Lesern die Memoiren „Die Verstreuten sammeln" des Erzbischofs D. Hrušovský, des ehemaligen Apostolischen Nuntius in Belarus (1996 – 2001), vor (S. 38-40).

Die Schriftstellerin D. Bitschel schreibt in den Erinnerungen „Weide. Ein kleiner See aus meinem Traum …" über für sie heimische Orte und geliebte Menschen (S. 41-45).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte der Poetinnen G. Karshaneuskaja und A. Spryntschan (S. 46-49).

Über die neuen Gedichte von D. Bitschel schreibt im Essay „Nur Worte …" Sosja Baranouskaja (S. 50-51).

Die Rubrik „Prosa" enthält die Erinnerungen von I. Sharnasek mit dem Titel „Der Eisgang unserer Tage" (S. 52-57).

Von dem Schaffen des Volksmalers von Belarus G. Waschtschanka handelt L. Kaminskajas Essay „In den Farben der Liebe und des Schmerzes" (S. 58-61).

Dem 75. Geburtstag des Ethnographen und Kunstwissenschaftlers M. Ramanjuk ist der Artikel „Der beflügelte Wanderer" des Malers J. Piskun gewidmet (S. 62-67).

J. Schedsjko berichtet im Essay „Die Kunst des Sehens" auf interessante Weise über ihre Eindrücke vom Besuch der Bruegel-Ausstellung in Wien (S. 68-71).

# PODSUMOWANIE

Niniejszy numer kwartalnika „Nasza wiara" rozpoczyna się kontynuacją publikacji traktatu św. Jana od Krzyża „Droga na Górę Karmel" (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi) (S. 2-5).

T. Klimowicz proponuje czytelnikom wywiad z o. W. Żukiem SJ „Dla większej sławy Bożej" (S. 6-9).

Archiwista A. Szpunt w art. „Ksiądz kanonik Józef Mickiewicz SJ — ojciec technologii przemysłowej na Litwie" interesująco opowiada o działalności jednego z najbardziej aktywnych jezuitów w naszym kraju (S. 10-13).

N. Usawa, historyk sztuki, w eseju „Paradoks Eugeniusza Kazimirowskiego" przedstawia obraz „Przy czytaniu", na którym artysta namalował bł. ks. M. Sopoćko, spowiednika s. Faustyny Kowalskiej (S. 14-16).

W. Kaleczyc w art. „O rodowodzie błogosławionego księdza Michała Sopoćki" zaznajamia czytelników z pochodzeniem rodu Sopoćków (S. 17).

Malarz A. Puszkin w swoistym eseju opowiada o swej pracy wykonanej dla kościoła pw. Bożego Ciała w miasteczku Bierazińskie – „Misterium Paschalne Pana naszego Jezusa Chrystusa" (S. 18-19).

S. Hareuski, historyk sztuki, opisuje wystawę „Kultura sakralna Kościoła na Białorusi", udostępnioną zwiedzającym od 14 lutego br. w Narodowym Muzeum Historycznym Białorusi (S. 20-23).

J. Lauryk w art. „Relacja Nuncjusza Apostolskiego Giulio Ruggieri" zapoznaje czytelników ze swoją nową zdobyczą - rzadkim rękopisem, adresowanym do papieża Piusa V (S. 24-29).

K. Lalko, redaktor czasopisma „Nasza wiara", w słowie pożegnalnym «Pamięci Przyjaciela» pisze o wybitnym białoruskim historyku J. Turonku, który od początku powstania czasopisma był członkiem kolegium redakcyjnego i autorem. Tutaj również umieszczono art. historyka literatury J. Januszkiewicza „Prawdziwy Historyk", poświęcony pamięci J. Turonka (S. 30-37).

K. Lalko zapoznaje również czytelników z księgą wspomnień arcybiskupa D. Hruszowskiego, dawnego Nuncjusza Apostolskiego na Białorusi (1996–2001), zatytułowaną „Zebrać rozproszonych" (S. 38-40).

Pisarka D. Biczel we wspomnieniach „Wygon: Jezioro z mojego snu..." pisze o rodzinnych stronach i ludziach (S. 41-45).

W rubryce „Poezja" umieszczono wiersze poetek G. Karżanieuskiej i A. Sprynczan (S. 46-59).

Zofia Baranowska w eseju „Tylko słowa..." pisze o nowych wierszach D. Biczel (S. 50-51).

W rubryce „Proza" opublikowano wspomnienia I. Żarnasiek „Naszych dni łamanie lodów" (S. 52-57).

L. Kamińska w eseju „W barwach miłości i bólu" pisze o twórczości białoruskiego artysty I. Waszczanki (S. 58-61).

Z okazji 75-ej rocznicy urodzin M. Romaniuka, etnografa i historyka sztuki, poświęcono art. „Skrzydlaty wędrownik" napisany przez malarza J. Piskuna (S. 62-67).

J. Szedźko w eseju „Sztuka patrzenia" interesująco opowiada o swoich wrażeniach z obejrzenia wiedeńskiej wystawy Pietera Bruegela starszego (S. 68-71).

# SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con la parte successiva del trattato di San Giovanni della Croce "La salita al monte Carmelo" (traduzione dallo spagnolo è di S. Gresvi) (p. 2-5).

T. Klimovič sottopone all'attenzione dei lettori la sua intervista "Per la lode più grande del Dio" con il padre V. Žuk SJ (p. 6-9).

L'archivista A. Špunt nell'articolo "Il prete canonico Józef Mickiewicz SJ, padre della tecnologia industriale in Lituania" racconta dell'attività di uno dei gesuiti più attivi nelle nostre terre(p. 10-13).

La critica d'arte N. Usava nel saggio "Il paradosso di Eugeniusz Kazimirowski" racconta del quadro "Alla lettura" dove il pittore ha disegnato il benedetto sacerdote M. Sopoćko, confessore della santa Faustina Kowalska (p. 14-16).

V. Kalečyc nell'articolo "Sulla genealogia del benedetto prete Michal Sopocko" ha conoscere ai lettori l'origine della famiglia Sopocko (p. 17).

Il pittore A. Puškin nel saggio racconta del suo lavoro "Il mistero pasquale del nostro Signore Gesù Cristo" per la Chiesa del Corpo di Dio al centro abitato Berazinskaje (p. 18-19).

Lo storico d'arte S. Chareuski scrive della mostra "La cultura sacrale della Chiesa Cattolica in Bielorussia" che dal 14 febbraio è aperta presso il Museo Storico Nazionale di Belarus (p. 20-23).

Ju. Lauryk nell'articolo "La relazione del nunzio monsignore Giulio Ruggeri..." fa conoscere ai lettori la sua nuova scoperta quale un manoscritto raro destinato al Papa Pio V (p. 24-29).

La Direttrice della rivista "Naša vera" K. Lalko nella parola d'addio "Alla memoria dell'amico" scrive del brillante storico Ju. Turonak che fin dall'inizio dell'edizione della rivista è stato membro della sua direzione e l'autore. Accanto si pubblica l'articolo dello storico di letteratura Ja. Januškevič "Uno storico verace" dedicato alla memoria di Ju. Turonak (p. 30-37).

K. Lalko presenta ai lettori il libro dei ricordi "Raccogliere i dispersi" dell'arcivescovo D. Hrušovský, già nunzio apostolico in Bielorussia (1996–2001) (p. 38-40).

La scrittrice D. Bičel nei ricordi "Il pascolo… Il laghetto dal mio sogno..." scrive dei luoghi natali e delle persone care (p. 41-45).

Sotto la rubrica *Poesia* si pubblicano le opere delle poetesse H. Karžaneuskaja e A. Spryňčan (p. 46-49).

Zosia Baranouskaja scrive di nuove poesie di D. Bičel nel saggio "Soltanto parole..." (p. 50-51).

Nella rubrica *Narrativa* si pubblicano i ricordi di I. Žarnasek "La fluitazione di nostri giorni" (p. 52-57).

L. Kaminskaja nel saggio "Nei colori dell'amore e del dolore" racconta dell'attività artistica dell'insignito del titolo "Pittore di popolo di Belarus" G. Vaščanka (p. 58-61).

Al 75° anniversario della nascita dell'etnografo e del critico d'arte M. Ramanjuk è dedicato l'articolo del pittore Ju. Piskun "Un viaggiatore ispirato" (p. 62-67).

Ju. Šedzko nel saggio "L'arte di vedere" racconta delle sue impressioni dalla visita della mostra di P. Bruegel il Vecchio a Vienna (p. 68-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — Гаўрыла Вашчанка «Маленне аб келіху». 100x59, палатно, алей, 1999 г.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 1 (87)/2019.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 356-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік — Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 14.03.2019 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад — 800 экз. Зак. № 329.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*

# НАША САКРАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА



Маці Божая з Дзіцяткам Езусам
і Янам Хрысціцелем. XIX ст.



Святая Марыя Магдалена. XVIII ст.



Маці Божая Вастрабрамская. XIX ст.




Святы Антоні Падуанскі. 1744 г.

*Фота М. Новікава.*

# У ФАРБАХ ЛЮБОВІ І БОЛЮ

*Карціны Гаўрылы Вашчанкі (1928–2014)*



«Ростані».
1995, палатно, алей.



«Сон. Калядны аўтапартрэт».
1995, палатно, алей, 75х35.



«Звеставанне».
1992, палатно, алей, 97х76.



«Ярдань на Палессі».
1989, палатно, алей, 75х98.